НАЙСТАРЭЙШЫ Ў ЕЎРОПЕ: ГАДЗІННІК У ГРОДНЕ

ВЕНЕЦЫЯ

@Пішам добрыя тэксты ад 1906 www.nn.by

# Наша Гісторыя

№ 2 (19) – 2020

ISSN 2617-2305

ЗАХАПЛЯЛЬНЫЯ БІЯГРАФІІ
ЦІКАВЫЯ ЗНАХОДКІ
ВАЖНЫЯ АДКРЫЦЦІ



НАШ ЧАЛАВЕК-МЯДЗВЕДЗЬ

КАЛОДНАЕ, ЛІТВІНСКІ АСТРАВОК

«УТРЫМАЦЬ ЦІТА НА ПЛЫВУ»

## ЖЫГІМОНТ І БАРБАРА

## ФАТАЛЬНАЕ ПАДЗЕННЕ





































## Калі часопіса не засталося ў «Саюздруках» і на поштах, пытайцеся яго ў кнігарнях

**Мінск**
Symbal.by (пр. Машэрава, 18)
«Мой модны кут» (Цэнтр «Маскоўска-Венскі», павільён 333 — гэта каля ЦУМа, метро «Плошча Якуба Коласа», пр. Незалежнасці, 58)
«Акадэмкніга» (пр.Незалежнасці, 72, метро «Акадэмія навук»)
Філіял «Акадэмкнігі» на вул. Багдановіча, 46
Гандлёвы цэнтр «Купалаўскі» (пад Кастрычніцкай плошчай), крамы 37, 41–42 і 44–45
«Галіяфы» (вул. Няміга, 3, крама № 47 на цокальным паверсе)
Кніжны кірмаш па вул. Даўмана, 23 (субота 00.00–14.00), месца 78б
«Рагна» (вул. Сухая, 4, метро «Фрунзенская»)
«Кніжная шафа» (пр. Дзяржынскага, 9)
«Светач» (пр. Пераможцаў, 11)
«Цэнтральная кнігарня» (пр. Незалежнасці, 19)
«Кнігі і кніжачкі» (пр. Незалежнасці, 14)
«Эўрыка» (вул. Куйбышава, 75)

**Поштай ці з дастаўкай на дом** вы можаце яго замовіць праз Halijafy.by, Knihi.by, Kniger.by, Akademkniga.by

**Гродна**
«Цудоўня» (вул. Кірава, 3).
«Кругагляд» (б-р Ленінскага камсамола, 29а)
«Раніца» (вул. Маставая, 33)

**Брэст**
«Князь Вітаўт» (вул. Савецкая, 55)
«Асвета» (пр. Машэрава, 57)
«Дружба»(б-р Касманаўтаў, 120)
«Іскра» (вул. Пушкінская, 4)

**Гомель**
«Кніжны свет» (пр. Леніна, 45)

**Віцебск**
«Светач» (вул. Кірава, 10)
«Глобус» (вул. Замкавая, 21–30)

**Магілёў**
«Гасцінец» (Віцебскі праспект, 48)

**Бабруйск**
«Крыніца ведаў» (вул. Горкага, 31)

**Баранавічы**
«Кнігі» (вул. Савецкая, 73)

**Маладзечна**
«Спадчына» (вул. Прытыцкага, 7)

**Ліда**
«Кніжны свет» (пр. Перамогі, 33)

**Навапалацк**
«Дом кнігі» (вул. Маладзёжная, 145)
«Усход» (вул. Кірава, 4)

**Пінск**
«Мой модны кут» (вул. Леніна, 31)

Акрамя таго, праз сайт **ARCHE.BY** часопіс можна купіць у ПДФ, у электроннай версіі.

Наша Гісторыя
2/2020
history.nn.by

**Навукова-папулярны, літаратурна-мастацкі часопіс**

Выдаецца з 2018 г.

ISSN 2617-2305

Зарэгістраваны Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Пасведчанне аб рэгістрацыі №1921 ад 11.07.2018 г.

**Галоўны рэдактар**
Андрэй Васільевіч Дынько

**Намеснікі галоўнага рэдактара**
Аляксандр Пашкевіч, кандыдат гістарычных навук
Іна Хоміч

**Дызайн і вёрстка** Уладзіслава Губіч

**Карэктура** Таццяна Кур'ян

На першай старонцы вокладкі — Партрэт Барбары Радзівіл аўтарства Лукаса Кранаха Малодшага. 1553 год.

Часопіс «Наша гісторыя» выходзіць на беларускай і рускай мовах.
Перыядычнасць — 1 раз на месяц.



**Заснавальнік:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Суродзічы».
Р/р BY84BLBB30120190786828001001 у аддз. 539 ААТ «Белінвестбанк» г. Мінск, вул. Калектарная, 11 код BLBBBY2X,
УНП 190786828.

**Адрас рэдакцыі:** 220030, Мінск, вул. Энгельса, 34А.

**Адрас для допісаў:** 220004, Мінск, а/с 62.

**Тэлефоны:** (017) 316-48-13, (029) 613-32-32, (029) 707-73-29

**E-mail:** history@nn.by

Цана дамоўная.

**Падпісаны ў друк** 10.02.2020.
Афсетны друк. Папера лёгкакрэйдаваная.
Фармат 60×84/8.
Умоўных друкаваных аркушаў 11,16.
Гарнітура PetersburgC.
Замова 182.
Наклад 5005.

Часопіс надрукаваны ў ТАА «НАВІТЭХ», друкарня «ГРАДЫЕНТ»®.
Мінск, вул. Бабушкіна, 6А, 220024.
УНП 191415513. ЛД 02330/482 ад 21.02.2017.
Пасведчанне аб рэгістрацыі ў Дзяржаўным рэестры выдаўцоў, вытворцаў і распаўсюднікаў друкаваных выданняў №2/194 от 23.02.2017.

## Ад рэдакцыі

Вялікі князь літоўскі і кароль польскі Жыгімонт Аўгуст, першы манарх Рэчы Паспалітай, кіраваў доўга, але лёс не даў яму нашчадкаў мужчынскага полу. Таму з ягонай смерцю ў 1572 годзе перарвалася і дынастыя Ягелонаў, што нязменна валадарыла адначасова ў Вялікім Княстве і Польшчы з 1440-га .

Нельга сказаць, што Жыгімонт Аўгуст успрымаецца сучаснымі беларусамі як надта слаўны манарх. Звычайна найбольшую славу па сабе пакідаюць уладары, якія шмат і паспяхова ваююць, ці абараняючы межы краіны, ці іх пашыраючы. А вобраз Жыгімонта Аўгуста зусім не асацыюецца з мілітарнай бліскучасцю: ваяваць ён не надта любіў, аддаваў перавагу дыпламатычным метадам вядзення замежнай палітыкі.

А сітуацыя якраз патрабавала вайсковых талентаў: маскоўцы, усходнія суседзі ВКЛ, да сярэдзіны XVI стагоддзя настолькі ўзмацніліся, што пачалі дагэтуль беспрэцэдэнтную экспансію на захад. І маскоўскі цар Іван Жахлівы быў не з тых уладароў, якія прызнавалі іншыя аргументы, апрача сілы зброі.

У выніку да канца кіравання Жыгімонта Аўгуста пад уладай Масквы апынуўся ладны кавалак ВКЛ уключна з Полацкам. І выхадам з сітуацыі стала чарговае «паглыбленне інтэграцыі» з Польшчай. Сімвалічна, што менавіта пры апошнім з Ягелонаў завяршыўся працэс, запачаткаваны заснавальнікам дынастыі Ягайлам: персанальная унія, якой па факце стала Крэўская 1385 года, змянілася на дзяржаўную Люблінскую 1569-га.

У той жа час Жыгімонт Аўгуст не быў нейкім недарэкам, які не зрабіў у нашай гісторыі нічога станоўчага. Менавіта пры ім у ВКЛ была выведзена на агульнадзяржаўны ўзровень прагрэсіўная аграрная рэформа («валочная памера»), распачатая ў сваіх маёнтках ягонай маці Бонай Сфорца. А таксама Жыгімонт Аўгуст вядомы як знаўца мастацтваў і мецэнат, які шчодра падтрымліваў дзеячаў культуры і, што вельмі важна, захоўваў рэлігійную талерантнасць. Не ў апошнюю чаргу і дзякуючы яму XVI стагоддзе для ВКЛ стала ў культурным плане «залатым векам».

А яшчэ з імем Жыгімонта Аўгуста непасрэдна звязана найбольш вядомая рамантычная гісторыя часоў Вялікага Княства. Ягонае каханне з Барбарай Радзівіл, у выніку якога прадстаўніца славутага арыстакратычнага роду ВКЛ на непрацяглы час стала каралевай, стала сюжэтам для многіх твораў як старажытнай, так і сучаснай літаратуры. І ў гэтым сюжэце не толькі каханне, але і палітыка: каб каралева-літвінка пажыла даўжэй, то інтарэсы ВКЛ яўна больш улічваліся б яе мужам пры вядзенні ўнутранай і замежнай палітыкі. А значыць, і наша гісторыя магла б быць іншай.

Паколькі XVI стагоддзе — «залаты век» ВКЛ, то беларусам стагоддзя XXI-га выпала спраўляць нямала значных 500-гадовых юбілеяў. У 2020-м спаўняецца 500 гадоў з дня нараджэння і Жыгімонта Аўгуста (1 жніўня), і Барбары Радзівіл (6 снежня). Менавіта таму «Наша гісторыя» піша пра іх тут і цяпер (гл. артыкул Андрэя Скурко на **старонках 4–14**).


4


44


52


18




III GROSS AR
TRIPL MAG
DVCA LITVA
15 47












44

64

4

72








І НАШТО МНЕ ГЭТАЯ БЕЛАРУСЬ? НЯМА ТУТ ЧАГО РАБІЦЬ, ПАЕДУ ЗА МЯЖУ...

72

**500 гадоў**

Жыгімонт Аўгуст і Барбара Радзівіл былі аднагодкамі. І сёлета спаўняецца 500 год ад іх нараджэння. Яму — 1 жніўня, ёй — 6 снежня.

**Лукас Кранах Малодшы. Жыгімонт Аўгуст.** 1553 год. Уладароў ВКЛ і Польшчы малявалі найлепшыя жывапісцы. Жыгімонта Старога і Жыгімонта Аўгуста — Кранах, Жыгімонта III і Уладзіслава Вазу — Пітэр Паўль Рубенс, Яна Казіміра — Марчэла Бачарэлі, Аўгуста Моцнага — Луі дэ Сільвестр.



# Кароль, на якім перарвалася дынастыя

**Жыгімонт Аўгуст зазнаў перадавыя ўплывы італьянскага Рэнесансу, сабраў вялізнае багацце, зрабіў сталіцу элегантнай, але пры гэтым занядбаў «усходні вектар». Ён быў занадта «нармальным», занадта псіхічна ўраўнаважаным для свайго часу. А бяздзетнасць, воляю выпадку, пераважыла ўсё ў сухім астатку яго кіравання. Піша Андрэй Скурко.**

Жыгімонт II Аўгуст, апошні Ягелон на віленскім стальцы, па першай асацыяцыі прыгадваецца ў сувязі з Барбарай Радзівіл. У ззянні самага славутага рамана ў гісторыі беларускага Рэнесансу блякнуць іншыя падзеі той эпохі. Мы часам не суадносім, што на перыяд кіравання куртуазнага Жыгімонта Аўгуста прыпадаюць і маштабная гаспадарчая рэформа, наступствы якой мы адчуваем дагэтуль, і кадыфікацыя права на нашых землях, і палітычная катастрофа Вялікага Княства Літоўскага.

**Готыка і Рэнесанс: аўтографы Жыгімонта Старога і Жыгімонта Аўгуста.**

## Як Жыгімонт стаў Старым

Яго бацька меў мізэрныя шанцы ачоліць хоць якую дзяржаву. Ён быў толькі пятым сынам вялікага князя Казіміра Ягайлавіча. Старэйшыя браты пазаймалі троны ў Вільні, Кракаве, Празе і Будзе, а Жыгімонту варажыла сытае бесклапотнае жыццё. Каралевіч кіраваў другарадным княствам у Сілезіі, а кампанію яму складала Кацярына Цельнічанка — прывабная прасталюдзінка, якой ён зрабіў трох пазашлюбных дзяцей. Але ў 1506-м без пары памёр брат, вялікі князь літоўскі Аляксандр. Перад сконам ён выклікаў 43-гадовага Жыгімонта ў Вільню і перадаў яму справы. Следам і палякі прызналі яго каралём. Як кіраўнік дзяржавы, Жыгімонт мусіў ажаніцца з роўняй, а Кацярыну, далей ад граху, выдалі замуж за падскарбія.

Першая жонка, венгерка Барбара Запальяі, нарадзіла Жыгімонту дзвюх дачок і памерла. І хто ведае, як павярнулася б гісторыя, калі б кароль не пасватаўся да 24-гадовай міланскай прынцэсы Боны Сфорца.

Бона ў 1520-м нарадзіла яму сына. Адзін сын, ад каханкі, у Жыгімонта ўжо быў, і кароль дапамог свайму бастарду Яну ў дваццаць з нечым гадоў стаць віленскім біскупам. Але законны спадкаемец — іншая справа. Жыгімонт, а асабліва Бона, марылі пра стварэнне дынастыі: невыпадкова яна і сына, нібы рымскага імператара, назвала Аўгустам.

Але ў іх дзяржаве караля выбіралі магнаты. ▸

### Піяр-акцыя: улёткі з партрэтамі Жыгімонта Старога, Боны і малога Аўгуста

Да нараджэння спадкаемца была прымеркаваная спецыяльная піяр-акцыя: выпуск улётак з партрэтамі Жыгімонта Старога, Боны і малога Аўгуста. Улёткі выдаваліся з разлікам на доўгае выкарыстанне, таму Аўгуст, якому тады быў усяго год, мае выгляд 10-гадовага.




CIEKAWOSTKIHISTORYCZNE.PL

▶ Каб падстрахавацца і забяспечыць пераемнасць улады ад бацькі да сына, Жыгімонт I з падачы Боны яшчэ пры жыцці дамогся прызнання 9-гадовага Аўгуста вялікім князем літоўскім, а праз год — і польскім каралём. Кіраваць да паўналецця сына застаўся сам. Менавіта за гэта, а не за розніцу ў веку з Бонай Жыгімонт I і атрымаў мянушку Стары.

## Кароль у вянку з ружаў

«Гэта быў муж надзвычайнай красы і сілы, ён гнуў падковы, рваў ланцугі. Гаварыў мала, але сэнсоўна. Бараду і вусы галіў, насіў доўгія валасы. Улетку часта хадзіў без шапкі, у вянку з ружаў», — так апісваў Жыгімонта Старога яго сучаснік Аляксандр Гваньіні.
81-гадовы кароль Жыгімонт Стары памёр, як і жыў, — спакойна. У атачэнні блізкіх і сенатараў, прычасціўшыся і паспавядаўшыся, пры памяці. «Выконваем усе абавязкі здаровага чалавека, так каб, калі б сама старасць не была хваробай, маглі б мы лічыцца здаровым чалавекам», — пісаў ён у адным з апошніх лістоў да сына.

## Выхаваны бабамі ды італьянцамі

Пакуль муж быў заняты войнамі і соймамі, Бона ляпіла з сына ідэальнага ўладара. Жыгімонт Аўгуст рос у рэнесансавай атмасферы. Яго настаўнікам быў сіцыліец. Бона падбала, каб сын у маленстве вывучыў лаціну і нямецкую, сама гаварыла з ім па-італьянску. Жыгімонт Аўгуст добра ведаў класічную літаратуру, разбіраўся ў мастацтве, ён збярэ за жыццё выдатную бібліятэку і калекцыю карцін.

Да асвоеных Жыгімонтам моваў можна дадаць польскую і беларускую. Апошнюю ён мог




**Каранацыйны абутак Жыгімонта Аўгуста.** Захоўваецца ў Каралеўскім замку на Вавелі (Кракаў). Падэшва абутку такая тоўстая, каб 9-гадовы хлопчык падаваўся вышэйшым.

чуць ад таварышаў па гульнях — сіротаў Яна Радзівіла Барадатага, якія выхоўваліся пры каралеўскім двары ў Кракаве. Адзін з іх — Мікалай Радзівіл Чорны — застаўся сябрам караля на ўсё жыццё.

Увага Боны да сына яшчэ ўзмацнілася пасля таго, як яна страціла магчымасць мець дзяцей.

Той выпадак добра характарызуе Бону. У 1527-м цяжарная каралева ўзяла ўдзел у паляванні на мядзведзя, прывезенага пад Кракаў з літоўскай пушчы. Звер зароў — конь спудзіўся і панёс. Бона ўпала, адбыліся заўчасныя роды. Пяцімесячнага хлопчыка назвалі Альбрыхтам, але ён не выжыў.

Бона неахвотна адпускала Жыгімонта Аўгуста ад сябе, нават калі ён падрос. Так, яна не пусціла 18-гадовага сына на вайну з малдаванамі, учыніўшы скандал мужу. Жыгімонт Стары вымушаны быў змірыцца — малады каралевіч абмежаваўся аглядам войска пад Львовам і «трыумфальна» вярнуўся ў Кракаў.

«Наш малады кароль выхаваны бабамі ды італьянцамі», — наракаў кракаўскі канонік на адсутнасць у Жыгімонта Аўгуста вайсковай падрыхтоўкі. Забраць каралевіча ад Боны і даць яму вартых настаўнікаў — такое было адно з патрабаванняў шляхты, бунт якой потым смешна быў названы «курынай вайной». Але жарты жартамі, а Жыгімонту Старому ледзь удалося замірыць 150-тысячную гурму, што паела ўсіх курэй у ваколіцах Львова.

Хоць рыцарскія забавы каралевіч Аўгуст любіў: падчас турніру з нагоды вяселля Іллі Астрожскага, сына славутага палкаводца Канстанціна Астрожскага, ён кап'ём скінуў з каня маладога, і той пасля не пражыў і года.

Але гіперапека Боны з гадамі нарадзіла адпрэчанне і ўзаемную нянавісць.

Канфлікт пачаўся з асабістага. Бона загадала выслаць з краіны сваю прыдворную даму Дыяну дзі Кардонэ, каханку маладога каралевіча. Казалі, што Бона некалі сама іх і пазнаёміла, каб прывязаць сына да Кракава. 38-гадовая Дыяна адкрыла 17-гадоваму Жыгімонту Аўгусту таямніцы кахання, а заадно, казалі, заразіла венерычнай хваробай.

## Няшчасная Альжбета

Да таго ж Жыгімонт Аўгуст мусіў хутка ажаніцца. За жонку яму яшчэ з маленства была вызначаная Альжбета Габсбург. Шлюб быў пакліканы замацаваць саюз дзвюх манаршых дамоў.

Яны ўпершыню пабачыліся за дзень да вяселля, у маі 1543-га.

**Альжбета Габсбург не ўмела** гаварыць ні па-польску, ні па-беларуску. Ёсць версія, што яе спецыяльна не вучылі, каб прыслаць разам з ёй шпега-перакладчыка. Таксама Альжбета прыходзілася будучаму мужу стрыечнай пляменніцай, таму на шлюб атрымлівалі спецыяльны папскі дазвол.

22-гадовы Жыгімонт Аўгуст сустракаў 16-гадовую маладую каля брамы Кракава на гнядым жарабцы ў серабрыстым нямецкім строі. Альжбета была ўбраная ў залацістую сукню. Яе карэту цягнуў васьмярык сівых коней у пурпуровых аксамітных папонах.

Вяселле было, паводле сучаснікаў, самым раскошным, незвычайным і вясёлым, якое толькі бачыў Кракаў. Здзівілі ўсіх Радзівілы: прывезлі ў свіце шэсць мурынаў. Шляхта за чаркай разважала, кім яны ёсць: малпамі ці *homines*.



THE HISTORY AND COLLECTIONS OF THE PALACE OF THE GRAND DUKES OF LITHUANIA. VILNIUS, 2012.

**Першая і другая жонкі, Альжбета Габсбург і Барбара Радзівіл, на адным партрэце.** Нацыянальны музей у Кракаве.

## Скандал з пармезанам

Альжбета любіла паласавацца. А паколькі спачатку ні кухні, ні двара свайго ў Кракаве не мела, то паслала слугу да ахмістра (аканома) Боны папрасіць пармезану. Той без слоў адкроіў ладны кавалак. Бона, дазнаўшыся, зладзіла скандал. Неўзабаве яе дробязнасць асуджаў увесь Кракаў. Адзін банкір паслаў маладой каралеве 10 кілаграмаў пармезану. Бона яшчэ больш раз'юшылася, спрабуючы дазнацца, як справа выйшла з замка. Па гэтым пытанні засядала каралеўская рада на чале з арцыбіскупам. Уся Еўропа смяялася.



WIKIMEDIA COMMONS

У дзень прыезду Альжбеты да паўдня стаяла пагода, а пасля зарадзіў дождж, густы і дакучлівы. І ішоў цэлы тыдзень. Гэта палічылі дрэнным знакам.

Альжбета гадавалася ў вялікай сям'і імператара Святой Рымскай імперыі Фердынанда І. Дзяцей Габсбургі любілі, але выхоўвалі строга. Каб не прывучыць да «надмернай раскошы», маці часам трымала Альжбету і яе сёстраў літаральна на хлебе і вадзе. Можа быць, тыя «дыеты» ў часе росту арганізма і выклікалі эпілепсію, пра якую кракаўскі двор даведаўся ўжо пасля шлюбу.

Казалі, што прыпадак здарыўся з Альжбетай проста на шлюбным ложку, і гэта адвярнула ад яе мужа. А Бона не любіла нявестку з-за сваёй старой варажнечы з Габсбургамі. Адзіны ў сям'і, хто ставіўся да няшчаснай Альжбеты прыязна, быў Жыгімонт Стары.

Праз два месяцы пасля вяселля ў Кракаве пачаўся чумны мор. Ратуючыся ад «чорнай смерці», якая забірала 70 чалавек штодня, Жыгімонт Аўгуст выехаў у Вільню. З ім рушыла «залатая» арыстакратычная моладзь, а вось жонку каралевіч не ўзяў. Затое за яго поездам, пісалі сучаснікі, таемна былі выпраўленыя кабеты пэўных заняткаў.

Альжбета ж са свёкрам і свякрухай схавалася ад хваробы ў загараднай рэзідэнцыі. З мужам яны пабачыліся толькі праз год.

## Гаспадыня вымарачнага замка

Магчыма, у часе таго побыту ў ВКЛ Жыгімонт Аўгуст і пазнаёміўся з Барбарай Радзівіл, удавой па Станіславе Гаштольдзе. Барбара прыходзілася стрыечнай сястрой Мікалаю Радзівілу Чорнаму, сябру Жыгімонта Аўгуста, а яе бацькам быў славуты гетман Юры Радзівіл, «літоўскі Геркулес» (пра яго ў № 5/2019 «Нашай гісторыі» быў артыкул Андрэя Шпунта). ▶




**Згодна з легендай, з Барбары пісаны абраз Маці Божай Вастрабрамскай.** Час яго стварэння супадае з часам яе жыцця.




Доўгі час лічылася, што гэта бюст Барбары Радзівіл, тым часам як **гэта Барбара Запальяі, першая жонка Жыгімонта Старога.**




**Партрэт Барбары Радзівіл** аўтарства Лукаса Кранаха Малодшага. 1553 год.

▶ Шлюб Гаштольда з Радзівілаўнай мусіў злучыць дзве наймагутнейшыя магнацкія фаміліі ў ВКЛ, але Станіслаў неўзабаве памёр, а дзяцей яны з Барбарай не мелі. Згодна з тагачаснымі законамі, пасля смерці апошняга нашчадка мужчынскага полу маёмасць роду адыходзіла вялікаму князю. Барбара хацела захаваць маёнткі. Яна пісала пра гэта да Боны, і тая параіла сыну разабрацца на месцы. Магчыма, не раз пасля маці наракала на сябе, што паслала сына да звабніцы.

З Барбарай Жыгімонт Аўгуст мог пазнаёміцца ў Геранёнах, у замку Гаштольдаў. Або ў Вільні, куды Барбара неўзабаве вярнулася ў матчын дом.

Але няма сведчанняў, што Жыгімонт Аўгуст закруціў з ёй раман пры жывой жонцы. Тым больш што ў 1544-м ён прывёз Альжбету ў Вільню.

### Італьянская Вільня

Сталіца Вялікага Княства падабалася Аўгусту больш за Кракаў. Ён завяршыў будаўніцтва Палаца вялікіх князёў, заклаў бібліятэку, карцінную галерэю, калекцыю габеленаў, тэатр, насадзіў сады ўздоўж Вяллі. Пры ім цэнтр Вільні, забудаваны двух- і трохпавярховымі цаглянымі дамамі, пачынае нагадваць італьянскія гарады. Тут ладзіліся шкалярскія дыспуты, літаратурныя чытанні, маскарады і фестывалі.

Барбара, жанчына з найбагацейшага роду ВКЛ, безумоўна, бывала на раскошных балях, якія ў той год грымелі ў велікакняскім палацы. Утрыманне двара Жыгімонта Аўгуста каштавала 1000 флорынаў у тыдзень — хапаліся за галаву сучаснікі. На кухні штодня рэзалі вала і 18 кароў, ставілі па трыццаць бочак піва і мёду, незлічона ішло на сталы салеры, рэпы, капусты, цыбулі-парэю і аўса. Так што велікакняскае меню, каб не алкаголь, можна было б назваць дыетычным.

Таксама пры Жыгімонце Аўгусце з'явілася мода на салодкае: яго кухары падавалі на сталы «канфекты», цукровы хлеб, смажаны імбір, міндаль.

### А каралева ўсё ўбіраецца

«Кароль яе часам мусіць чакаць, калі мае ісці ў касцёл ці так куды да людзей. Паны з каралём стаяць у сенях, а яе міласць каралева ўсё ўбіраецца», — пісаў сакратар Станіслаў Кашуцкі ў лісце да Радзівіла Рудога. Сама ж Барбара ў лісце да маці прасіла прыслаць ёй з Вільні касметыкі — у прыватнасці, бялілаў, якіх у Кракаве не дашукаешся. Як і муж, яна захаплялася каштоўнымі камянямі і дарагімі ўпрыгожаннямі. І любіла пафарсіць у сукенках, якія ёй шыў прыдворны італьянскі кравец Франчэска.

### Непрацяглая жалоба

Нягледзячы на забавы і ўвагу мужа, здароўе Альжбеты не лепшала, прыпадкі рабіліся ўсё часцейшыя. Яе эпілепсію спрабавалі лячыць рознымі спосабамі, кшталту прыкладання каранацыйнага пярсцёнка англійскага караля Эдуарда.

Урэшце ў чэрвені 1545-га Альжбета, перажыўшы 15 прыступаў за дзень, сканала. Ёй было 18. Мужа побач не было: ён ад'ехаў у Кракаў, куды

бацька Альжбеты якраз даслаў 100 000 дукатаў пасагу. Жыгімонт Аўгуст асцерагаўся, каб на іх не наклала руку Бона.

Труну Альжбеты ў наш час адшукалі ў падвалах віленскай Катэдры, яе можна пабачыць побач з трунамі караля Аляксандра Ягелончыка і наступніцы Альжбеты — каралевы Барбары Радзівіл.

На яе Жыгімонт Аўгуст звярнуў увагу пасля непрацяглай жалобы. У легендах згадваецца падземны ход з віленскага велікакняскага палаца ў дом Радзівілаў, па якім Жыгімонт Аўгуст хадзіў на спатканні з Барбарай. Насамрэч, былі малазаўважныя вароты ў радзівілаўскі сад, дзе закаханыя сустракаліся. Бо Жыгімонт Аўгуст урачыста паабяцаў братам Барбары, Мікалаям Чорнаму і Рудому, «дома ў іх не бываць і іх не ганьбіць» такім вольным стаўленнем да сястры.

### Жалезная воля Аўгуста

Чуткі пра мезальянс хутка дайшлі да Кракава. Маці была ў шаленстве. Нешматслоўны бацька-кароль сказаў: «Не павінна такога быць». Але сын, насуперак волі бацькоў і, магчыма, пры лёгкім падштурхоўванні ў спіну з боку братоў Радзівілаў, абвянчаўся з Барбарай. І мала таго, што ажаніўся, — Жыгімонт зрабіў сваю Барбару каралевай.

Тут мяккі, выхаваны гуманістамі чалавек паказаў жалезную волю. Калі Жыгімонт Аўгуст абвясціў перад польскім соймам, што ён жанаты, усчаўся гвалт.

З польскага дзяржаўнага пункту гледжання гэта была катастрофа. Замест таго, каб здабыць сваім шлюбам выгадны замежнапалітычны саюз, кароль узвышаў адзін з магнацкіх родаў ВКЛ — магутных сепаратыстаў, якія стаялі за палітычную незалежнасць і рэлігійную свабоду.

Тады Жыгімонт Аўгуст сарваў сойм і паехаў у Вільню, каб жыць з Барбарай адкрыта.

Тым часам Барбара — магчыма, цяжарная — чакала вырашэння свайго няпэўнага статусу ў маёнтку Радзівіла Рудога ў Дубінках (цяпер Дубіняй у Літве). Адзін раз, калі Руды, Барбара і лекар Давойна сядзелі ў яе пакоі, пад імі раптам абсунулася ў сутарэнні падлога. Яны цудам засталіся жывыя. Жыгімонт бачыў у гэтым замах. Здарэнне навярнула Барбару да рэлігіі: яна пачала насіць строгія сукенкі, спявала ў касцёле, раздавала міласціну. Дзіця ёй захаваць не ўдалося.

У Кракаве ж разгортвалася інфармацыйная кампанія супраць Барбары, пашыраліся «лятучыя лісткі» з абвінавачаннямі і сатырай. Пісалі, што яна мела 38 каханкаў, што яна чаруе. Супрацiўлялася каранацыі і Бона — асабліва пасля смерці мужа.

**Мужу з Барбарай было цікава**

Пра выгляд Барбары захавалася некалькі ўспамінаў. Калі адкінуць панегірыкі, самым аб'ектыўным выглядае сухое сведчанне нямецкага назіральніка: «Рукі і вочы прыгожыя, але твар літоўскі». Гэтае ўражанне падмацоўвае і партрэт пяра Лукаса Кранаха Малодшага, зроблены яшчэ пры жыцці Жыгімонта Аўгуста. На ім Барбара мае досыць звычайнае аблічча з простым даўгаватым носам і тонкімі вуснамі. Відаць, справа была ў харызме. Прасталінейная і камунікабельная Барбара не была зашоранай нормамі палацавага этыкету — таму і выйгравала ў параўнанні са сціплай Альжбетай. Жыгімонту Аўгусту з ёй было цікава. Сучаснікі звярталі ўвагу і на выразныя цёмныя вочы Барбары. Людзі верылі, нібыта яна чаруе імі.

На восеньскім сойме рыцарства кінулася перад новым каралём на калені. «З раздратаванымі сэрцамі, слёзнымі вачамі» прасілі пакінуць «прыкры шлюб». Кароль зняў шапку на знак павагі, але не саступіў. «Што сталася, тое адстацца не можа... Прысягнуў жонцы і ад яе не адступлюся, пакуль мяне Пан Бог на свеце захавае... Мне гэтая вера мілейшая за ўсе каралеўствы свету», — сказаў ён.

І сойм саступіў.

**Жыгімонт Аўгуст пасылаў сваіх агентаў купляць жонцы жэмчуг у Амстэрдам, куды яго прывозілі караблі з Індыі**

На каранацыю ў Кракаў Барбара ехала ўжо моцна хворая. Жыгімонт Аўгуст загадаў разбурыць вузкую браму Кракава, праз якую не магла прайсці спецыяльная карэта, у якой жонка магла падарожнічаць лежачы.

З апісанняў апошняга перыяду іх жыцця можна меркаваць, што адносіны ў пары былі гарманічныя. Барбара часам капрызіла, але ў глабальных рэчах была мудрай, разумеючы, што муж не вынес бы каля сябе другой пасля маці валявой жанчыны.

Пасля смерці Барбары яе каштоўнасці і сукенкі захоўваліся ў Тыкоцінскім замку. Згодна з запаветам Жыгімонта Аўгуста, тыя ўборы мусілі адысці яго сястры Ганне. Але за дваццаць год ад іх мала што засталося: ▶

## Перлы Барбары

Жыгімонт Аўгуст абсыпаў Барбару каштоўнасцямі, з якіх яна найбольш цаніла жэмчуг — тады яго часцей называлі «перлы». Яны пасавалі ёй, хударлявай бландзінцы са светлай скурай.
Згодна з інвентарамі, Барбара мела з найлепшых перлаў кара́лі, а таксама ўпрыгожаныя пярлінамі каўняры, чапцы і рукавы сукенак. Жыгімонт Аўгуст пасылаў сваіх агентаў купляць перлы ў Амстэрдам, куды іх прывозілі караблі з Індыі. І выдаткоўваў на гэта вялізныя сумы.

▶ сукенкі складалі ў падвалах, і там іх паелі пацукі.

Перлы ж Барбары зніклі пасля смерці Жыгімонта Аўгуста і знайшліся ў XX стагоддзі. Куратар Брытанскага музея ў Лондане адшукаў лісты англійскай каралевы Лізаветы I, якая даручыла сваім агентам у Польшчы купіць для яе перлы Барбары.

Лізавета I не мела нашчадкаў, пасля яе кіравалі каталікі Сцюарты, скінутыя рэвалюцыяй 1688 года. Потым брытанскі трон дастаўся далёкім сваякам — курфюрстам нямецкага княства Гановер. Персанальная унія Вялікабрытаніі і Гановера цягнулася, пакуль іх род па мужчынскай лініі не выгас і каралевай не стала Вікторыя.




WIKIMEDIA COMMONS

Партрэт Барбары Радзівіл **ва ўборы з перламі.**



**Лізавета I з перламі на шыі.** 1592 год. Гэта і былі перлы Барбары Радзівіл?

OPENMAG.IT

У Гановеры яе не прызналі, улада там перайшла да яе сваяка Георга V. У выніку падзелаў спадчыны перлы Барбары з брытанскай каралеўскай казны трапілі ў Гановер.

Прынц Альберт, муж Вікторыі, казаў, што гэта найкаштоўнейшыя перлы Еўропы, і ацэньваў іх у 150 000 фунтаў стэрлінгаў. Вікторыя спрабавала адсудзіць іх, але без поспеху. Апошні раз перлы бачылі ў 1900 годзе, калі праўнучка Георга V Марыя Луіза выходзіла замуж за нямецкага прынца і апошняга канцлера Германскай імперыі Максімільяна Бадэнскага. У перлах выйшла ўдава Георга, Марыя Саксен-Альтэнбургская. Яны спадалі з яе шыі доўгімі ніткамі амаль да каленяў. Нашчадкі Гановерскай дынастыі жывуць і сёння. Можна меркаваць, што перлы Барбары ў іх.

**Жыгімонт Аўгуст верыў, што Барбару атруціла Бона. Але, мяркуючы па апісанні хваробы, у Барбары быў рак**

### Мільянер у трох пакоях

Жыгімонт Аўгуст, хоць і вырас у раскошы, жыў даволі сціпла. У Вільні ён займаў у палацы вялікіх князёў тры пакоі і меў усяго пару слугаў. Але разам з тым быў адным з найбагацейшых уладароў Еўропы.

Папскі нунцый успамінаў, як кароль павёў яго ў спецыяльны пакой, паказаў 16 цяжкіх скрыняў з каштоўнымі камянямі




Жыгімонт Аўгуст верыў, што Барбару, як і першую яго жонку, атруціла Бона. Але, мяркуючы па апісанні хваробы, у Барбары быў рак. Яе апошняе жаданне перад смерцю было, каб пахавалі ў Вільні. Пахавальны картэж ехаў з Кракава месяц. Каб захаваць цела, яго засыпалі ў труне попелам і вапнай. Дзякуючы гэтаму парэшткі каралевы добра захаваліся: у падвалах віленскай Катэдры вапна сцэментавалася ад вільгаці. Труну адшукалі ў 1930-я.

ды ўпрыгожаннямі і наракаў, што баіцца, каб падданыя не даведаліся, на што ён выдаткоўвае аграмадныя сумы. Яго «калекцыя» ацэньвалася ў мільён залатых скуда (так называлася грашовая адзінка Міланскага герцагства).

Другім захапленнем караля былі высакародныя коні. Ён трымаў у Вялікім Княстве табун у дзве тысячы галоў. Быў у яго і звярынец (аднайменная назва часткі Вільні — яшчэ з тае пары). У звярынцы жылі леў, пяць мядзведзяў і дзесяць вярблюдаў. А на выспачцы на Вяллі Жыгімонт Аўгуст завёў для Барбары свойскіх лебедзяў.

## Яе апошняе жаданне перад смерцю было, каб пахавалі ў Вільні

### Валочная памера

Вялікакняскія прыбыткі выраслі дзякуючы Боне і яе рэвалюцыйнай рэформе гаспадаркі ВКЛ, з якой па маштабах можна параўнаць хіба толькі калектывізацыю XX стагоддзя. Было і яшчэ адно падабенства: і прагрэсіўная на свой час валочная памера, і калектывізацыя, якая адкінула беларускіх сялян у феадалізм, рабіліся, каб выпампаваць з вёскі сродкі.

Бона ва ўсім любіла парадак і, як сапраўдная паўночная італьянка, умела лічыць грошы. Стаўшы жонкай вялікага князя, яна звярнула ўвагу на нядбалае выкарыстанне дзяржаўных земляў у ВКЛ. Частку іх самавольна пазаймалі магнаты, з іншых падаткі збіраліся абы-як, цэлыя абшары былі проста няўлічаныя і неападаткаваныя.

Палеткі ляжалі ў кавалках розных памераў і формаў. Каб хоць неяк мераць іх і вылічваць падаткі, лічылі плошчу па аб'ёме высяванага ў «бочках», па колькасці сабранага сена ў «вазах», па колькасці часу, неабходнага на апрацоўку раллі ў «моргах».

У многіх месцах сяляне, на аснове звычаёвага права, яшчэ маглі прадаваць і аддаваць у заклад зямлю. У Падняпроўі захоўвалася старажытная абшчынная сістэма: вёска сама выбірала «старцаў»-старэйшынаў, грамадзе належалі землі агульнага карыстання, падатак з вёскі старцы самі адвозілі ў дзяржаўны скарб.

Пра ўпарадкаванне яшчэ раней задумваліся Радзівілы і Віленскае біскупства. Бона надала гэтаму працэсу сістэмнасць, а Жыгімонт Аўгуст — агульнадзяржаўны размах.

Замест разрозненых кавалкаў кожная сялянская сям'я атрымлівала дакладна вымераны прастакутны ўчастак, падзелены на тры палі, за які плаціла вызначаны падатак і адпрацоўвала пэўную колькасць дзён паншчыны. З раскіданых абы-як сялібаў фарміраваліся вёскі. Замест даўнейшых «двароў», арыентаваных на самазабеспячэнне, масава паўставалі фальваркі — маёнткі, створаныя для вытворчасць сельгаспрадукцыі на продаж. На замежным рынку рос попыт на хлеб: у Заходняй Еўропе на 1500 год жыло 90,7 млн чалавек, а за 50 гадоў Францыя, Іспанія і Італія дадалі па 1,5 млн, імкліва павялічваліся гарады ў Нідэрландах.

Запрыгоньванне дало эканамічны эфект. Сялянскае самакіраванне было ліквідаванае. «Гэта рэч наша, гаспадарская, а не ваша, халопская», — пісалася ў каралеўскай грамаце сялянам Чачэрскай і Прапойскай валасцей, якія хацелі па-ранейшаму самі выбіраць «старцаў» і вызначаць аб'ёмы ўласных падаткаў. ▶

### «Устава на валокі»

была не дэкларацыяй пачатку зямельнай рэформы ў ВКЛ. Рэформа на той час была ў разгары. Гэты дакумент, выдадзены Жыгімонтам Аўгустам 1 красавіка 1557-га, прызначаўся для рэвізораў, што мусілі выпраўляць памылкі ўжо зробленай рэформы. У ім падрабязна апісвалася, як правільна мераць зямлю.

Водгулле той валочнай памеры 1550-х мы адчуваем і сёння. Добрая палова беларускіх вёсак узнікла і была названая менавіта тады. Усе Вуглы, Маргі, Засценкі памятаюць вялікакняскіх землямераў. Нават планіроўка — хаты на адзін бок вуліцы, гаспадарчыя пабудовы на другі — дажыла да XX стагоддзя.

## У чорным

Магчыма, кароль так сумаваў па Барбары, што ўсе 26 наступных гадоў свайго жыцця ўбіраўся ў чорнае. А мо яму, шчупламу смугляваму брунету з аліўкавага адцення скурай і вільготнымі чорнымі вачыма, проста пасавала: на чорным уборы добра глядзелася дарагое каменне і золата. На святочныя выпадкі ў яго быў чорны плашч, падбіты вавёрчыным футрам, і сабалiная шапка.






Ліст з малітоўніка **Боны Сфорца. Унізе вы бачыце гербы Вялікага Княства («Пагоня») і роду Сфорца (змяя ў кароне).** З фондаў Каралеўскага замка ў Варшаве.





Вы думаеце, гэта літоўскі Вужыны кароль? **Гэта герб дома Сфорца!**

Афіцыйна ж Жыгімонт Аўгуст зняў жалобу яшчэ ў 1552-м, напярэдадні трэцяга шлюбу. Абранніцай стала Кацярына Габсбург, родная сястра першай жонкі. Справа была не ў нейкай асаблівай прыхільнасці да сям'і імператара Фердынанда I. Стаяла задача разбурыць хаўрус Габсбургаў з маскоўскім царом Іванам IV, які пагражаў знішчэннем ВКЛ і Польскаму каралеўству.

Бо, нягледзячы на шалёнае асабістае багацце Жыгімонта Аўгуста, на яго асобныя замежнапалітычныя поспехі, ніколі Вялікае Княства Літоўскае не было ў такім цяжкім палітычным становішчы. Узяўшы пад апеку Інфлянты, Жыгімонт Аўгуст увязаўся ў Лівонскую вайну за іх з Масковіяй.

### Пошта ў ВКЛ

і Польскім каралеўстве таксама з'явілася ў часы Жыгімонта Аўгуста. Для таго, каб спрасціць і паскорыць працэс перапіскі з Габсбургамі, кароль у 1562-м загадаў стварыць паштовы маршрут Вільня – Кракаў – Вена – Венецыя.

У 1563-м Іван IV захапіў Полацк. Жыгімонт Аўгуст сабраў войска, але з-за нерашучасці поспеху не дабіўся. Тое ж паўтарылася і налета. Магнаты ўсё гучней прасілі вайсковай помачы ад Польшчы. Палякі патрабавалі за гэта аб'яднання ў адну дзяржаву. Запярэчыць не было каму: магутны і мудры Мікалай Радзівіл Чорны на той час ужо не жыў. У 1569-м на сойме ў Любліне была створаная Рэч Паспалітая (пра закулiссе гэтага працэсу ў № 6/2019 «Нашай гісторыі» пісаў Уладзімір Падалінскі). Але пераламаць ход Лівонскай вайны «Кароль Заўтра», як называлі Жыгімонта Аўгуста за звычку вечна адкладаць пільныя справы, не здолеў. Гэта ўдасца толькі яго наступніку — Стэфану Баторыю.

Пасля Люблінскай уніі кароль перастаў прыязджаць у Вільню. Саромеўся?

## Жонка-шпіёнка

Яго трэці шлюб таксама скончыўся нешчасліва. Хутка высветлілася, што невысокая мажная Кацярына, як і яе сястра Альжбета, хворая на эпілепсію. І прыехала ў Кракаў як шпіёнка свайго бацькі. Спадкаемца яна нарадзіць таксама не здолела, хоць пэўны час і прыкідвалася, што цяжарная.

Хлусня жонкі пра цяжарнасць была адной з прычынаў, па якой Жыгімонт Аўгуст дабіваўся разводу з ёй. Калі іх адносіны разладзіліся, Кацярына выехала ў Вільню і дзесяць год жыла там, блізка сышоўшыся з сёстрамі караля. Папа разводу Жыгімонту Аўгусту не даваў. Кароль нават думаў перайсці ў пратэстанцтва, як гэта зрабіў яго англійскі калега Генрых VIII. Той дзеля разводу з Кацярынай Арагонскай не пабаяўся разарваць адносіны




**Бона Сфорца была чалавекам выключнага інтэлекту і цяжкага характару**, халерычнага тэмпераменту. У маладосці сын быў для яе ўсім. Калі ён выйшаў з-пад яе тыранічнага ўплыву, яна зразумела, што ніколі ўжо не здолее з ім паразумецца, і ў 1556 годзе выехала ў Італію. Там яе атруцяць на замову Габсбургаў, якім яна пазычыла агромністыя грошы, — каб тыя грошы не аддаваць. На партрэце Лукаса Кранаха: пасля 1548 года.

з Рымам, паклаўшы пачатак асобнай англіканскай царкве, якую сам і ўзначаліў.

Хто ведае: калі б Жыгімонт Аўгуст быў больш рашучы, мо Беларусь была б цяпер пратэстанцкай? Да стварэння асобнай царквы ў Польскім каралеўстве схілялі яго некаторыя радцы. І сам ён з сімпатыяй ставіўся да пратэстантаў, сябруючы з кальвіністамі Радзівіламі. З іх падачы кароль сваімі прывілеямі зраўняў у правах шляхту і магнатаў усіх веравызнанняў. Але рашучасці для такога кроку Жыгімонту не хапіла.

Урэшце Кацярына Габсбург вярнулася ў Аўстрыю ў 1565-м. Жыла спакойным жыццём, вырошчвала кветкі. Усе каштоўнасці, атрыманыя ад мужа, вярнула яго сёстрам.

## Ад'езд Боны

Праз год пасля Кацярыны выехала на радзіму і каралева Бона. Яна так і не здолела змірыцца з пенсіянерскай роляй «каралевы-маці». Заганы гэтай разумнай, энергічнай і добра адукаванай жанчыны былі перабольшаныя пазнейшымі інтэрпрэтатарамі. Дзякуючы Боне ў ВКЛ прыйшоў Рэнесанс і прагрэс — ад архітэктуры да землеўпарадкавання і звычкі есці відэльцам. Пры ёй у Вільні з'явіўся водаправод, першы (Зялёны) мост цераз Вяллю, паперня і гута, людвісарня і два шпіталі.

Бона не забывала і сябе. Калі сын пазбавіў яе ўсёй нерухомасці, яна перад выездам наладавала 24 фуры рухомай маёмасцю. Вазы стаялі каля Кракаўскага замка, а Бона тым часам вяла перамовы з пасламі сойма, атрымліваючы дазвол на выезд. Хабараў не шкадавала. «Боначка, што вывезла золата бочачку», — называлі яе пасля.

Бона прагадала. У Італіі, дзе яна, 62-гадовая, стала віцэ-каралевай Неапаля, яе атруціў уласны прыспешнік. Старая каралева яшчэ мучылася ў агоніі, а ён ужо выграбаў яе дабро. Каб не атрута, мо яна і вярнулася б да сына. Іх узаемныя прэтэнзіі — Жыгімонт Аўгуст казаў, што яна труціла яго жонак, Бона адказвала, што ён не дбае пра сваіх сясцёр, — пад канец жыцця прыгаслі.

## Апошні шанец

Жыгімонт Аўгуст ненадоўга перажыў яе. Пасля 50-ці яго даймалі сухоты і каменне ў нырках. Раны ад падагры ▶

▶ на нагах не давалі стаяць. А жаданне мець спадкаемца, як у згаданага Генрыха VIII, ператварылася ў ідэю фікс. Кароль казаў, што гатовы ажаніцца з дзеўкай найніжэйшага стану, абы нарадзіла яму сына.

Тут і з'явілася побач Барбара Гіжанка, выкрадзеная з кляштара канфідэнтам караля, чэхам Мікалаем Мнішам. У кляштар дачку замкнулі бацькі, не даючы рады свавольніцы.

У старога караля адно імя «Барбара» выклікала ўзбуджэнне. Ён нават ладзіў спірытычныя сеансы, спрабуючы выклікаць дух сваёй другой жонкі. А Гіжанка і з твару была трохі падобная да Барбары Радзівіл.

Яна нарадзіла каралю дачку — таксама Барбару, хоць атачэнне і не верыла, што Жыгімонт Аўгуст яе бацька. Але кароль быў на сёмым небе. Ён збіраўся ажаніцца і ўзаконіць дачку. Хто ведае, можа, Рэч Паспалітая мела б пасля сваю каралеву Барбару I. Але збыцца гэтаму ўжо не было суджана: Жыгімонт Аўгуст памёр 7 ліпеня 1572-га ў Кнышыне, дзе хаваўся ад чарговай эпідэміі з усімі сваімі скарбамі.

Цікава, што сваім тастаментам ён адпісаў сваю зброю, габелены і гарматы Рэчы Паспалітай: ранейшыя каралі не лічылі, што вінныя штосьці дзяржаве.

А маці сваёй дачкі апошні Ягелон пакінуў скрынку з каштоўнасцямі, якую з цяжкасцю маглі б падняць шэсць мужчын. Але ці атрымала што




**Срэбны грош Вялікага Княства**, біты пры Жыгімонце Аўгусце. З «Пагоняй», вядома.

Барбара — невядома. Бо як толькі кароль сканаў, чэлядзь кінулася раскрадаць каралеўскае дабро. Асабліва завіхаліся яго канфідэнты — браты Мнішы. Каштоўнасці вывозілі куфрамі, выносілі мяхамі.

Забралі нават адзежу караля. Калі цела Жыгімонта Аўгуста знайшлі, ён ляжаў голы. Так скончыў жыццё найбагацейшы ў Еўропе манарх.

### Апошні з Ягелонаў

На ім перарвалася дынастыя Ягелонаў, і шляхта скарысталася гэтым для далейшага ўмацавання сваёй ролі ў дзяржаве. У выніку з Рэччу Паспалітай будзе тое, што будзе.

Жыгімонт Аўгуст зазнаў перадавыя ўплывы еўрапейскага Рэнесансу, але пры гэтым занядбаў «усходні вектар», не падрыхтаваў Вялікае Княства Літоўскае да супрацьстаяння з новай еўразійскай сілай — Маскоўскай дзяржавай.

Дый Жыгімонт не любіў ваяваць, любіў дыпламатычныя інтрыгі.

Ён быў занадта «нармальным» для свайго часу – магчыма, таму, што гадаваўся ў спакоі і дабрабыце і ў 10 гадоў быў абвешчаны каралём пад апекай уласнага любячага і мудрага бацькі. Нікому з тагачасных еўрапейскіх валадароў так не шанцавала. І зусім інакш ставіўся да жыцця істэрычны Іван IV Жахлівы, які ў 4 гады апынуўся сіратой на маскоўскім троне, у баярскім гадзючніку, безабаронны. (Больш пра Івана Жахлівага чытайце ў «Нашай гісторыі» № 4/2019.)

Не было ў Жыгімонта Аўгуста і зацятасці англійскага Генрыха VIII. Хоць наш кароль і вялікі князь таксама ўзважваў магчымасць устаць на Генрыхаў шлях і адарвацца ад Рыма.

І Генрых, і Іван пераламілі свае краіны, задаўшы ім кірунак развіцця на стагоддзі. Чаму не змог Жыгімонт Аўгуст? Былі і аб'ектыўныя рэаліі: эканамічны патэнцыял Польшчы і Вялікага Княства, сіла магнатаў, інерцыя традыцый, іграў ролю і склад характару.

«Кароль Заўтра» не меў ні жадання, ні волі ўскладаць на сябе цяжар абсалютызму. Дый не было для каго старацца. Іншая справа — калі б быў нашчадак, якому можна было б перадаць багацці і ўладу. Калі б падлога пад Барбарай Радзівіл не праваліласа? ◆



**Залатая скарбонка Ядвігі, сястры Жыгімонта Аўгуста**, падораная ёй бацькам на вяселле. Са збораў Дзяржаўнага Эрмітажа ў Санкт-Пецярбурзе.



Насі
Беларусь з сабой
Набыць футболкі гэтых ды іншых серый можна ў крамах:
**Мінск**, «Мой модны кут» (Цэнтр Маскоўска-Венскі, павільён 333 — гэта каля ЦУМа, метро Якуба Коласа, пр. Незалежнасці 58)
**Мінск**, Symbal.by (пр-т Машэрава, 18, з 10:00 да 20:00 без выхадных)
**Мінск**, «Рагна» (вул. Сухая, 4)
**Мінск,** Vishivanka.by (ГЦ «Няміга-3», цокальны паверх, 73 павільён)
**Брэст**, «Князь Вітаўт» (вул. Савецкая, 55)
**Гродна**, «Цудоўня» (вул. Кірава, 3)
Або замаўляйце праз **Symbal.by**.

Касмічныя краявіды: **каньён у кар’еры каля Радашкавіч.**

SHUTTERSTOCK.COM; BY MAKSIM SAFANIUK

## Кім знакамітыя Радашкавічы

Гісторыя нашага старажытнага мястэчка насычана цікавымі фактамі, пра якія не заўсёды ведаюць і самі жыхары. Між тым Радашкавічы займаюць важнае месца ў гісторыі нашай краіны.

Жывапісец-партрэтыст **Язэп Аляшкевіч** правёў сваё дзяцінства і юнацтва ў 2-й палове XVIII стагоддзя ў доме бацькі, які жыў у Радашкавічах і быў музыкам.

У радашкавіцкім касцёле Найсвяцейшай Тройцы 12 ліпеня 1882 года быў ахрышчаны **Янка Купала**. З гэтай нагоды цяпер у касцёле штогод праводзіцца Купалаў фэст, які збірае шмат гасцей. У 1903 годзе Янка Купала працаваў тут пісарам у судовага следчага. А 15 жніўня 1913 года драмгуртох пад кіраўніцтвам Фларыяна Ждановіча паставіў спектакль, паказ якога адбыўся ў будынку радашкавіцкай пажарнай дружыны. Гэта была прэм’ера купалаўскай «Паўлінкі».

У Радашкавічах у 1891–1897 гадах жыў і працаваў памочнікам аптэкара адзін з пачынальнікаў нацыянальнай мастацкай прозы **Ядвігін Ш.**. Пісьменнік стаў сябрам гуртка мясцовай інтэлігенцыі, браў удзел у літаратурных вечарынах, дэкламаваў вершы Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча і Францішка Багушэвіча. У 1892-м напісаў камедыю «Злодзей», якую з ініцыятывы Яна Якуба Офенберга, аднаго з арганізатараў радашкавіцкага гуртка беларусаў-інтэлігентаў, меркавалася паставіць на платнай маёўцы, а збор са спектакля перадаць на адкрыццё мястэчковай лякарні.



**Касцёл у Радашкавічах, у якім хрысцілі Янку Купалу.**

З Радашкавічамі звязаны таксама лёс першага рэдактара газеты «Наша Ніва» **Аляксандра Уласава**. Падчас рэвалюцыі 1905–1907 гадоў ён арганізоўваў тут забастоўкі парабкаў. Пазней, ужо пры Польшчы, ён стварыў тут беларускую гімназію, узначальваў Таварыства беларускай школы.

Радашкавічы разам з Вільняй у 1920-я гады былі пастаянным месцам жыхарства **Браніслава Тарашкевіча** — аднаго з заснавальнікаў Таварыства беларускай школы, лідара Беларускай сялянска-работніцкай грамады. У Радашкавічах ён нярэдка праводзіў

сустрэчы з актывам БСРГ і ТБШ. Летам 1926-га ў Радашкавічах па ініцыятыве Тарашкевіча былі арганізаваныя настаўніцкія курсы.

У другой палове 1920-х вядомы беларускі мастак **Язэп Драздовіч** выкладаў маляванне ў Радашкавіцкай беларускай гімназіі імя Францішка Скарыны.

У гэтай гімназіі вучыўся таксама **Максім Танк**. Там ён узяў удзел у адной з вучнёўскіх забастовак, накіраванай супраць ліквідацыі беларускіх школ польскім урадам. За гэта яго разам з некалькімі таварышамі выключылі з гімназіі.

Калі вы будзеце праязджаць каля Радашкавічаў, абавязкова сюды завітайце! Бо гэта мястэчка не толькі з насычанай гісторыяй, але і з маляўнічымі краявідамі.

**Алеся Давідовіч, вучаніца Радашкавіцкай сярэдняй школы**

## А ці не выйграла б Фінляндыя, калі б здалася, як Эстонія?

У артыкуле пра Зімовую вайну (№11/2019) Андрэй Акушка піша, што вайна 1940 года ідзе ў залік фінскаму народу. За 50 гадоў свабоды і развіцця па еўрапейскім прыкладзе фіны значна перагналі ўсе краіны былога Саюза, у тым ліку Латвію, Літву і нават Эстонію. Гэта ўсё, безумоўна, так. Але калі паглядзець на гэта ўсё з іншага боку...

Так, фіны адстаялі незалежнасць, яны паказалі сябе як нацыя, кансалідаваліся неверагодна! Так, яны сталі адной з самых развітых краін Еўропы, але ж яны згубілі 10% сваёй тэрыторыі, ужо не кажучы пра людскія страты... Тады як тыя ж Латвія, Літва і Эстонія не згубілі сваёй зямлі і набылі на пачатку 90-х незалежнасць, скажам так, малой крывёю. І развіваюцца цяпер нядрэнна.

Дык вось, я гэта да чаго... Фіны атрымалі б свабоду ў 1991 годзе — гэта, здаецца, мала хто можа адмаўляць: гэта еўрапейская краіна са сваёй развітай культурай. Дык ці так адназначна выглядаюць з улікам далейшага развіцця гісторыі падзеі Зімовай вайны? Ці не завялікі кошт заплаціла краіна? Што такое 50 гадоў у маштабах гісторыі? Гэта нішто. А што такое 10% тэрыторыі для не самай вялікай краіны свету? Гэта велізарны кавалак.

**Андрэй Козел**

**Ад рэдакцыі.** Вашы разважанні не пазбаўленыя рацыі, калі лічыць, што галоўная каштоўнасць для краіны і народа — колькасць квадратных кіламетраў на зямным шары, якія яны займаюць, а ўсё астатняе, у тым ліку і людскія лёсы, мусіць быць гэтаму падпарадкаванае. Між тым, гэта зусім не бясспрэчна. Галоўная каштоўнасць, на нашу думку, усё ж не зямля, а людзі, і менавіта пра іх інтарэсы перадусім мусяць думаць кіраўнікі краіны.

Нам лёгка сёння гаварыць, што 50 гадоў у маштабах гісторыі — гэта нішто. Бо глядзім на сітуацыю праз прызму тых гістарычных ведаў, якія маем мы сёння і якіх не маглі мець людзі тагачасныя. Адкуль маглі ведаць фіны ў 1939 годзе, што Савецкі Саюз праз паўстагоддзя бясслаўна разваліцца, прытым адносна малой крывёй? Нават у 1980-я, за лічаныя гады да распаду, менавіта ў такое развіццё падзей мала верылася. Што ўжо казаць пра канец 1930-х?

Адкуль фіны маглі таксама ведаць, што пасля смерці Сталіна ў 1953 годзе ягоныя наступнікі значна лібералізуюць камуністычны рэжым і ён хоць застанецца зусім недэмакратычным і рэпрэсіўным, але, прынамсі, не такім небяспечным для жыцця? У 1939 годзе ў фінаў была перспектыва далучэння не да застойнага Саюза брэжнеўскіх часоў, дзе ўжо было больш маразму, чым страху, а да дзяржавы з адным з найжахлівейшых, найкрывавейшых рэжымаў у сусветнай гісторыі. Савецкія турмы паглынулі б дзясяткі і сотні тысяч фінаў — гэтак жа сама, як многіх жыхароў балтыйскіх краін, якім не пашчасціла ад саветаў у тыя гады адбіцца. Не кажучы пра тое, што і воля ў сталінскім СССР не нашмат адрознівалася ад лагера. Згадаем адных толькі няшчасных калектывізаваных сялян, паводле свайго прававога і маёмаснага стану фактычна вернутых у часы прыгоннага права.

Умовы жыцця ў той краіне пакідалі адбітак і на псіхалогіі ды светапоглядзе яе грамадзян. Пакаленні, выгадаваныя ва ўмовах фактычнай ізаляцыі ад знешняга свету, адзяржаўленай планавай эканомікі і настойлівай саветызацыі праз школу і іншыя сацыяльныя інстытуты, мелі вялікія цяжкасці з адаптацыяй да новых умоў, калі камуністычны рэжым рухнуў. Атрымаўшы незалежнасць, узніклыя на руінах СССР краіны мусілі праходзіць праз балючыя эканамічныя і сацыяльныя рэформы. Так, у адрозненне ад большасці іншых былых савецкіх рэспублік, краіны Балтыі здолелі прайсці постсавецкую трансфармацыю дастаткова ўдала. Сёння Латвія, Літва і Эстонія — паўнапраўныя члены Еўрасаюза. Але відавочна, што гэта далёка не самыя перадавыя і камфортныя для жыцця еўрапейскія краіны. Згадаем хоць бы вядомы факт, што ў Латвіі і Літве вялікія дэмаграфічныя праблемы, паколькі шмат моладзі выехала ў пошуках лепшай долі далей на захад. І не факт, што ў будучыні тэндэнцыя стане адваротнай. Не варта забывацца таксама, колькі праблем ужо прынесла і працягвае прыносіць Латвіі і Эстоніі змена дэмаграфічнага складу насельніцтва гэтых краін у выніку масавых перасяленняў з іншых рэспублік у савецкі час. ◆

**Ад рэдакцыі**

Дарагія чытачы, дасылайце нам тэмы ды ідэі артыкулаў, успаміны, сямейныя гісторыі (і нават рэцэпты!) на **history@nn.by**. А таксама падпісвайцеся, каб штомесяц гарантавана атрымліваць «Нашу гісторыю» ў паштовую скрыню. Падпісны індэкс **00469**.

# «Утрымаць Ціта на плыву»

## Як ЗША прыйшлі на дапамогу Югаславіі, каб яна выстаяла ў барацьбе з СССР

**Гэтаму не перашкодзіла розніца ні ідэалогій, ні стратэгічных мэтаў. Злучаным Штатам было важна, каб Югаславія не паддалася Сталіну. А Югаславія хацела захаваць незалежнасць між двума блокамі — савецкім і НАТО. У выніку Захад шчодра фінансаваў патрэбы югаславаў, піша Андрэй Дынько.**

Прайшло 70 гадоў, а здаецца, што ў Вашынгтоне змагаюцца тыя самыя кірункі. У 1949-м рэспубліканцы-ізаляцыяністы не хацелі, каб амерыканскія грошы трацiліся на абарону Еўропы — тады акурат ствbooралася НАТО, і многія былі супраць. Рэлігійныя кансерватары не хацелі, каб іх дзяржава спансаравала дыктатарскія рэжымы — тады акурат нацыяналісты з Гаміньдана ў Кітаі з трэскам прайгралі камуністам. Тым не менш адміністрацыя прэзідэнта Гары Трумэна пайшла насустрач просьбам Бялграда пра дапамогу.

Напачатку адміністрацыя Трумэна лічыла за лепшае дзейнічаць ціха, не пытаючы згоды Кангрэсу, справядліва мяркуючы, што грамадскай падтрымкі ідэя дапамогі камуністычнаму дыктатару можа не знайсці. Час пацвердзіць рацыянальнасць яе разліку. Па меры развіцця супрацоўніцтва з Захадам Ціта вызваліць палітвязняў, пойдзе на кантакт з НАТО — хоць так і не ўступіць у альянс, вырашыць мірам тэрытарыяльны канфлікт з Італіяй і стане вечным прыкладам для сатэлітаў СССР, што Маскве можа быць альтэрнатыва.

### «Нацыяналістычныя элементы занялі дамінуючыя пазіцыі»

Разлом у адносінах Іосіфа Сталіна і Іосіпа Броз Ціта, СССР і Федэратыўнай Народнай Рэспублікай Югаславіі, адбыўся ў 1948 годзе, калі Ціта адмовіўся перадаць Маскве кантроль над ключавымі сферамі эканомікі. Ціта адчуваў сябе свабаднейшым за кіраўнікоў Румыніі ці Венгрыі. Югаслаўскія партызаны практычна самі вызвалілі ад немцаў сваю краіну, а таму на тэрыторыі Югаславіі не стаялі савецкія войскі.

Сталін не прывык, каб яму пярэчылі, і ў 1949 годзе, калі спробы зваліць Ціта сіламі прасавецкіх элементаў у Югаславіі не далі выніку, югаславы апынуліся перад пагрозай узброенай агрэсіі. 28 чэрвеня Югаславію выключылі з Камінфарма — так тады называўся пераемнік Камінтэрна. Аргументы нязначна адрозніваліся ад тых, якія прыводзяць у адрас нялюбых замежных урадаў сёння: «Нацыяналістычныя элементы занялі дамінуючыя пазіцыі ў кіраўніцтве Югаславіі».

### «Мы іх злавілі ўжо пяць»

Аднак у асобе Ціта Сталіну трапіўся моцны арэшак. Югаслаўскі маршал, былы партызан, не толькі не імкнуўся шукаць кампрамісаў — якія загубілі ў свой час усіх, хто спадзяваўся Сталіна ўлагодзіць, — а пайшоў на прынцып. «Перастаньце падсылаць забойцаў. Мы іх злавілі ўжо пяць, аднаго з бомбай і другога з аўтаматам. [...] Калі не перастанеце падсылаць забойцаў, я пашлю забойцу ў Маскву. Аднаго — і другога не трэба будзе», — грозна напісаў ён Сталіну.







**Прэзідэнт Гары Трумэн і маршал Іосіп Броз Ціта.**

### Іосіп Броз Ціта

Іосіп Броз Ціта (1892–1980) — камуністычны лідар, кіраўнік партызанскага руху і творца пасляваеннай Югаславіі. Ён быў адным са стваральнікаў і ідэолагаў Руху недалучэння. Стварыў канцэпцыю «югаслаўскага сацыялізму». Кіраваў да смерці, часам жалезнай рукой, але даючы людзям больш свабоды, чым мелі грамадзяне краін савецкага лагера. Быў неардынарны ва ўсім, нават у прыватным жыцці — быў некалькі разоў жанаты. Меў мяшанае этнічнае паходжанне: ягоны бацька быў харватам, а маці славенкай. Ягоная мадэль Югаславіі, як выявілася, была выбудаваная толькі пад яго харызму, і неўзабаве пасля смерці правадыра дзяржаву чакаў распад і крывавыя войны.

Тысячы югаслаўскіх русафілаў і сталіністаў былі тады арыштаваныя і высланыя на востраў Голы Аток у Адрыятычным моры.

Але ўсе гэтыя жорсткія меры не спрацавалі б, каб у краіне нарастала незадавальненне эканамічнымі цяжкасцямі. Бялграду трэба былі грошы, каб народ адчуваў паляпшэнне жыцця. І Ціта разумеў, што грошы можна знайсці толькі на Захадзе. Югаслаўская дыпламатыя на чале са славенцам Эдвардам Кардэлем атрымлівае задачу інтэнсіфікаваць кантакты з ЗША.

У Белым доме тым часам гадалі: верыць гэтым сігналам ці не верыць? Ці не будуць грошы амерыканскіх падаткаплатнікаў у выніку выкарыстаныя на вайну супраць саміх ЗША?

## ЦРУ перахоплівае ліст

Каб перашкодзіць намерам Ціта, савецкія агенты пачынаюць сеяць думку, што Югаславія — дзяржава камуністычная, і ўсе разыходжанні Ціта са Сталіным скончацца вяртаннем Бялграда пад кантроль Крамля. Таму «інвестыцыі» на Саве і Драве не маюць сэнсу.

Аднак у канцы жніўня 1949 года ЦРУ перахоплівае ліст Ціта Кардэлю і ўпэўніваецца, што югаслаўскае кіраўніцтва сур'ёзнае ў сваіх намерах палепшыць адносіны з Захадам.

Джэймс Рыдлбергер, пасол ЗША ў Бялградзе, пазней назаве дапамогу рэжыму Ціта «адным з самых смелых рашэнняў прэзідэнта Трумэна». У яго прыняцці асаблівую ролю адыгралі амерыканскі дыпламат Джордж Кенан — будучы пасол ЗША ў СССР і Югаславіі, а таксама дзяржсакратар Дын Эчэсан.

Складанасць для амерыканцаў была ў тым, каб правільна спрагназаваць: ці не справакуе Сталіна дапамога амерыканцаў? ці наважыцца СССР на спробу захапіць Югаславію сілай? і, калі наважыцца, ці ўдасца яму гэта? Калі наважыцца і не ўдасца — то за Ціта пойдуць іншыя сатэліты СССР. Калі наважыцца і ўдасца — гэта пакажа безнадзейнасць спробаў быць незалежнымі ад Масквы. Большасць у Вашынгтоне схілялася да непазбежнасці другога. Але Кенан настойваў на магчымасці першага.

ЦРУ, у сваю чаргу, старанна сачыла за перамяшчэннямі войскаў каля югаслаўскай мяжы. Па ацэнках амерыканскіх аналітыкаў, для акупацыі Югаславіі патрэбна было 15 дывізій. Па стане на верасень саветы сабралі там толькі 9.

## Без публічных заяў

Восенню таго ж 1949-га, без аніякіх публічных заяў, ЗША і іх саюзнікі падтрымалі на пасаду члена Рады бяспекі ААН кандыдатуру Югаславіі, а не падкантрольнай Маскве Чэхаславакіі, нягледзячы на тое, што генсак ААН, нарвежац ▶




**Ціта з Іосіфам Грыгулевічам. Ён яўна не ўяўляе сабе, што вядзе мілую размову з прыемным і ўсмешлівым прафесійным кілерам.**

## Размова з кілерам

Сярод удзельнікаў спроб забойства Ціта быў і ўраджэнец Вільні, геній спецаперацый Іосіф Грыгулевіч. На той момант ён пад новым іменем паступіў на дыпламатычную службу Коста-Рыкі і даслужыўся там да пасады пасла пры Ватыкане. А па сумяшчальніцтве — і ў Югаславіі. Меркавалася, што падчас аўдыенцыі ў Ціта Макс (агентурны псеўданім Грыгулевіча) «з замаскіраванага ў адзенні бясшумна дзейнага механізма выпусціць дозу бактэрый лёгачнай чумы, што гарантуе заражэнне і смерць Ціта і прысутных у памяшканні асоб...» (самому тэрарысту паабяцалі ўкалоць супрацьчумную вакцыну). Праўда, нешта не зраслося.

▶ Тругвэ Лі, баяўся, што Масква ўспрыме гэта як асабістую знявагу. Такім чынам Югаславія атрымала міжнародную трыбуну.

Тады ж у Лондане сустрэліся амерыканскія паслы з усходнееўрапейскіх краін, каб вызначыць агульную пазіцыю па югаслаўскім пытанні. Як сведчаць рассакрэчаныя архівы амерыканскай дыпламатыі, яны прыйшлі да высновы, што трэба «ўтрымаць Ціта на плыву». Амерыканцы меркавалі, што падзенне Югаславіі павялічыць пагрозу для Грэцыі і Італіі. У абедзвюх гэтых краінах тады былі моцныя пазіцыі мясцовых камуністаў, і, абапіраючыся на іх як на «пятую калону», Сталін мог бы развіць югаслаўскі поспех.

На Захадзе супраць падтрымкі Ціта актыўна выступала толькі суседняя Італія, якая баялася прэтэнзій Югаславіі на горад Трыест. Вакол гэтага горада жылі і славенцы, і італьянцы, і ягоны лёс па выніках вайны да канца не быў вырашаны.

Як пакажа час, гэта былі беспадстаўныя страхі. Па меры таго як Ціта знаходзіў пункты супадзення інтарэсаў з Захадам, ён знайшоў і кампрамісы з італьянцамі. Залежны ад заходняй дапамогі югаслаўскі кіраўнік цвяроза ацэньваў, што лепш сініца ў руках, чым Трыест-журавель у Юльянскіх Альпах. Больш за тое, у Бялградзе сталі па-іншаму глядзець на прысутнасць амерыканскіх і брытанскіх войскаў у Трыесце. Калі раней іх разглядалі як пагрозу, то цяпер сталі бачыць той плацдарм, з якога ў Югаславію можа прыйсці дапамога ў выпадку агрэсіі СССР.

Югаславія прасіла пазык і крэдытаў. Захад даваў — хоць і ўвесь час нагадваў Бялграду пра патрэбу рэфармавання эканомікі, без якога Югаславія не зможа іх аддаць.

**Югаславія прасіла крэдытаў, Захад даваў. Але ўвесь час нагадваў Бялграду пра патрэбу рэфармавання эканомікі, без якога Югаславія не зможа іх аддаць**

У студзені 1950-га Ціта вызваліў большасць палітвязняў, дазволіў грамадзянам свабодны выезд у краіны Захаду і дапусціў адкрыццё новых цэркваў. Адначасова быў пастаўлены крыж на калектывізацыі, адмененыя прывілеі для наменклатуры,

а на прадпрыемствах уводзілася працоўнае самакіраванне — фірмовая практыка югаслаўскага сацыялізму.

Асабліва важнай стала фінансавая і прадуктовая падтрымка Югаславіі ў 1950-м, калі ў краіне здарылася засуха. ЗША выдзелілі Югаславіі на барацьбу з наступствамі засухі агулам каля 140 мільёнаў долараў — гэта прыкладна 1,5 млрд на сённяшнія грошы.

17 лістапада таго самага года Югаславія фактычна падтрымала пазіцыю ЗША па Карэі ў ААН, запатрабаваўшы вываду кітайскіх войскаў.

### «Амерыканцы самі»

Эканамічная дапамога была жыццёва неабходная Югаславіі для выжывання, але заставалася таксама важнае пытанне пра наяўнасць зброі, каб адбіць магчымы напад ці адстрашыць патэнцыйнага праціўніка.

Гэтае пытанне было далікатным. Бялград баяўся ставіць яго адкрыта. У снежні 1950 года на сустрэчы з брытанскім вайсковым аташэ Ціта выказаўся наступным чынам: «Я не магу, каб людзі гаварылі: “Гэта амерыканскі танк, гэта брытанскія гарматы, Югаславія — гэта англа-амерыканская база”». У тым жа снежні Югаславія пасылае высокапастаўленага дыпламата ў Вашынгтон. Для канспірацыі той, аднак, піша ў сваёй тэлеграме ў Бялград, што гэта не ён, а «амерыканцы самі паставілі пытанне аб аказанні дапамогі» — мелася на ўвазе вайсковай.

Першая пастаўка амерыканскага ўзбраення ў Югаславію была сакрэтнай, гэтым займалася ЦРУ. Быў адпраўлены карабель са старымі вінтоўкамі. Але псіхалагічны эфект гэтай пастаўкі быў каласальны. Югаславы зразумелі, што могуць разлічваць на большую падтрымку ў выпадку нападу СССР.

Цікава, што Бялград хацеў сакрэтных паставак, каб Масква не магла яго абвінаваціць у супрацы з «заходнімі імперыялістамі», і не разумеў, што амерыканцы максімум што могуць зрабіць сакрэтна — гэта выслаць пару караблёў з якімі-небудзь трафейнымі аўтаматамі. А вось для паставак новай зброі патрэбныя афіцыйная просьба і адкрытая працэдура.

Вясной 1951 года ЗША, Вялікабрытанія і Францыя дамовіліся пра памер супольнай дапамогі Югаславіі ў бягучым годзе — 265 млн долараў (прыкладна 2,8 млрд на сённяшнія грошы) — і пра тое, хто ў якой долі возьме на сябе гэтыя выдаткі.

А ў чэрвені 1951-га — праз два гады ад пачатку збліжэння з Захадам — Бялград звярнуўся з першай афіцыйнай просьбай пра вайсковую дапамогу.

У той жа час Ціта катэгарычна адмаўляўся ад прапаноў адкрыта падтрымаць ЗША ці далучыцца да заходніх структур: «Нам важна захаваць нейтралітэт, і мы не пацерпім, каб нам дыктавалі». Амерыканцы тактоўна прынялі такі статус-кво.

### «Люблянскі калідор»

Пры канцы 1951 года Бялград наведаў кіраўнік Генштаба амерыканскай арміі. Перад яго прыездам пад хатні арышт быў пераведзены каталіцкі арцыбіскуп Алаізье Стэпінац — самы вядомы з югаслаўскіх палітвязняў. Гэта здымала палітычную перашкоду для супрацы з Захадам.

Але югаславы былі не радыя пачуць ад амерыканскага генерала, што ў выпадку нападу на Югаславію НАТО будзе абараняць толькі «Люблянскі калідор», які дае выхад на раўніну вакол ракі По (гэтым шляхам да Венецыі ішлі яшчэ орды Батухана ў 1242-м), а не ўвесь перыметр краіны, як яны спадзяваліся. Акрамя таго, амерыканцы ў выпадку вайны не збіраліся забяспечваць нейтральную краіну паветранай падтрымкай, хоць Ціта прасіў самалётаў.

Тым не менш Югаславія ў тым жа годзе атрымала з-за акіяна зброі на 77 млн долараў.

У 1952 годзе югаслаўская прэса заявіла, што «наступствы савецкай блакады пераадоленыя дзякуючы супрацоўніцтву з Захадам».

Савецкі Саюз, які якраз сутыкнуўся з супрацівам у Карэі, не наважыўся ўвязацца ў другую аналагічную вайну, дзе амерыканцы таксама прыйшлі б на дапамогу яго праціўнікам.

Інтэнсіўная супраца Югаславіі з Захадам працягвалася аж да смерці Сталіна і прыходу да ўлады Мікіты Хрушчова, які адмовіўся ад планаў змены рэжыму ў Бялградзе. Але роўнааддаленасць ад Масквы і Вашынгтона і асаблівыя эканамічныя адносіны з Захадам Югаславія захавае да канца свайго існавання. Дзякуючы грашам Міжнароднага валютнага фонду і заходнім тэхналогіям югаславы будуць жыць даволі някепска — як па тых часах. У Савецкім Саюзе за югаслаўскімі таварамі ганяліся, а тур на Балканы быў марай для кожнага савецкага чалавека.

А Ціта застанецца ва ўладзе да самай смерці ў 1980 годзе. ◆

### Прачытаць больш

можна ў кнігах Kauren M. Lees: Keeping Tito Afloat: The United States, Yugoslavia, and the Cold War, 1945–1960



Alain Frerejean. Tito, Truman. Le coup d'arrêt à Staline



# «Югаслаўскі брутальзм»



**Помнік партызанам** на тэрыторыі цяперашняй Босніі і Герцагавіны.

PINTEREST.COM





MONUMENTALISM.NET

Помнік героям антыфашысцкага паўстання **на Пятровай Гары ў Харватыі, цяпер напаўразбураны.**



SHUTTERSTOCK.COM, BY FARRIS NOORZALI

Нацыянальная бібліятэка Косава **ў Прышціне.**




**Спецыяльны фотапраект швейцарскага фатографа Валянціна Джэка «Да бетоннай утопіі: архітэктура Югаславіі 1948–1980»** у 2019 годзе быў выстаўлены ў Нью-Ёркскім музеі сучаснага мастацтва (МоМА).










**Помнік «Паўстанню ў дзень святога Іллі»** ў Крушаве, Македонія.

У цітаўскай Югаславіі нарадзіўся спецыфічны архітэктурны стыль, які адлюстроўваў суровы дух гэтага рэжыму, а таксама асабістыя густы Іосіпа Броз Ціта. Гэты стыль, манументальны да бяздушнасці, часам называюць «бетонным бруталізмам».



**Радня Аржахоўскіх** кожны год збіраецца ў роднай вёсцы.

# Калоднае, літвінскі астравок

## *Кавалак Панямоння на Пінскім Палессі*

**Пра незвычайную гісторыю перасялення сялян з-пад Навагрудка ў маёнтак Скірмунтаў, канфіскаваны пасля паўстання 1863 года, распавядае ўраджэнка Калоднага, настаўніца Ірына Рубан.**

У 1983 годзе мы, каладэнцы, пайшлі ў суседнія Фядоры ў 9-ы клас, бо ў Калодным была толькі васьмігодка. І тады аказалася, што мы не заўсёды разумеем сваіх аднакласнікаў. А калі і разумеем, то іх мова для нас усё роўна смешная. Федарцы і нячатаўцы казалі «в**і**тэ», «п**і**йдытэ», «пэрэт**о**пчэсса», «сказ**а**ты», «ляг**а**ты». Гэта кардынальна адрознівалася ад нашай каладэнскай гаворкі, у якой мы дзекалі і цекалі, казалі «вы», «пойдзеце», «launch»

**Калода**

— гэта кавалак, абрэзак, абрубак тоўстага дрэва. У выдзеўбаных «калодах» разводзілі пчол, пакуль не распаўсюдзіліся вуллі сучаснага кшталту. Тыя «калоды» прывязвалі да высокіх дрэў у лесе, каб там сяліліся дзікія пчолы. На Піншчыне такое старое бортніцтва захавалася да XX стагоддзя.

### Панскае месца

Калоднае, цяпер сяло на захадзе Столінскага раёна, упершыню згадваецца ў пісьмовых крыніцах у 1507 годзе як маёнтак, які трапіў у рукі Скірмунтаў — шляхецкага роду пінскай прапіскі.

Яшчэ ў першай палове XIX стагоддзя гэта быў востраў сярод балот: панская сядзіба з гаспадарчымі пабудовамі стаяла на ўзвышшы, а вясной усё

наваколле залівала. У вялікія паводкі дабіралася вада і да самога маёнтка, таму пры Аляксандру Скірмунце, які пачаў гаспадарыць у 1820 годзе, прыгонныя сяляне насыпалі вакол сядзібы земляны вал. Для рэгулявання ўзроўню вады зрабілі драўляную запруду, дзякуючы якой працаваў вадзяны млын. Часам, калі не было вады, млын працаваў з дапамогай ветру.

Аляксандр Скірмунт памёр у 1847-м, а яго жонка Гартэнзія (дарэчы, сястра мастака Напалеона Орды) працягвала жыць у Калодным да 1860 года, а пасля прадала яго шляхціцу Восіпу Глябовічу.

Глябовіч атрымаў у рукі моцную гаспадарку, але як след пусціць карані ў палескія балоты не паспеў. Ён падтрымаў паўстанне 1863 года, за што яго неўзабаве выслалі ў Сібір. Дзяржава падарыла маёнтак барону Мікалаю Гартынгу, але доўга Калоднае не затрымалася і ў яго. Дзясятак год «паматросіўшы», прышлы гаспадар падаў у газету аб'яўку аб продажы маёнтка.

### Зямельнае таварыства

Валасны пісар Якаў Сазановіч ведаў, што сялянам на Наваградчыне востра не хапае зямлі. Прачытаўшы аб'яўку Гартынга, ён аб'ехаў мястэчкі Шчорсы і Карэлічы, вёскі Харошыя і Жукаў Навагрудскага павета і знайшоў сялян, згодных перасяляцца.

**Прозвішчы перасяленцаў з Наваградчыны ў Калоднае:**
Сазановіч, Самайловіч, Карлюк, Русак, Рубан, Аржахоўскі, Шышэя, Шасцель, Лецка, Ляўковіч, Моніч, Барэйка, Дзяшкевіч, Дубовік, Война, Базар, Гурын, Жук, Цішук, Ложачнік, Стасевіч, Яваровіч, Каляда, Карась, Жарыч, Вішнеўскі, Лічко, Шарыкала.

Іх дэлегацыя наведала Калоднае, агледзела маёнтак, зямлю. Трошкі глебы ўзялі з сабой. Дома, на Наваградчыне, яе доўга разглядалі, мялі ў руках, паспрабавалі нават на язык. Глеба была цёмнай, гаркаватай і зярністай, як належала быць добрай зямлі.

Так і адважыліся накіроўваць хадакоў у Мінск для афармлення дакументаў на пазыку.

## Прывезеную з Калоднага зямлю доўга разглядалі, мялі ў руках, паспрабавалі нават на язык

Па ўмовах угоды сяляне куплялі ўсю зямлю, якая належала маёнтку. Для гэтага яе падзялілі на ўчасткі па 60 дзесяцін, за кожны ўчастак трэба было даць задатак 10 рублёў. Рэшта, 37 800 рублёў, пазычалася дзяржавай наваградскім сялянам на 20 год. Бяднейшыя не маглі ўнесці задатак за ўвесь участак, таму скідваліся ўдвох, а афармлялі дакументы на аднаго.

Восенню 1888 года ў Калоднае прыехалі першыя перасяленцы, 170 мужчын і 175 жанчын. Вясной 1889 года прыехала яшчэ 336 чалавек. Кожны меў 1 га ворыва плюс магчымасць карыстацца сервітутамі — лугамі і лясамі ў грамадскім валоданні. ▸

### Каладэнская загадка

Наваградак гарыць — Вільня, сцяўшыся, глядзіць. ( Калодзеж; вядро глядзіць у ваду).




**Мемарыяльная дошка ў гонар Гелены Скірмунт у Калодным.** Дошку ўсталявала ў 2003 годзе ўпраўленне культуры Брэсцкага аблвыканкама.

### Алена Скірмунт і дэпеша Траўгуту

Гелена (Алена) Скірмунт (1827–1874) — самая знакамітая жанчына з Калоднага, дачка Аляксандра і Гартэнзіі Скірмунтаў. Як і яе родны дзядзька Напалеон Орда, Гелена захаплялася мастацтвам. Яна малявала пейзажы, партрэты, а таксама рабіла скульптуры і выразала з дрэва.

Гелена Скірмунт была прасунутай і адважнай жанчынай. Яе характар праявіўся, у прыватнасці, падчас паўстання 1863 года. Калі ішлі баі на Пінскім Палессі, а паўстанцы хранічна саступалі добра ўзброеным расійскім жаўнерам, яна рызыкнула паехаць на месца сутычак пад вёску Струга, каб асабіста перадаць даверанае ёй пісьмо кіраўніку атрада Рамуальду Траўгуту. Траўгутаўцаў яна не заспела, але мела непрыемнае спатканне з тамтэйшымі сялянамі, якія не спачувалі «шляхецкаму закалоту». Яе намерваліся перадаць уладам, але фурман здолеў абараніць гаспадыню і адвезці дадому. Пазней, пасля канчатковага разгрому паўстанцаў, Гелену выклікалі ў Пінск на допыт. І хоць даказаць віну не змаглі, усё ж выслалі на тры гады ў Тамбоў.

Дзённікі і лісты Гелены Скірмунт праз год па яе смерці часткова апублікаваў Браніслаў Залескі. Ёсць і пераклад кнігі на беларускую мову: Залескі, Браніслаў. З жыцця літвінкі. Мінск, 2009.



**Брат і сястра Валянціна і Мікалай Мазалы.** Валянціна была жонкай Юрка Сазановіча, унука заснавальніка вёскі Якава Сазановіча. А Мікалая раскулачылі ў 1951 годзе і адправілі ў паўднёвы Казахстан. Пасля рэабілітацыі ён вярнуўся і жыў у Пінску. **Звярніце ўвагу на кашулю Мікалая.** На Палессі так не вышывалі.

### Каладэнская мудрасць

- Які ішоў, такую стрэў. (Два боты пара.)
- Гуртам і бацьку добра біць. (Калі дружна рабіць, то любая задача лёгкая.)
- Як уродзіцца цяля з лысінкай, то з ёю і памрэ. (Чалавека, натуру не пераробіш.)
- Жыве кот, жыве і сабака. (Не аднолькава, пра розныя ўзроўні жыцця. Пражыць то скрозь можна, ды па-рознаму жыць будзеш.)

### ▸ Прадалі лес Айзіку і Мееру

Першыя два гады ўсе 92 сям'і жылі ў былой панскай сядзібе. Абжывацца было нялёгка, хоць на перыяд пазыкі дзяржава вызваліла каладэнцаў ад падаткаў.

У першы год быў неўраджай, зімавалі галадна. Прыходзілася нават парыць мякіну, варыць кару, а ў хлеб дадавалі бульбу. Калі пачалі паміраць дзеці (а іх памерла за той першы год 16), сярод перасяленцаў пачалася паніка. Некаторыя збеглі ў Сібір. Адна сям'я вярнулася назад у Наваградскі павет. Але тым, хто купіў гэтую зямлю за апошнія грошы, не было куды і не было з чым ехаць. Ды і невядома было, што чакае іх у Сібіры. Таму большасць перасяленцаў засталася.

І праўда, пазней стала лягчэй. Ужо праз два гады сем'і паперабіраліся ва ўласныя хаты. Так з'явіліся ў вёсцы вуліцы Л**о**мінка, М**а**няво, М**і**лушаво, Сх**э**ды — назвы, якія, хутчэй за ўсё, наваградскія людзі прывезлі з сабой з радзімы.

Самым важным пытаннем была пазыка. Каб зарабіць грошы і разлічыцца з банкам, каладэнцы прадавалі драўніну. Мужыкі па чарзе ездзілі ў лес, секлі дрэвы, а вечарам здавалі вырučаныя ад продажу дрэва грошы касіру Каладнянскага таварыства, ад імя якога яны афармлялі ўсе дакументы. Сумленнасць была выключная. У вёсцы дагэтуль расказваюць такую гісторыю: «Шасцель Павел прадаў лес, а вечарам здаў грошы касіру. І вось уначы нехта пастукаў касіру ў акно. Аказалася, што Павел знайшоў у сябе 20 капеек недаздадзеных грамадскіх грошай і вырашыў неадкладна здаць іх у касу».

Самастойны продаж лесу — марудная справа, таму вырашылі

## Шлюбам браліся са сваімі або прывозілі жонак з Наваградчыны



**Каладэнская моладзь** у 1930-я гады.



### Каладэнскія словы

падх**о**джвацца — упраўляцца па гаспадарцы
кв**а**шаніца — халадзец
ком, кома — бабка з варанай бульбы, пюрэ. «З'еш кому і не кажы нікому»
др**а**нка — бабка з сырой тартай бульбы
лахач**ы** — дурніцы
г**э**трук — у гэтым годзе
такр**о**к — у тым годзе
к**е**дысь — даўней.

**Каладэнка ля крыжа**, зробленага мясцовым майстрам Юрыем Рубанам. Фота Джона Кустандэра.

прадаць лес на карані. Знайшліся купцы, Айзік Шмуц і Меер Гольдзін, што пагадзіліся пагасіць пазыку сялян у абмен на права поўнага высякання лесу маёнтка Калоднае.

Прадаць гэты лес можна было б і даражэй. Але здзелка давала магчымасць расчышчаць ад лесу штогод каля 100 дзесяцін зямлі, а сяляне вызваляліся ад неабходнасці траціць час на высечку і маглі спакойна касіць і сеяць.

Так каладэнцы развіталіся і з доўгам, і з лесам.

### «Лепей за апошняга каладэнца, чым за першага пінчука»

Між сабой каладэнцы жылі дружна — мо таму што разам апынуліся ў чужым краі. А ў выніку змаглі не толькі выжыць, але і зажыць заможна па палескіх мерках.

Вось толькі з суседзямі-палешукамі (іх называлі «пінчукамі») адносіны не складваліся. Каладэнцы значна адрозніваліся ад пінчукоў мовай, звычаямі, абрадамі, вопраткай.

Ды і пінчукі зайздросцілі каладэнцам, якія на нядаўна абжытых землях мелі сады, агароды, чаго першыя тады яшчэ не ведалі. Спалі каладэнцы на ложках, а пінчукі — на шырокіх палацях, адных на ўсю сям'ю. Дый падлога была ў каладэнцаў драўляная, а ў пінчуцкіх хатах — ▶

### Як дабрацца да Калоднага?

Вёска Калоднае знаходзіцца на трасе Пінск – Столін. З Мінска ці Брэста сюды можна дабрацца аўтобусам, які едзе ў кірунку Століна, Альшан, Давыд-Гарадка. Альбо можна даехаць цягнікам да Пінска, але там усё роўна прыйдзецца перасесці на аўтобус у любым са згаданых кірункаў.

**Скірмунты** — даўні шляхецкі род. Сваёй велічы Скірмунты дасягнулі у XIX стагоддзі, калі пачалі развіваць прамысловасць. Самым паспяховым прадпрымальнікам са Скірмунтаў быў Аляксандр. Але не ўласнік Калоднага, а прадстаўнік другой лініі роду, уласнік Моладава і Парэчча. У 1830 годзе ў Моладаве ён адкрыў цукраварню, якая працавала па інавацыйнай тады тэхналогіі выпарвання сіропу на металічных, падагрэтых парай лістах. За кошт гэтага ў Моладаве цукар атрымлівалі за рэкордныя 5 хвілін — замест ранейшых 4–5 гадзін выпарвання ў ёмістасцях. Падрабязней пра цукровыя праекты Аляксандра Скірмунта можна пачытаць у артыкуле Андрэя Кіштымава «Як будаваліся і як гарэлі панскія цукраварні» (№ 1/2018 «Нашай гісторыі»). Было ў гэтага прадпрымальніка і шмат іншых прыбытковых стартапаў. Прэм'ер-міністр Беларускай Народнай Рэспублікі Раман Скірмунт, забіты сялянамі ў 1939 годзе, быў унукам гэтаму паспяховаму пінскаму бізнэсмену. Пра яго і як пра чалавека, і як пра палітыка больш падрабязна чытайце ў № 1/2019 «Нашай гісторыі».

ток, то-бок падлога з утаптанай зямлі ці гліны.

З гэтых адрозненняў неяк само сабой павялося: каладэнцы браліся шлюбам са сваімі альбо прывозілі жонак з Наваградчыны, бо жаніцца з дзяўчынай з суседняй вёскі ці выйсці замуж у суседнюю вёску лічылася непрэстыжным. Нават прымаўка была: «Лепей выйсці замуж за апошняга каладэнца, чым за першага пінчука».

Адносіны з суседзямі пачалі складвацца на лепшае ўжо толькі пасля Другой сусветнай вайны. Магчыма, гэтаму паспрыяла тое, што каладэнцы былі ў бежанцах у суседніх вёсках, калі паўз іх сяло ішоў фронт. Мая маці ў 1967 годзе таксама выйшла замуж за хлопца з вёскі Семігосцічы Столінскага раёна. Бацька хутка прывык да каладэнскіх звычаяў і нават вывучыў каладэнскую гаворку.



Лістапад 2010 года. **Жанчына прыбірае на могілках.** Фота Джона Кустандэра.

Неўзабаве пасля заснавання вёскі каладэнцы пабудавалі невялікую царкву. Яе, можа, і не было б, каб не зладзеі. Пакуль Гольдзін са Шмуцам высякалі пад корань мясцовы лес, знайшлася сям'я, што пакрысе цягнула дрэва сабе ў двор. Купцы не сцярпелі і паскардзіліся ў таварыства. Таварыства скаргу разгледзела і вырашыла канфіскаваць скрадзены лес. Толькі не вяртаць яго Шмуцу, а пабудаваць царкву, якая ў 1896 годзе адчыніла свае дзверы.

Так пачыналася вёска Калоднае. Цяпер яна, як і многія, ціха ўздыхае, што людзей становіцца менш і маладыя не застаюцца, але гэта ўжо іншая гісторыя. ◆

Каладэнская царква знаходзіцца на могілках. **У адрозненне ад большасці палескіх цэркваў, яе аснову складае квадрат, а не прамавугольнік.** Царква маленькая, прыпісана да Радчыцкага прыходу і ніколі не мела ўласнага бацюшкі. Адметна, што царква асвечана ў гонар Дзмітрыя Салунскага — таго самага святога, чыё імя носіць нашмат старэйшая за каладнянскую царква ў Шчорсах. Са Шчорсаў паходзіць частка першых каладэнцаў, так што супадзенне, відаць, не выпадковае.



## Жлукта

Раней бялізну мылі ў драўлянай жлукце — вялікай бочцы на трох ножках з дзіркай у дне. На бялізну клалі анучу, на якую зверху сыпалі попел, залівалі вадой. Пасля ў жлукце тапталі бялізну нагамі, пакуль яна не рабілася чыстай. П'яніц, дарэчы, па-беларуску называюць таксама жлуктамі. «Жлукціць» — многа піць, бо ў бочку-жлукту трэба наліць шмат вады, каб запоўніць.



## Стары млын

У Калодным захаваўся будынак млына, які цалкам мог бы прэтэндаваць на статус гісторыка-культурнай каштоўнасці. Спадчынныя млынары Юрко і Сяргей Сазановічы пабудавалі яго ў 1936 годзе. Для тых часоў гэта быў сапраўдны цуд тэхнікі. На адным вале звышпрадукцыйнага млына можна было выконваць не менш за 5 розных аперацый: малаціць збожжа, рабіць крупы, ціснуць алей, часаць воўну, пілаваць дошкі. Каб навучыцца працаваць там, Юрко Сазановіч ездзіў на спецыяльныя курсы ў Варшаву. Яго, былога ўласніка, пакінулі працаваць на млыне нават пасля нацыяналізацыі прадпрыемства. Млын не робіць ужо гадоў з дваццаць. Стаіць разрабаваны, хоць яшчэ не позна ўзяць яго пад апеку і выратаваць.




**Якаў Сазановіч** — той самы валасны пісар, які назбіраў наваградскіх сялян для выкупу маёнтка. Каладэнцы лічаць яго заснавальнікам вёскі.
На гэтым старым, паўсцёртым здымку Якаў зняты з жонкай Ганнай. У іх было шасцёра дзяцей: Ксенафонт, Васіль, Меланія, Марыя, Мікалай, Аляксандр.
Лёс Мікалая склаўся драматычна. Ён скончыў Горацкую сельскагаспадарчую акадэмію і за польскім часам працаваў каморнікам у Пінску. Яго, «ворага народа», рэпрэсавалі і адправілі ў Архангельск на лесапавал, а пасля накіравалі ў паўночны Казахстан на вольнае пасяленне — без права вяртання на радзіму.А рэабілітаваны быў ужо толькі ў 1989-м, пасля смерці.
Ніводзін з праўнукаў ці праўнучак заснавальніка вёскі ў Калодным цяпер не жыве.

Чытайце пра Калоднае больш у кнізе краязнаўца Міхаіла Карсекі **«Вёска Калоднае: выпрабаванне лёсам»** (Брэст, 2008).

**Музей, гурток, курсавая...**

Калі я вучылася ў школе, стварася школьны музей. Я наведвала гурток «Следапыт», якім кіравала тады настаўніца гісторыі Людміла Міхайлаўна Лецка. Пасля я была экскурсаводам у тым музеі.
А студэнткай я напісала курсавую работу «Гісторыя вёскі Калоднае». Асабліва многа мне тады расказалі мая бабуля Сазановіч Ганна Сідараўна і мой прадзед Аржахоўскі Міхаіл Іванавіч.



**Сям'я Аржахоўскіх** прыкладна ў 1947–1949 гадах. За спінамі стаіць прабабуля аўтаркі Савета.

# Ватрушкі па-каладэнску

**Ёсць піражкі з тварагом і ёсць смятаннікі. А ёсць каладэнскія ватрушкі, якія паядноўваюць адно з другім. Арыгінальным рэцэптам дзеліцца Ірына Рубан.**

У маім родным Калодным ні адно застолле не абыходзіцца без тварожных ватрушак. З ватрушкамі выдаюць замуж і жэняць, з ватрушкамі праводзяць у войска, з ватрушкамі памінаюць памерлых. Не забываюць пра іх на юбілеі або нават проста на велікодны сямейны стол.

Я называю толькі ўрачыстыя нагоды, бо з каладэнскімі ватрушкамі трэба крыху паваждацца — на будзённую вячэру іх гатаваць проста не хочацца. Хаця я сама раблю іх і тады, калі чакаю ў госці ўнучку. Яна іх любіць, бярэ ў горад з запасам, каб замарозіць. Адметнасць нашых ватрушак менавіта ў тым, што ім не страшныя ні зачарсцвенне, ні замарозка. Бо падаюцца на стол яны ў адмысловай смятаннай запраўцы, распаранымі і цёплымі.

Я дзялюся класічным рэцэптам, які засвоіла ад бабы і мамы, якім карыстаецца таксама мая цётка. Але можна і спрасціць ▶

**Кушэта** — так называлася тыповая для старых хат у Калодным лава ад печы паўз усю сцяну. З тарцоў яна мела парэнчы.
А «слонікам» тут называюць карацейшую лаўку і без парэнчаў.



Ірына Рубан ужо 28 год жыве на Камянеччыне. **Каладэнскі «слонік»** яна прыхапіла з сабой.

# Ватрушкі па-каладэнску



▸ сабе задачу — напрыклад, не рабіць рошчыну, а адразу замешваць дражджавое цеста і даць яму падысці ў халадзільніку 2–3 гадзіны. Рэкамендую разок прыгатаваць традыцыйна, а далей падстройваць рэцэпт пад сябе. ◆

**Інгрэдыенты для цеста:**
- 2 шклянкі малака
- 50 грамаў дражджэй
- 6 шклянак мукі
- 7 сталовых лыжак цукру
- 100 грамаў алею
- 2 яйкі
- 0,5 чайнай лыжкі солі
- 1 грам ваніліну

**Інгрэдыенты для начынкі:**
- тварог — 500 грамаў
- цукар — 3–4 сталовыя лыжкі
- ванілін — на смак
- адно яйка

**Інгрэдыенты для смятаннай запраўкі:**
- смятана — 800 грамаў
- цукар — 4–5 сталовых лыжак
- мёд — 1 сталовая лыжка

**Рыхтуем рошчыну**

У глыбокі посуд трэба наліць цёплае (але не гарачае) малако. Пакласці туды разведзеныя ў цёплай вадзе да вадкага стану дрожджы, 2 лыжкі цукру і размяшаць. Затым дадаць 2 сталовыя лыжкі мукі і зноў добра размяшаць, каб не засталося камячкоў і каб добра растварыліся дрожджы. Накрываем рошчыну ручніком і ставім у цёплае месца на хвілін 30.
Тым часам разбіваем у другую міску 2 яйкі, дадаём астатні цукар, ванілін і ўзбіваем (можна міксерам) да павелічэння аб'ёму масы ў 2 разы і пераўтварэння яе ў белы колер.

**Замешваем цеста**

Праз 30 хвілін, калі падымецца рошчына, уліваем у яе ўзбітую яечную масу і ўсё перамешваем, пакуль цеста не стане аднастайным. Далей дадаём алей, паступова падмешваем прасеяную муку і замешваем у меру густое цеста. Перакладаем цеста на пасыпаны мукой стол і працягваем мясіць, пакуль яно не перастане быць ліпкім, а стане мяккай, гладкай і падатлівай масай. Гэта зойме хвілін з 15. Калі трэба, то ў працэсе замесу можна дадаць мукі, але без фанатызму, бо цеста не павінна быць занадта збітым. Ставім у цёплае месца на гадзіну. Цеста павінна падняцца прыблізна ў тры разы. Затым яго абмінаем і чакаем, каб яшчэ раз паднялося.

**Гатуем начынку**

Усе неабходныя інгрэдыенты складаем у адну міску — тварог, цукар, ванілін і яйка — і размешваем да аднастайнага стану.

**Робім ватрушкі**

Дастаём з міскі цеста, што мусіла другі раз падняцца, і робім невялікія шарыкі, затым кладзём іх на стол і прыплюшчваем. На цэнтр аладкі кладзём трошкі тварагу і фармуем ватрушку, загортваючы яе з усіх бакоў. Кладзём яе на бляху тым бокам, дзе загортвалі, а зверху робім кончыкам нажа невялікую дзірачку, каб да тварагу быў доступ паветра.
Бляху адпраўляем у духоўку, нагрэтую да 180 градусаў, і выпякаем 40–60 хвілін у залежнасці ад уласцівасцяў духоўкі.

**Прапарваем ватрушкі**

Калі ватрушкі астынуць, кладзём іх у рондаль і заліваем запраўкай са смятаны, цукру і лыжкі мёду. Пажадана, каб смятана была густая. Вазьміце столькі ватрушак, колькі плануеце паставіць на стол, бо есці іх трэба цёплымі. Накрываем крышкай і ставім у не надта гарачую духоўку, каб яны распарыліся.
Вядома, свежыя ватрушкі можна есці і без запраўкі. Але ўжо на наступны дзень яны становяцца цвёрдымі, а смятанны соус вяртае іх да жыцця яшчэ смачнейшымі, чым яны былі спачатку.
Калі трэба невялікая порцыя запраўленых ватрушак, то падагрэць іх можна і ў мікрахвалёўцы.
Смачна есці!

А што гатуюць у вашай мясцовасці? Шліце нам рэцэпты на адрас **history@nn.by**, прапануйце, пра якія стравы напісаць.



# КРЫНІ

Зроблена ў Беларусі

## ФІЛЬТРЫ ДЛЯ НАШАЙ ВАДЫ




- Рэцэптура фільтра **КРЫНІ МАКСІМА** распрацавана Інстытутам фізіка-арганічнай хіміі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі
- Рэсурс фільтра 350л пацверджаны даследаваннем Інстытута фізіка-арганічнай хіміі Акадэміі навук.
- Шунгітавы мінералізатар у кожным камплекце
- Фільтр жбан **«ВАДАВІТА»** для якаснай пітнай вады

# Таджыкі

## велічная гісторыя не гарантуе ве

**Пра сваё падарожжа на край свету, на Памір, піша Арцём Гарбацэвіч.**

Што мы ведаем пра таджыкаў? Расійскае тэлебачанне зводзіць гэты народ да Раўшанаў і Джамшутаў, але нават імёнаў такіх у Таджыкістане няма.

У рэальнасці таджыкі — адзін з найстаражытнейшых народаў свету. Яны лічаць сябе нашчадкамі арыяў, бо ў Авесце (такі зараастрыйскі аналаг Бібліі)

**Таджыкістан** краіна ў Цэнтральнай Азіі без выхаду да мора. У адрозненне ад узбекаў, казахаў і кіргізаў, таджыкі — індаеўрапейцы, іранцы. Яны гістарычна былі блізкія з персамі, але, у адрозненне ад апошніх, якія шыіты, прынялі сунізм.
Жыве ў Таджыкістане каля 9,3 мільёна чалавек. Гэта самая бедная з краін былога СССР. Тэрыторыя рассялення таджыкаў падзеленая дзяржаўнымі межамі, большасць этнічных таджыкаў сёння жыве не ў Таджыкістане, а ў суседніх краінах: Афганістане (да 10 млн) і Узбекістане (афіцыйна 1,5 млн, неафіцыйныя ацэнкі — да 7 млн).



# істан

## елічнай сучаснасці

SHUTTERSTOCK.COM, BY MALA IRYNA

іх гістарычныя вобласці Согда і Бактрыя называюцца арыйскімі, а грэкі таксама называлі іх Арыянай.

Праўда, бясконцая беганіна народаў у Цэнтральнай Азіі моцна мяняла партрэты сагдзійцаў — той жа Аляксандр Македонскі адправіў шматтысячны персідскі корпус шукаць паўночны праход у Індыю цераз сцены Паміра і Гіндукуша. Персы яго так і не знайшлі ды там і аселі, даўшы пачатак многім народам Таджыкістана.

Фактычна іранцы, таджыкі і афганцы доўгі час былі адзінай супольнасцю, а сам тэрмін «таджык» напачатку азначаў перса, які прыняў іслам, бо да арабскіх заваёваў іранамоўныя народы вызнавалі зараастрызм.

Сёння Таджыкістан — цяжкадасяжны рэгіён у далечыні ад асноўных транспартных магістраляў планеты. Некалі ён быў цэнтрам сусветнага гандлю, але даўно страціў сваё лагістычнае значэнне, пасля таго як грузы з Еўропы ў Кітай пачалі вазіць цераз Індыйскі акіян.

Працы ў краіне ўсім не хапае, таму да 20% жыхароў Таджыкістана пастаянна знаходзяцца на заробках за мяжой, перш за ўсё ў Расіі. У буйных таджыкскіх гарадах ёсць аэрапорты, якія прымаюць толькі адзін рэйс — з Масквы.

Сапраўды, велічная гісторыя не гарантуе велічнай сучаснасці. Але паездка ў гэтую краіну і сёння можа стаць сапраўднай прыгодай нават для абазнаных падарожнікаў.

### Што глядзець у Таджыкістане?

Беларуса Таджыкістан моцна ўразіць, бо падабенстваў між краінамі вобмаль.

Больш за 90% тэрыторыі Таджыкістана — гэта высачэзныя горы, таму пераезды па краіне адбіваюцца нязвыклымі пейзажамі ў сятчатцы і крутымі серпанцінамі ў памяці.

Калі заязджаць па зямлі з Узбекістана, то дарога да сталіцы Душанбэ будзе праходзіць праз Фанскія горы.

«Я сердце оставил в Фанских горах,
Теперь бессердечный хожу
по равнинам,
И в тихих беседах и в шумных пирах
Я молча мечтаю о синих вершинах»,

— спяваў натхнёны паходам у Фан савецкі бард Юрый Візбар.

Будзеце там — зірніце на Маргузорскія азёры рознага колеру: ад празрыста-блакітнага да фіялетавага, а потым заскочце яшчэ паглядзець на возера Іскандэр-Куль, дзе нібыта пахаваны Буцэфал — конь Македонскага. Ехаць адтуль да сталіцы лепш засветла, каб не прапусціць фантастычныя краявіды трасы.

Сам Душанбэ — надзвычай чысты і бяспечны. Архітэктурны стыль схіляецца да гігантызму і шырыні, таму нечым нагадвае Мінск, але горад прыемнейшы за хаатычныя Бішкек з Ташкентам. Тамтэйшыя сталічныя цэны таксама вас прыемна ўразяць: строгія бавоўняныя штаны за 30 рублёў — можна браць?

У Душанбэ таксама трэба падацца ў спецыяльнае бюро, якое выдае дазволы на ўезд у Горны Бадахшан. Робіцца дакумент за суткі.

Горны Бадахшан — гэта Памір, «дах свету». Самая цяжкая і высокая частка Шаўковага шляху — Памірскі тракт, які

## Як арганізаваць сабе бюджэтнае падарожжа па Сярэдняй Азіі?

Дачакайцеся распродажу «Белавія» і купіце за 240 BYN квіткі да казахстанскага Алматы ў два бакі. Але галоўнае — разлічыце час, каб паспець зрабіць кола па рэгіёне. З Алматы за 50 рублёў ляціце казахскім лаўкостам да Шымкента, адтуль маршруткай да мяжы з Узбекістанам — і праз 15 хвілін вы ў Ташкенце, адкуль ходзяць хуткія цягнікі ў Самарканд і Бухару, лятаюць недарагія самалёты ў Хіву. Адкрыўшы для сябе Узбекістан, едзьце з Самарканда да мяжы з Таджыкістанам і праз Пенджакент ды Фанскія горы кіруйцеся да Душанбэ, дзе спыніцеся і атрымайце дазвол на ўезд на Памір — Горна-Бадахшанскую аўтаномную вобласць. Дазвол на ўезд трэба, бо рэгіён мяжуе з Афганістанам: на нешматлікіх дарогах стаяць пасты, якія правяраюць, ці не боўтаюцца тут якія падазроныя асобы. З гор Паміра спусціцеся ў Кыргызстан, дзе з Оша маляўнічымі серпанцінамі кіруйцеся да Бішкека, паглядзіце возера Ісык-Куль і вяртайцеся ў аэрапорт Алматы.



ФОТА АРЦЁМА ГАРБАЦЭВІЧА

У Фанскіх гарах.

**Стаўленне да турыстаў выключнае: калі вы вырашыце спыніцца на ноч у кішлаку без гатэля, то мясцовыя будуць спрачацца за гонар прыняць госця. Так было са мной, калі я ехаў з Куляба да Харога**


ФОТА АРЦЁМА ГАРБАЦЭВІЧА

Так выглядае **таджыкскі плоў.**

застаўся прыкладна ў тым жа выглядзе, як і тысячы год таму. І там дагэтуль на вышынях пад 4000 метраў жывуць людзі.

Стаўленне да гасцей, турыстаў выключнае: калі вы вырашыце спыніцца на ноч у кішлаку без гатэля, то мясцовыя будуць спрачацца за гонар прыняць госця, а накормяць бясплатна. Мяне гэта ўразіла, калі я ехаў з горада Куляба да Харога, сталіцы Бадахшана. Дарога займае пры аптымістычным раскладзе гадзін 15, таму мы маршруткай два разы спыняліся на перакусы, і таджыкі не далі заплаціць — проста скідваліся самі, пакрываючы і без таго невялікі рахунак госця. Такія прыязныя норавы ў людзей.

Праўда, за гэты 15-гадзінны пераезд я ледзь не год жыцця аддаў нервамі. Уявіце: грунтавая дарога шырынёй метры з чатыры, двухбаковая. З левага боку — сцяна гор, з іх па даху машыны лупяць вадаспады, а справа — хуткі Пяндж, у вірах якога адбіваюцца агеньчыкі з вокнаў афганскіх кішлакоў на тым баку рэчкі. З пасажырскага сядзення бачны толькі абрыў, дарогі не відаць, на кожным рэзкім павароце замірае сэрца, а кіроўца ўмудраецца яшчэ і раз'язджацца з сустрэчнымі машынамі і каровамі, якія ўзнікаюць проста з-пад зямлі.

Праўда, нягледзячы на прыкметнасць ям і абрываў, рэальная небяспека сарвацца наўрад ці ёсць, бо машына едзе на хуткасці 30 кіламетраў.

А калі даедзеце да горада Харог і адаспіцеся, то схадзіце на каларытны афганскі базар. Адбываецца ён раз на тыдзень: афганцы з таго боку Пянджа пераходзяць мост са сваімі нечуванымі ў нас таварамі і гандлююць. Можна прыкупіць нават пеўчую птушку.

У Харогу абавязкова лепш пераначыць, перад тым як рушыць далей, бо вышыні будуць нарастаць, трэба акліматызавацца. Наступны населены пункт — Мургаб, які ў СССР лічыўся самым высокім паселішчам.

Дарога да яго ідзе ўжо непасрэдна па Памірскім тракце — для гэтага вам прыйдзецца наймаць машыну. Ніякага грамадскага транспарту там няма, мабільнай сувязі таксама.

У дарогу выходзяць толькі падрыхтаваныя джыпы з трыма запаскамі і двухметровымі антэнамі, каб у разе чаго цераз спадарожнік запытаць дапамогі.

Але пейзажы там фантастычныя, вартыя ўсіх пакут. Аблокі там літаральна кранаюць зямлю, у іх можна зайсці, калі знойдзеце сілы, а асабліва цікаўныя сярод вялікіх леднікоў змогуць убачыць вытокі горных рэчак: ляжыць вось на гары вялізны ляднік, зверху ▶


ФОТА АРЦЁМА ГАРБАЦЭВІЧА

**Аўтар на памірскім перавале**, вышыня 4650 м.

ён намярзае, а знізу падтае — і ледзяная вада з рокатам коціцца ўніз.

Пустынна-манументальныя пейзажы разбаўляе адзіная дзікая жывёліна, якая тут водзіцца, — як.

Яны ходзяць паміж лёду і скубуць на голых участках зямлі такую ж адзіную расліну — тэрэскен, якую рэдкія мясцовыя выкарыстоўваюць для распалкі печаў.

Абавязкова зайдзіце ў якую-небудзь хату, але прадукты лепш мець пры гэтым свае. Захапіце з Беларусі нешта беларускае — пасядзіце з мясцовымі, гляньце, як яны жывуць. Досвед экстраардынарны.

Апошні населены пункт таджыкскага Паміра — мястэчка Каракуль. Тут на ноч мяне прытулілі сардэчныя пагранічнікі: «Умовы не горшыя, чым у адзіным хостэле». Проста людзям хацелася пагаварыць з новым чалавекам, бо рэдка хто тут праязджае. Нагатавалі плову і салаты.

І вось яшчэ што: калі спусціцеся з Паміра і апынецеся ў Кыргызстане, не забудзьцеся азірнуцца, каб зразумець і ўсвядоміць, дзе вы толькі што былі.



**Часцінка Беларусі ў Мургабе:** кінуты сярод поля трактар (на пярэднім плане — бочкі-туалеты).

ФОТА АРЦЕМА ГАРБАЦЭВІЧА

## Няпростыя адносіны таджыкаў і ўзбекаў

Калі цюркі-качэўнікі на сваіх конях прыйшлі ў Сярэднюю Азію, то першыя аседлыя гарады ім сустрэліся ў багатых аазісах Шаўковага шляху — там жылі цяперашнія таджыкі. І хоць цюркі хутка запоўнілі ўсё навокал, у гарадах працягвала дамінаваць персамоўная эліта, узаемна зацікаўленая ў эканамічных адносінах з качэўнікамі.



**Від на Памір** з боку Кыргызстана — недзе там над аблокамі жывуць людзі.

ФОТА АРЦЕМА ГАРБАЦЭВІЧА

## «Басмачы»

Ленін не ўключыў у ЦК таджыкскай кампартыі ніводнага мусульманіна, а Сталін замяняў нацыянальныя кадры рускімі, насаджаў атэізм і праводзіў калектывізацыю. Гэта прывяло да джыхаду супраць камунізму, які працягваўся ў рэгіёне да 1940-х гадоў.
У СССР гэты рух называлі «басмачамі» (ад цюркскага слова «басма» — «налёт»). Самі гэтыя людзі звалі сябе «маджахедамі», якія вядуць святую вайну супраць «няверных».
Цяпер нацыянальныя ўрады азіяцкіх краін пераглядзелі савецкія трактоўкі. Ва Узбекістане «басмачоў» афіцыйна прызналі нацыянальна-вызвольным рухам. Ідэалогія таджыкскага прэзідэнта Эмамалі Рахмона пакуль менш адназначная, але на ўзроўні падручнікаў асобныя дзеячы «басмацтва» ўжо ацэньваюцца пазітыўна. Гарадская тапаніміка ў гонар змагароў з «басмачамі», кшталту польскага камуніста Чэслава Путоўскага, ужо замененая на гістарычныя назвы.

ФОТА АРЦЁМА ГАРБАЦЭВІЧА

Затор на горнай дарозе.

Адносіны гэтых качавога і аседлага народаў некаторыя гісторыкі апісваюць паралеллю адносін варожых старажытных рымлян і грэкаў — другія на момант суседскай экспансіі ўжо страцілі ўласны імпэт да заваёваў і падладзіліся пад новыя парадкі, працягваючы культурна дамінаваць у сваіх гарадах і нават пашыраць сваю культуру на прыхадняў.


ФОТА АРЦЁМА ГАРБАЦЭВІЧА

**Тушы свежазабітых бараноў уздоўж дарогі** — папулярны тавар напярэдадні свята Ураза-Байрам.

Падобна было і ў Азіі, дзе качэўнік-цюрк, які хацеў стаць «гарадскім» у Бухары ці Самаркандзе, мусіў пераняць, прынамсі, іх мову, хоць ваенна-палітычнае кіраўніцтва было за цюркамі-ўзбекамі.

Так узбекі і таджыкі доўга суіснавалі ў межах адной дзяржавы, верылі ў аднаго бога, перыядычна высвятлялі адносіны ў феадальных разборках. Апошняй іх супольнай дзяржавай стаў Бухарскі эмірат (1785–1920), заваяваны часцямі Чырвонай арміі на чале са знаёмым беларусам Міхаілам Фрунзэ.

## Загнаныя ў горы

Бальшавікам трэба было неяк кіраваць захопленымі тэрыторыямі, і яны зрабілі стаўку на цюркаў. У выніку наступнага драматычнага перадзелу межаў ▶

ФОТА АРЦЁМА ГАРБАЦЭВІЧА

Непаўторны каларыт:
**цэнтральны крыты базар Душанбэ.**

▶ «па нацыянальнай прыкмеце» таджыкскія Бухара і Самарканд дасталіся Узбекскай ССР. Таджыкам спачатку адвялі ў яе складзе «аўтаномную рэспубліку» ў маланаселеных гарах, стварыўшы ім на месцы штотыднёвага кірмашу новы горад, які меўся выконваць функцыю цэнтра.

Душанбэ так і перакладаецца — «панядзелак», бо ў гэты дзень там збіраліся гандляры на аслах.

У 1929 годзе, праўда, Таджыкістан стаў самастойнай саюзнай рэспублікай, а да яе тэрыторыі дадалі частку фантастычна ўрадлівай Ферганскай даліны з горадам Худжандам. Але гэта была слабая кампенсацыя: таджыкі лічаць бліскучыя Самарканд і Бухару калыскамі сваёй нацыі, бо гэтыя гарады гістарычна гаварылі і дагэтуль гавораць па-таджыкску, а сучасныя таджыкі ў прыватных размовах незадаволена хмураць бровы: «Нас загналі ў горы!».

**Душанбэ так і перакладаецца — «панядзелак», бо ў гэты дзень там збіраліся гандляры на аслах**

Чаму саветы зрабілі ў рэгіёне стаўку на ўзбекаў? Ёсць версія, што праз даўнюю традыцыю адносін з іншымі цюркамоўнымі народамі, раней уключанымі

## Каго з таджыкаў і пра таджыкаў трэба чытаць?

**Проза і вершы:**

- Садрыдзін Айні, Рудакі (на беларускую перакладаў Сяргей Грахоўскі)
- Амар Хаям (па-беларуску яго рубаі пераствaрыў Рыгор Барадулін)

**Даследаванні:**

- Бабаджан Гафураў «Таджыкі»
- Рычард Фрай «Гісторыя таджыкаў»
- Рычард Фолтц «A history of the Tajiks: Iranians of the East»



ў склад Расійскай імперыі. А да іранскага народа, мабыць, даверу не было. Да таго ж саветы мелі вялікія планы на кемалісцкую Турцыю, якая ўжо тады была натуральным лідарам усяго цюркскага свету.

Сёння ва Узбекістане жыве ці не больш таджыкаў, чым у Таджыкістане, але ўлады суседняй рэспублікі свядома заніжаюць іх рэальную колькасць і працаягваюць палітыку асіміляцыі.

### Газавы шантаж

У найноўшыя часы даўно напружаныя адносіны выліліся ў халодную вайну паміж дзяржавамі. Узбекістан адмаўляўся прадаваць таджыкам газ, перашкаджаў чыгуначным пастаўкам і засылаў да суседзяў дыверсантаў, якіх даводзілася выбіваць з гарадоў са зброяй. Фармальнай прычынай было жаданне таджыкаў пабудаваць у сябе на рацэ Вахш Рагунскую ГЭС, якая, як лічылі ўзбекі, пагражала перакрыццём горных рэк і ставіла пад пагрозу вырошчванне бавоўны.

Апагеем стала замінаваная мяжа паміж краінамі, на якой падарвалася безліч скаціны і сотні мясцовых жыхароў, што хадзілі туды-сюды, як спрадвеку, у абыход пагранічных пастоў.

Праўда, са смерцю ў 2016 годзе шматгадовага прэзідэнта Узбекістана Ісламa Карымава і з прыходам да ўлады Шаўката Мірзіёева градус варажнечы адчувальна ўпаў. Краіны хутка знялі праблемныя пытанні і аднавілі пагранічны рух ды авіязлучэнне паміж сталіцамі.

### Ад Хаяма да Айні

Таджыкская літаратура і навука — значная частка персідскай, вядомай ва ўсім свеце па казках Шахерэзады, Амару Хаяме, Рудакі, Джадаладзіне Румі, Авіцэне і іншых.

З таджыкамі звязаны гэтак званы «новаперсідскі рэнесанс» з цэнтрамі ў Бухары і Самаркандзе, калі пад уладай персаў-саманідаў персідская мова і культура ў IX–X стагоддзях расквітнела другі раз — на поўначы, у далечыні ад сэрца Ірана, даўшы штуршок нацыянальнаму адраджэнню і персаў захаду.

Таджыка-іранская паэзія натхніла арабскую: бедуіны-заваёўнікі былі зачараваныя багаццем вобразаў і метафар персаў, тэмамі, якія яны ўздымалі. У сваю чаргу іслам — новая папулярная рэлігія, пазычаная ў арабаў, — пашыраў аўдыторыю персідскіх паэтаў.

Сэнс перад вачыма, але схаваны ад зроку, — пазней заблытаныя метафары і іншасказанні будуць захапляць ды бянтэжыць ужо еўрапейцаў, калі тыя адкрыюць для сябе геніяльных Рудакі і Хаяма.

Таджыкская і ўласна іранская літаратуры разгалінаваліся пасля пачатку рэлігійнай барацьбы шыіцкага Ірана з суніцкімі рухамі. Таджыкі, у адрозненне ад большасці персаў, прынялі сунізм.

У новай таджыкскай літаратуры самая заўважная постаць — гэта Садрыдзін Айні, якога мусова чытаць не толькі ▶



**Сталіца: Палац нацыі ў Душанбэ.**

SHUTTERSTOCK.COM, BY RONAN SHENHAV

### Крывавыя 1990-я

У 1992–1997 гадах Таджыкістан перажыў разбуральную грамадзянскую вайну, у якой тэрытарыяльныя кланы камуністычнай наменклатуры пры падтрымцы Расіі і Узбекістана ваявалі з саюзам ісламістаў, якім нават удалося часова ўзяць пад свой кантроль сталіцу.
Скончылася ўсё калапсам эканомікі і мірнай дамовай, паводле якой апазіцыі гарантавалася квота на кіраўнічыя пасады ў міністэрствах, прамысловасці і сілавых структурах пры прэзідэнцтве Рахмона.
Кропка была пастаўленая толькі ў 2015-м, калі Партыя ісламскага адраджэння была забаронена, а яе апошнія функцыянеры ўцяклі з краіны.

аматарам Азіі, але і любому чалавеку з прэтэнзіяй на шырокую эрудыцыю. Айні цудоўна апісваў норавы напаўфеадальнай Бухары першай паловы XX стагоддзя. Хоць ён і стаў камуністам, але ўсё адно ледзь пазбег расправы з боку савецкай улады. Айні абвінавачвалі ў тым, што ён «ужываў незразумелыя масаваму чытачу варожыя словы» — зусім як беларускіх «нацдэмаў».

Варта таксама сказаць, што да 1920-х таджыкі пісалі арабскай вяззю. Але праз 10 год распараджэннем улады алфавіт перавялі спачатку на лацінку, а яшчэ праз 10 — на кірыліцу.

Гэта нарадзіла сітуацыю, што некалькі пакаленняў таджыкаў засталіся непісьменнымі, бо не здолелі засвоіць нязвыклую для сябе графіку. Сёння кірыліца захоўваецца, але ўлада пакрысе

## Асаблівасці таджыкскай палітыкі

Таджыкістан — краіна, у якой здаўна вялікае значэнне мелі кланавыя падзелы. Асноўных кланаў чатыры: 1) худжандскі, ці сагдзійскі, на поўначы краіны; 2) кулябскі на поўдні; 3) гармскі, ці гісарскі, у цэнтры; 4) памірскі, ці горна-бадахшанскі, на ўсходзе.

Адносна гэтых падзелаў у Таджыкістане ў савецкія часы была прыказка: «Памір танцуе, Куляб ахоўвае, Гарм гандлюе, а Ленінабад (так тады называўся Худжанд) кіруе». Яна адлюстроўвала асноўны падзел кланавых роляў, на якім шмат гадоў грунтавалася стабільнасць у тады яшчэ савецкай рэспублікі.

На чале рэспублікі заўсёды стаялі прадстаўнікі ленінабадскага клана: усе пяць першых сакратароў кампартыі Таджыкскай ССР, якія кіравалі ў 1946–1991 гадах, паходзілі з Ленінабадскай вобласці. Выхадцамі з той жа вобласці, як правіла, былі і старшыні рэспубліканскага ўрада, і кіраўнікі ключавых міністэрстваў. У той жа час прадстаўнікоў кулябскага клана, які больш-менш ладзіў з ленінабадцамі, было шмат у сілавых структурах. У сваю чаргу, гармскія былі актыўныя ў гаспадарчай сферы, а памірцам з Горнага Бадахшана заставалася дбаць пра развіццё культуры.

Увесь гэты хісткі баланс пасля распаду Савецкага Саюза парушыўся. Базай падтрымкі ісламізму сталі «гандляры» з Гарма, а сярод іх сітуацыйных саюзнікаў-«дэмакратаў» шмат было выхадцаў з Горнага Бадахшана, лідарам якіх стаў вядомы ў Савецкім Саюзе рэжысёр дакументальнага кіно Даўлатназар Худаназараў.

Эмамалі Рахмон, які да 2007 года насіў русіфікаванае прозвішча Рахмонаў, не адразу стаў лідарам кулябскага клана. Напачатку ім быў Сангак Сафараў, які, перад тым як пачаць палітычную кар'еру, 23 гады прасядзеў у турмах па розных крымінальных артыкулах, у тым ліку за забойствы. Гэта ён незадоўга да

закідае ў грамадства думку: можа, варта і вярнуцца да вязі?

### Пад пагрозай ісламізацыі

Калі ты жывеш у Еўропе, неяк натуральна лічыць, што дэмакратыя — гэта аптымальная форма кіравання.

Памірская Баварыя: **палац Рахмона на гары.**

ФОТА АРЦЕМА ГАРБАЦЭВІЧА

распаду Саюза стварыў «Народны фронт Таджыкістана» і ўзначаліў яго. Яго ўзброеная групоўка стала наймацнейшай у краіне і ўзяла ўладу ў свае рукі. Сам Сафараў свяціцца на афіцыйных пасадах не захацеў, але правёў у старшыні парламента свайго земляка (абодва паходзілі з сяла Дангара на поўдні Таджыкістана) Эмамалі Рахмонава, які да гэтага быў дырэктарам саўгаса на радзіме. Ужо праз некалькі месяцаў, 29 сакавіка 1993 года, Сангак Сафараў пры да канца дагэтуль не высветленых абставінах загінуў, а Рахмонаў аказаўся здатны ўтрымаць у сваіх руках уладу і без яго.

Сафараў некаторы час быў у Таджыкістане ўшанаваны, яго імя, сярод іншага, насіў Таджыкскі вышэйшы вайсковы каледж. Але ў 2002 годзе ён быў пераўтвораны ў Вайсковы інстытут Міністэрства абароны Таджыкістана, а імя Сафарава пры гэтым ціха з назвы прыбралі.

Але як ставіцца да кіраўніка Таджыкістана Эмамалі Рахмона? З аднаго боку, ягоны рэжым у многім поўны гратэску, трымаецца на кульце асобы. Твар «Лідара нацыі» вы дакладна запомніце, калі наведаеце Таджыкістан, бо ён тут на кожным будынку. Пасля яго, як можна меркаваць, улада пяройдзе да ягонага сына, які ўжо ў 26 быў генералам, а цяпер — мэр сталіцы.

З другога боку, а якая можа быць альтэрнатыва свецкай дыктатуры Рахмона? Паводле апытання амерыканскага Даследчага цэнтра П'ю, блізу 10% таджыкаў лічаць прымальным пакаранне смерцю за адмову ад ісламу, траціна падтрымлівае ўвядзенне афіцыйных шарыяцкіх судоў, а 27% выступаюць за «забойствы гонару» няверных жанчын. Сёння гэты вялікі радыкальны электарат не мае доступу да ўлады, але сітуацыя можа і змяніцца.

**Кіраўнік таджыкскага спецназа Гулмурод Халімаў з шэрагам паплечнікаў уцёк на службу ў «Ісламскую дзяржаву»**

Ісламізм дагэтуль вельмі папулярны ў Таджыкістане. Кіраўнік таджыкскага спецназа Гулмурод Халімаў з шэрагам паплечнікаў уцёк на службу ў «Ісламскую дзяржаву» і стаў там ледзь не міністрам абароны. А ў 2018-м адэпты «Ісламскай дзяржавы» забілі замежных турыстаў у Таджыкістане, непадалёк ад афганскай граніцы.

Урад Рахмона жорстка прафілактуе радыкальны ісламізм. У краіне закрытыя ўсе медрэсэ (мусульманскія рэлігійныя школы) і тысячы неафіцыйных мячэцяў. Непаўналетнім увогуле забаронена хадзіць у мячэці, а гісторыю і прынцыпы ісламу тлумачаць у школах з мэтай не даць радыкалам задурыць дзецям галовы. Змест пропаведзяў у мячэцях узгадняецца са спецыяльным урадавым камітэтам.

Настаўнікі ва ўзросце да 50 гадоў не маюць права насіць бараду, імамам дазваляецца барада, не даўжэйшая за 3 см, а мясцовая міліцыя праводзіла рэйды з адразаннем задоўгіх бород.

Дарэчы, у прыватных размовах таджыкі з афганскага памежжа кажуць, што не баяцца талібаў. Маўляў, «у адрозненне ад "Ісламскай дзяржавы", у іх няма заваёўніцкага імпэту, яны не хочуць ствараць халіфат і абмяжоўваюцца сваім уплывам у Афганістане».

І што яшчэ запомнілася: цяпер у Таджыкістане сапраўдная праблема ад таго, што па ісламскіх нормах мужчыну дастаткова тройчы сказаць жанчыне: «Таляк» («Развод»), каб скасаваць шлюб. Даходзіць да таго, што мужчыны заводзяць у Расіі другія сем'і, а мясцовую жонку кідаюць, даслаўшы проста смс з гэтымі словамі. А змагацца з гэтым цяжка, бо заклікі браць афіцыйныя дзяржаўныя шлюбы праз загсы часта ігнаруюцца. ◆

**Вёска Булункул у Паміры.** Дамы тут ацяпляюць кізякамі — высушанымі ляпёхамі якаў, кароў, коней.

SHUTTERSTOCK.COM, BY CHRISTOPH RAUCH



SHUTTERSTOCK.COM, BY NOWAK LUKASZ

**Жывёлы людзей не баяцца**, але блізка да сябе не падпускаюць. Парушаць іх зону камфорту небяспечна.



**Як** — парнакапытная жывёла, звычайны прадстаўнік таджыкскай фаўны. Назва «як» прыйшла з тыбецкіх моў. Цікавая асаблівасць: незадаволены як рохкае амаль як наша свіння. Калматая поўсць дазваляе яку лёгка пераносіць нізкія тэмпературы. Якаў разводзяць для перавозкі грузаў, дзеля мяса і малака. На раўніне ім робіцца млосна, яны жывуць толькі высока ў гарах.

# Памірскія народы і ісмаілізм

Палову тэрыторыі Таджыкістана займае Горна-Бадахшанская аўтаномная вобласць на ўсходзе краіны. Асноўную частку тэрыторыі гэтай вобласці займаюць высокія Памірскія горы, а для жыцця людзей больш-менш прыдатныя толькі 3% усяго абшару. Нядзіўна таму, што насельніцтва яе складае ўсяго каля 220 000 чалавек (трохі больш за 3% ад усяго насельніцтва Таджыкістана). Пераважную большасць жыхароў гэтага рэгіёна складаюць малыя памірскія народы: шугнанцы, рушанцы, сарыкольцы, язгулямцы і іншыя. У большасці іх ёсць свае ўласныя мовы, блізкія да таджыкскай. Але галоўнае, што ім надае адметнасць, — вызнаванне спецыфічнай формы шыіцкай галіны ісламу, якая завецца ісмаілізмам.
Яго назва паходзіць ад імя сына аднаго з уплывовых імамаў, пазбаўленага бацькам права на спадчыну з-за ідэалагічных рознагалоссяў. Вучэнне ісмаілітаў мае шмат адрозненняў ад артадаксальнага ісламу. Яны, напрыклад, лічаць, што Алаха людзі не могуць спазнаць і спасцігнуць, таму маліцца трэба не яму, а «сусветнаму розуму», створанаму Алахам. Таксама яны, як індуісты, вераць у перасяленне душаў.
Духоўны лідар ісмаілітаў, які мае тытул Ага-хан, ад нараджэння жыве ў Швейцарыі.


SHUTTERSTOCK.COM, BY РЭЗК


ФОТА АРЦЁМА ГАРБАЦЭВІЧА


AP PHOTO / ЭСТЭБАН ФЕЛІКС / SALON.COM

Мурал у Манагуа.
**Фідэль Кастра і Даніэль Артэга.**

# Даніэль Артэга, вяртанне сандзініста

**Ён прайграў свабодныя выбары, калі «сацыялістычны лагер» развальваўся. Але праз 17 гадоў ізноў стаў прэзідэнтам Нікарагуа, прычым «усур'ёз і надоўга». Піша Андрэй Акушка.**

Даніэль Артэга прыйшоў да ўлады з дапамогай кубінскай (а насамрэч савецкай) зброі ў выніку Сандзініскай рэвалюцыі ў 1979 годзе. На першых свабодных выбарах у 1990 годзе ён прайграў кааліцыі апазіцыйных сіл на чале з былой паплечніцай па рэвалюцыі. У прэзідэнцкае крэсла ён здолеў вярнуцца ў 2007-м, калі яго ліберальныя і кансерватыўныя праціўнікі не здолелі вызначыць адзінага кандыдата. А вярнуўшыся ў прэзідэнцкі палац, Артэга пасля таго выйграе выбары за выбарамі.

### Змаганне з «нашым сукіным сынам»

Даніэль Артэга Саавэдра нарадзіўся 11 лістапада 1945 года ў невялічкім горадзе Ла-Лібертад, у пяць гадоў разам з сям'ёй пераехаў у сталіцу Нікарагуа, у Манагуа. Там Артэгі жылі ў квартале, названым у гонар прэзідэнта Анастасіа Самосы, побач са стадыёнам імя Самосы і паркам імя Самосы, дзе стаяла статуя Самосы. Дынастыя Самосаў кіравала краінай пры падтрымцы ЗША.

«Самоса — сукін сын, але гэта наш сукін сын». Гэтае выказванне прыпісваюць прэзідэнту ЗША Рузвельту, і датычыла яно бацькі таго Самосы, супраць якога змагаўся Артэга.

Бацькі Артэгі, нягледзячы на беднасць, змаглі аплаціць навучанне сына ў прыватнай школе, а пасля ён паступіў ва ўніверсітэт. Там у першай палове 60-х ён усур'ёз захапіўся левымі ідэямі. Юнака злавала, што бедным нікарагуанцам не хапала грошай нават на ежу, у той час як эліта адпачывала ў Маямі

і вучыла дзяцей у Каліфорніі. У Сандзінісцкім фронце нацыянальнага вызвалення (СФНВ) Артэга атрымаў мянушку Энрыке.

У гэтыя гады Даніэль неаднойчы трапляў за краты — упершыню гэта здарылася яшчэ ў 14-гадовым узросце, — але дыплом ён усё-такі атрымаў.

У 1967-м Артэга ўпершыню забіў чалавека — гвардзейца, які мучыў яго падчас папярэдняга арышту. Гэта быў час, калі ў славе былі Фідэль і Чэ Гевара, час веры ў немінучасць рэвалюцыі. Як і яго камуністычныя куміры, Даніэль удзельнічаў у рабаванні банкаў, каб здабыць грошай на рэвалюцыю, і агітаваў, агітаваў, меў дар прамоўцы.

## Сямейка Самосаў

У 1934-м кіраўнік нацыянальнай гвардыі — структуры, якая выконвала функцыі арміі, паліцыі і ўнутраных войскаў адначасова, Анастасіа Самоса кіраваў забойствам рэвалюцыянера Аўгуста Сандзіна. А з 1937-га ён стаў прэзідэнтам Нікарагуа і адным з найбагацейшых людзей краіны. У гэтым Самосе дапамагла Другая сусветная вайна, падчас якой ён канфіскаваў маёмасць землеўладальнікаў нямецкага паходжання, абгрунтаваўшы гэта «барацьбой з Гітлерам». Таксама Анастасіа прадаваў іншаземцам канцэсіі на здабычу рэсурсаў і жорстка распраўляўся з праціўнікамі і камуністамі.
У 1956-м Анастасіа Самосу забіў 27-гадовы паэт Рыгаберта Лопес (і сам загінуў пад шквалам куль аховы). А ўлада перайшла сыну Самосы. На 1979 год ва ўласнасці сям'і была амаль чвэрць усіх земляў Нікарагуа, яе багацце перавышала паўмільярда долараў (у сённяшніх грашах гэта прыкладна 2 мільярды).

**У 1967-м Артэга ўпершыню забіў чалавека – гвардзейца, які мучыў яго падчас папярэдняга арышту**

У канцы 1967-га Даніэль Артэга трапіў у турму надоўга. Тым часам ягоная мама на волі арганізавала кампанію, дзякуючы якой рэжым быў вымушаны палепшыць умовы ўтрымання палітвязняў.

### У абмен на закладнікаў

Артэга мог застацца ў турме навечна, але ў 1972-м у Нікарагуа здарыўся страшэнны землятрус. Каля 10 тысяч чалавек загінула, а сталіца была цалкам зруйнаваная. Людзей абурала раскраданне міжнароднай дапамогі ахвярам, марадзёрства нацгвардзейцаў. Людзі масава пайшлі ў Сандзінісцкі фронт, вырасла яго баяздольнасць. У дзёрзкім рэйдзе пры канцы 1974-га рэвалюцыянеры захапілі сотні прадстаўнікоў эліты краіны — парламентарыяў, чыноўнікаў, бізнэсоўцаў — і дамагліся вызвалення палітвязняў, сярод якіх быў і Артэга.

Самоса ўвёў надзвычайнае становішча. У Вашынгтоне тады кіраваў Джымі Картэр, паслядоўны абаронца правоў чалавека. Ён штурхаў і праамерыканскіх дыктатараў да лібералізацыі. Гэта ЗША змусілі Самосу адмяніць надзвычайнае становішча і адкруціць гайкі. ▶

## Сандзінісцкі фронт нацыянальнага вызвалення

ўзнік у 1961 годзе. Яго заснавальнікаў натхніла кубінская рэвалюцыя, яны хацелі паўтарыць яе ў Нікарагуа. Пасля доўгай барацьбы ў 1979-м фронт узяў уладу, але ў 1990-м прайграў на дэмакратычных выбарах.
У XXI стагоддзі фронт змяніў рыторыку і стаў партыяй, якая падтрымлівае, нароўні з левымі, традыцыйныя каштоўнасці.



**Даніэль Артэга —** такім ён прыйшоў да ўлады.

Партызаны-сандзіністы цяснілі нацыянальную гвардыю ў правінцыях. А калі ў пачатку 1978-га забілі рэдактара папулярнай апазіцыйнай газеты Педра Чамора, забастоўкі ўспыхнулі і ў сталіцы. З Кубы сандзіністам патокам ішла савецкая зброя, тады як Картэр змусіў Ізраіль развярнуць карабель з патрэбнымі боепрыпасамі для Самосы (Самоса-старэйшы ў свой час дапамог зброяй Ізраілю ў часе барацьбы таго за незалежнасць, і дзве краіны з таго часу мелі асаблівыя адносіны). Сандзіністы ўвайшлі ў Манагуа, нацыянальная гвардыя капітулявала. У ліпені 1979-га Самоса збег за мяжу, а ўлада ў краіне перайшла ў рукі рэвалюцыйнай хунты. ЗША хуценька змянілі вектар і выдзелілі 70-мільённы крэдыт новаму ўраду.

## Нікарагуа

незалежная дзяржава з 1821 года, два дзесяцігоддзі (1912–1933) была пад акупацыяй ЗША.

**Па тэрыторыі** — 130 тыс. кв. км — гэта прыкладна дзве трэція ад тэрыторыі Беларусі.

Жыве там 6,5 мільёна чалавек, пераважна нашчадкі каланізатараў, змяшаныя з мясцовымі індзейцамі і нашчадкамі колішніх чарнаскурых рабоў. Чыстых індзейцаў усяго каля 5%.

**У мінулым** Нікарагуа была часткай Іспанскай імперыі. Незалежная дзяржава — з 1838 года.

**Сярэдні заробак цяпер** прыкладна на 40% ніжэйшы, чым у Беларусі.

**Прырода** Нікарагуа — экзатычная для нас. Вялізныя вежы вулканічных гор суседнічаюць з крышталёвымі азёрамі. А трапічныя лясы ўпіраюцца проста ў акіян.



WIKIMEDIA COMMONS

Карнавал у Манагуа.



WIKIMEDIA COMMONS

Цэнтральнамерыканскае барока. **Сабор у Леоне —** помнік са Спісу сусветнай культурнай спадчыны ЮНЕСКА.



SHUTTERSTOCK.COM, BY GAMESCODE

**Тукан** — звычайная птушка для нікарагуанскай сельвы.


WIKIMEDIA COMMONS

**Кава** — адна з галоўных экспартных культур у Нікарагуа.


SHUTTERSTOCK.COM, BY WELSEAH

**Вечаровы грыль** каля сабора ў Леоне.


SHUTTERSTOCK.COM, BY PAOLO ARSIE PELANDA

**Народная культура Нікарагуа любіць зыркія колеры.** Нават аўтобусы ў краіне расфарбаваныя як дываны.

### Прэмія імя Надзежды Крупскай

Пасля перамогі рэвалюцыянерам дасталася разбураная краіна. У дзяржаўнай скарбніцы заставалася ўсяго 3,5 мільёна долараў, а дзяржаўны доўг складаў 3,5 мільярда. Пасля кароткага флірту з новай уладай амерыканцы зразумелі, што новы ўрад не збіраецца разрываць адносіны з СССР і Кубай. Больш за тое, Артэга пачаў «экспарт рэвалюцыі» ў суседні Сальвадор. Ды яшчэ мяккага Картэра змяніў Рэйган са сваім «крыжовым паходам супраць камунізму». Так Вашынгтон пачаў падтрымліваць «контрас» — партызанаў, якія базаваліся ў суседнім Гандурасе.

**Калі было патрэбна, Артэга лёгка адкідаў убок старыя лозунгі**

Артэга тым часам развітаўся з ліберальнымі і каталіцкімі саюзнікамі і пачаў сацыялістычныя пераўтварэнні. У гэты час выявілася цікавая рыса ягонага характару, якая забяспечыла яму палітычнае доўгажыхарства. Калі было патрэбна, ён лёгка адкідаў убок старыя лозунгі. Ён таксама не стаў дагматычна паўтараць у Нікарагуа эканамічныя прыёмы з савецкага рэпертуару.

Маштабную нацыяналізацыю бізнэсу не праводзілі: 70% прадпрыемстваў засталіся ў прыватнай уласнасці, разабралі толькі бізнэс-імперыю Самосы. Землі Самосы раздалі сялянам. Кааператываў амаль ▶


**Віялета Барыяс дэ Чамора** стала першай жанчынай, абранай на пасаду прэзідэнта, у абедзвюх Амерыках. Першай увогуле (не толькі ў Амерыцы, але і ва ўсім свеце) была Ісабэль Марцінэс дэ Перон у Аргенціне ў 1974–1976 гадах, але яна нікім не абіралася, а атрымала пасаду ў спадчыну ад свайго мужа, шматгадовага дыктатара Хуана Перона. **Даніэль Артэга (справа),** як заўсёды, у кашулі і паўстанцкім гальштуку, на інаўгурацыі новага прэзідэнта ў 1990 годзе.

WIKIMEDIA COMMONS

не стваралі, урад рабіў стаўку на дробныя сямейныя фермы.

Гонарам урада Артэгі стала школьная рэформа. За першыя гады яго кіравання колькасць школ падвоілася, 400 тысяч грамадзян навучыліся чытаць і пісаць, за што Нікарагуа атрымала ад ЮНЕСКА прэмію імя Надзежды Крупскай за найлепшую праграму ліквідацыі непісьменнасці. Паспяхова вялася барацьба з малярыяй, таму ў 1984-м Артэга і СФНВ упэўнена перамаглі на выбарах прэзідэнта і парламента, хоць да дэмакратычнасці тых выбараў былі вялікія пытанні.

ЗША выбараў не прызналі, увялі санкцыі. Артэга ў гэты час праявіў сваю другую рысу — выключную ўпартасць. Барацьба супраць контрас вялася доўга, партызаны так і не здолелі прарвацца да сталіцы.

### «Усё будзе лепш!»

У Артэгі не хапала грошай і весці сацыяльныя праграмы, і ваяваць з герыльяй. Гіперінфляцыя ў 1988 годзе дасягнула трыццаці тысяч працэнтаў. Беларусы нават у 90-я такога не бачылі. Але калі ў 1989-м падтрымку Нікарагуа спыніў СССР, а Куба сама перайшла на асадны рэжым, Артэга паказаў, што здольны рабіць крокі, якіх ніхто ад яго не чакае. Ён пайшоў на перамовы з ворагамі і выпусціў з турмаў дзясяткі контрас, у тым ліку забойцу свайго брата.

Больш за тое, ён правёў у краіне свабодныя выбары, якія выйграла ўдава таго самага рэдактара Чамора, забойства якога справакавала рэвалюцыя. Віялета Барыяс дэ Чамора па першым часе ўваходзіла ў рэвалюцыйную хунту, што кіравала краінай пасля Самосы, але пасля зразумела, што ёй з сандзіністамі не па дарозе, і выйшла з яе. На выбарах 1990 года яе падтрымалі амерыканцы, яны ж дапамаглі згуртаваць за Чамора 14-партыйную кааліцыю, у якую ўвайшлі апазіцыйныя групоўкі — ад ультракаталіцкай да камуністычнай. Слогану Артэгі «Усё будзе лепш!» паверыў толькі 41% грамадзян. Большасць была стомленая ад вайны і сацыялістычнага энтузіязму.

### Чысцец. У апазіцыі

Былы прэзідэнт застаўся жывы і на свабодзе — так шанцуе не ўсім дыктатарам. Пекла не было, быў чысцец. Сярод сандзіністаў пачаўся раскол. Артэга прайграе

яшчэ адны прэзідэнцкія выбары. У 1996-м прэзідэнтам стаў ліберал Арнольда Алеман — зацяты вораг сандзіністаў, якія канфіскавалі ў яго маёмасць і пратрымалі 7 месяцаў у турме. Але помсціць Артэгу Алеман не адважыўся, бо падтрымка апошняга заставалася ўсё ж высокай: 38% галасоў на выбарах. І Алеман вырашыў падпісаць пагадненне з праціўнікам (па-іспанску *El Pacto*). Артэга атрымаў недатыкальнасць, а наўзамен паабяцаў падтрымку пры прыняцці некаторых законаў.

Алеман, дарэчы, акажацца нячыстым на руку. *Transparency International* уключыць яго ў топ-10 самых карумпаваных палітыкаў сучаснасці. А ў 2003-м нікарагуанскі суд пасадзіць яго на 20 гадоў за карупцыю.

Набліжаліся прэзідэнцкія выбары 2001 года. Здавалася, Артэга гэтым разам дакладна пераможа, але зноў перашкодзіла нечаканасць. Палітыка абвінавацілі ў згвалтаванні прыёмнай дачкі, і ад яго адвярнуліся многія жанчыны. На выбарах ён набраў 46% галасоў, а перамог ліберал і былы віцэ-прэзідэнт Энрыке Баланьёс. ▶



ENICOK / FLICKR

**Муралы часоў Сандзінісцкай рэвалюцыі — цікавыя помнікі мастацтва.** На фота: фрагмент мурала ў Эстэлі.



SHUTTERSTOCK.COM, BY MATYAS REHAK

Мурал у музеі легендаў і традыцый у Леоне, Нікарагуа. **Графіці апісвае метады катаванняў нацыянальнай гвардыі.**

## Аўгуста Сандзіна

Аўгуста Сандзіна (1895–1934) быў сынам буйнога землеўладальніка і яго служанкі — звычайная, дарэчы, сітуацыя для Нікарагуа, нягледзячы на тое, што краіна лічыцца рэлігійнай. У 1920-я гады ён арганізаваў паўстанцкую армію, каб змагацца супраць амерыканскай акупацыі і праамерыканскага ўрада. У ліпені 1927-га сілы Сандзіна атакавалі мястэчка Акаталь, дзе стаяў гарнізон нацыянальнай гвардыі і салдаты ЗША.
Амерыканцы адказалі на гэта паветранымі бамбардзіроўкамі, загінулі дзясяткі салдат Аўгуста і мірных жыхароў. Але паўстанцкая армія расла і захоплівала вёску за вёскай. Рэвалюцыянер здабыў падтрымку Камінтэрна.
У 1933-м амерыканцы пакінулі краіну, але не з-за ультыматуму Сандзіна, а таму што скарачалі выдаткі на армію. Сандзіна пачаў перамовы з урадам аб дэмабілізацыі сваёй арміі і выкананні патрабаванняў беднякоў. Але ў лютым 1934-га яго падступна, падчас перамоў, схапілі і расстралялі разам з паплечнікамі, а яго армія, абезгалоўленая, хутка распалася.

### Верны сябар абхазскага народа

Каб вярнуцца да ўлады, Артэга вымушаны заключыць яшчэ некалькі пактаў.

Першы — з жонкай, якой надакучылі амурныя прыгоды мужа.

Другі — з Каталіцкай царквой. Былы рэвалюцыянер абвянчаўся з жонкай у прысутнасці кардынала Абанда-і-Брава і паабяцаў забараніць аборты.

У 2007-м Артэга набраў усяго 38% галасоў. Аднак гэтага хапіла, каб вярнуцца ў прэзідэнцкае крэсла, бо лібералы не здолелі выбраць адзінага кандыдата і пайшлі на выбары рознымі калонамі.

Калі Артэга вярнуўся да ўлады, Амерыка ўжо не была такой, як у часы падтрымкі «контрас». У гэты перыяд шмат у якіх краінах Лацінскай Амерыкі прыходзілі да ўлады палітыкі, не надта прыхільныя да ЗША. Артэга быў у трэндзе, а не нейкім выключэннем, таму і не быў асаблівым бяльмом на воку.

Як прэзідэнт 2.0, Артэга ў чымсьці застаўся верны сабе. Ён нават не стаў пераязджаць у прэзідэнцкі палац, застаўся жыць у сваім доме. Але ягоны рэжым гэтым разам стаў больш жорсткі: у 1980-я апазіцыя пры Артэгу пераследавалася не так сурова. Цяпер частку апазіцыйных СМІ закрылі, а карупцыянераў сталі караць пад тэлекамеры.

У замежнай палітыцы Артэга пераарыентаваўся на Венесуэлу, ад якой атрымліваў шчодрую дапамогу ў выглядзе нафты.

Новы Артэга вярнуўся на антыамерыканскія пазіцыі і запатрабаваў ад Еўропы кампенсацыі «за стагоддзі акупацыі Нікарагуа».

Яго крэдыторам стала Расія, а ён узамен — першым на свеце пасля Расіі — прызнаў Абхазію і Паўднёвую Асецію.

Дапамагалі Нікарагуа і іранцы.

На «зарobленыя» замежнай палітыкай грошы прэзідэнт зрабіў бясплатнай школьную адукацыю. Бедныя жыхары зноў атрымалі субсідыі на прадукты і доступ да дактароў, таму смяротнасць пры родах з 2007-га па 2019-ы зменшылася на 60%, а дзіцячая — на 52%.

Некаторыя новыя ідэі Артэгі былі небанальныя. Так, ён прапанаваў Кітаю і Расіі збудаваць новы, Нікарагуанскі, канал паміж Атлантычным і Ціхім акіянамі. Праект коштам 40 мільярдаў долараў патэнцыйна мог стаць канкурэнтам Панамскаму.

У выніку большасць насельніцтва не пярэчыла чарговай змене заканадаўства, якая дазволіла Артэгу ісці на выбары некалькі разоў запар. У 2011-м ён упэўнена перамог з вынікам у 62%. А на выбарах 2016-га прэзідэнт набраў рэкордныя 72% галасоў — нягледзячы на рост бюджэтнага дэфіцыту. Праўда, апазіцыя біла ў звон пра шматлікія парушэнні.

### Страляюць, як пры Самосе

Вось толькі кітайскі мільярдэр, які браўся інвеставаць у канал, збяднеў, калі кітайскі фінансавы




Гэта рыс з фасоляй — самая папулярная страва нікарагуанскай кухні. **Там гэта называюць *gallo pinto*, што ў перакладзе азначае «рабы пеўнік».** Перагукаецца з тыповай беларускай зімовай стравай: пярловай куццёю з фасоляй.

### Артэга, Керэку, Сасу-Нгесо, Рацырака

Артэга — не адзіны кіраўнік аўтарытарнага тыпу, хто сыходзіў з улады, а пасля вяртаўся да яе пры дапамозе дэмакратычных працэдур. Яшчэ тры такія кіраўнікі былі ў Афрыцы. Гэта прэзідэнты Беніна Мацьё Керэку, Конга Дэні Сасу-Нгесо і Мадагаскара Дзідзье Рацырака, якія прыйшлі да ўлады ў сваіх краінах яшчэ ў 60–70-я, арыентаваліся збольшага на СССР, а пасля страцілі ўладу, калі Саюз стаў развальвацца і спыніў падтрымку сатэлітаў. Пайшоўшы на выбары, яны прайгралі іх апазіцыі, але праз пэўны час вярнуліся да ўлады. Сасу-Нгесо дагэтуль кіруе — з 1997 года, а Керэку і Рацырака сышлі, прайграўшы новыя выбары. Яднае гэтых прэзідэнтаў тое, што ніхто з іх не быў дагматыкам.

## Шлюб з віцэ-прэзідэнтам

У другой палове 1970-х Артэга пачаў сустракацца з рэвалюцыянеркай Летыцыяй Герэра. Яны разам ездзілі на Кубу вучыцца ваеннай справе, пасля разам партызанілі. А летам 1978 года Герэра нарадзіла Артэгу першае дзіця — сына Каміла.
Але Артэга тады ўжо сышоўся з іншай паплечніцай — Расарыа Мурылья. Яна была сваячкай самога Сандзіна, легендарнага рэвалюцыянера.
Будучы прэзідэнтам і экс-прэзідэнтам, Артэга беспардонна ёй здраджваў, пакуль не зразумеў, што без падтрымкі каталікоў да ўлады яму не вярнуцца. Тады ён прымірыўся і павянчаўся. Сёння Расарыа — самы надзейны віцэ-прэзідэнт пры прэзідэнце Артэгу.
А Летыцыю, каханне маладосці, Артэга ў 2007-м адправіў генеральным консулам у суседнюю Коста-Рыку, а ў 2010-м — у Панаму.



FRANCE24.COM

**Даніэль Артэга з жонкай, якую ён зрабіў віцэ-прэзідэнтам.**



SHUTTERSTOCK.COM, BY MARK REINSTEIN

**Так яны выглядалі 33 гады таму.** Даніэль Артэга выступае ў ЗША ў 1986 годзе, а жонка яму перакладае.

рынак у 2016-м абваліўся, і праект канала адклалі на святыя ніколі. А братняя сацыялістычная Венесуэла пагрузілася ў перманентны крызіс і больш не мела з чаго фінансаваць краіны «балівaрыянскага саюза» — створанага ў 2004 годзе па ініцыятыве Уга Чавеса і Фідэля Кастра аб'яднання каля дзясятка дзяржаў Лацінскай Амерыкі і Карыбскага басейна з сацыялістычнымі рэжымамі. Дэфіцыт бюджэту Нікарагуа вырас да такой ступені, што вясной 2018-га было аб'яўлена пра павышэнне падаткаў і скарачэнне сацыяльных праграм. Студэнты пачалі мітынгаваць, і Артэга стаў дзейнічаць як Самоса — загадаў па бунтаўніках страляць. 325 чалавек загінула, тысячы былі параненыя і арыштаваныя.

Усё пайшло па коле: у снежні 2018-га прэзідэнт ЗША Дональд Трамп падпісаў указ аб санкцыях супраць урада Нікарагуа, да якіх далучыліся іншыя краіны. Артэга трымаецца, як у 80-я, і абвінавачвае неаліберальныя колы.

За гады свайго кіравання Даніэль Артэга сур'ёзна змяніўся: ён прайшоў шлях ад левага рэвалюцыянера да канфарміста, гатовага супрацоўнічаць з ворагамі дзеля ўтрымання ўлады. Нязменным застаецца толькі фенаменальнае ўменне выкручвацца. ◆

**Каму Артэга можа перадаць пасаду? Напрыклад, Рафаэлю Мурылья — сыну Расарыа з першага шлюбу, якога ён усынавіў**

SHUTTERSTOCK.COM, BY V_SOT_VISUAL_CONTENT

# Найстарэйшы ў Еўропе вежавы гадзіннік у Гродне

**Расійскія рэстаўратары прапаноўвалі гэты гадзіннік дэмантаваць і зрабіць музейным экспанатам, а да стрэлак падключыць электрычны механізм. Так сёння ўсё часцей робяць у Заходняй Еўропе. Але тады візітоўка Гародні страціць сваю ўнікальнасць. Гадзіннік перастане быць дзейным, з катэгорыі «самы» пяройдзе ў куды менш ганаровую катэгорыю «адзін з», перакананы кандыдат фізіка-матэматычных навук Аляксандр Мілінкевіч, які на працягу 10 гадоў вывучаў гісторыю гадзінніка і спрычыніўся да адраджэння гарадзенскага брэнда.**

З'яўленне ў Гародні першага вежавага гадзінніка звязана з атрыманнем горадам Магдэбурскага права. У панядзелак 21 сакавіка 1496 года, у дзень святога Бенедыкта, на сваім паляўнічым гаспадарскім двары ў Берштах «Аляксандр з ласкі Божай вялікі князь літоўскі, рускі і жамойцкі» падараваў Гародні Магдэбургскае права і дазволіў яе жыхарам мець «ратушу з гадзіннікам на месцы гаднейшым».

Першая гарадзенская ратуша з публічным гадзіннікам на яе вялікай вежы паўстала паміж 1496 і 1540 гадамі. Хто вырабіў той сярэднявечны хранометр, пакуль невядома. Відаць, гэта быў майстар, запрошаны з Гданьска або з Каралеўца — найбліжэйшых гарадоў, дзе на той час ужо існавалі цэхі такіх рамёстваў. Стваральнік ратушнага гадзінніка паставіў на левай верхняй частцы клеці ягонага механізма сваё таўро, падобнае на перакуленую лацінскую літару *«G»*.

Першая ж пісьмовая згадка пра гродзенскі гадзіннік датуецца 1541 годам, калі ў сваім прывілеі адносна гарадскога ўпарадкавання каралева Бона Сфорца загадала гарадзенскаму магістрату: «Майстра гадзіннікавага няхай возьмуць, які б гадзіннік мог абслугоўваць іаднавіць умеў, каб не псаваўся».

**Першым вядомым нам «зэгармайстрам»**, майстрам па рамонце гадзіннікаў (ад нямецкага *Seiger* — гадзіннік), у Вялікім Княстве Літоўскім быў Ян, які прыбыў на пачатку 1540-х гадоў у складзе світы маладога караля Жыгімонта Аўгуста з Кракава ў Вільню і застаўся жыць пры каралеўскім палацы. У XVI–XVII стагоддзях зэгармайстры пачыналі складаць у Вільні пэўную групу спецыялістаў, аднак да сярэдзіны XVIII стагоддзя яны не мелі асобнага цэха і належалі да супольнай карпарацыі разам з кавалямі, слесарамі, збройнікамі і іншымі майстрамі. Але пабудову новых вежавых гадзіннікаў кавальскай работы ў Вялікім Княстве Літоўскім у гэты час віленчукам яшчэ не даручалі. Напрыклад, пры стварэнні гадзінніка для Віленскага кафедральнага касцёла ў 1610 годзе на працу быў запрошаны майстар з Гданьска.

Далей вядомыя нам звесткі пра гарадзенскі гадзіннік перапыняюцца да апошняй чвэрці XVII стагоддзя. Аднак няма сумневаў, што мясцовыя ўлады старанна дбалі, каб ён спраўна адмяраў гарадскі час. Гадзіннік быў не толькі гонарам і сімвалам гарадскога самакіравання, але і арганізатарам жыцця места: па яго званах пачыналіся набажэнствы, адчыняліся і зачыняліся гарадскія брамы, майстэрні і крамы. У тыя часы, калі штосьці здаралася з вежавымі гадзіннікамі і яны пераставалі ісці, месцічы наймалі званароў, якія цэлымі суткамі ўручную молатам адбівалі час у гадзіннікавыя або касцельныя званы. Здаралася, што гэта прыходзілася рабіць гадамі, бо рамонты былі дарагімі і доўгімі.

## Змена прапіскі

Першая гарадзенская ратуша праіснавала паўтара стагоддзя і была разбурана ў час нашэсця на ВКЛ цара Аляксея Міхайлавіча, бацькі Пятра I. Гэта была адна з самых жудасных войнаў у гісторыі Еўропы, Беларусь тады згубіла больш за палову жыхароў. Маскоўскія войскі двойчы бралі і палілі горад над Нёманам: у жніўні 1655 года і ў снежні 1659 года. У дадатак у 1657 годзе Гародню акупавалі шведы. А ў 1669 годзе на працягу аднаго месяца яе моцна знішчылі яшчэ і чатыры пажары.

Знясіленая войнамі, пажарамі і эпідэміямі, Гародня зможа ўзнавіць будынак магістрата толькі ў 1784 годзе, прычым ужо без вежы і гадзінніка.

Але механічнае сэрца горада пачало зноў біцца на стагоддзе раней. Да справы аднаўлення працы галоўнага гадзінніка далучыліся езуіты, якія ў 1623 годзе, выконваючы колішнюю волю караля Стэфана Баторыя, заснавалі ў Гародні сваю рэзідэнцыю. Манахі атрымалі цэлы квартал Старога горада для пабудовы калегіума і касцёла на ўсходнім баку Рынка. Большасць першапачатковых драўляных езуіцкіх будынкаў згарэла ў час нашэсця маскоўскага войска, і ордэн пачаў узводзіць мураваныя. Спачатку з'явіўся мураваны калегіум, які ▶

Выява першай гарадзенскай ратушы захавалася дзякуючы мастаку Ёгану Адэльгаўзэру, які 2 лютага 1567 года намаляваў панараму горада падчас прыбыцця маскоўскага пасольства на перамовы з каралём Жыгімонтам Аўгустам, што праходзілі ў Старым замку. Гэтую карціну на наступны год заграviраваў Маціяс Цюнт з Нюрнберга пад назвай «Сапраўдная выява горада Гродна ў Літве». На панараме **ратуша — двухпавярховы мураваны будынак з галерэяй, вялікай і малой вежамі — знаходзіцца на галоўнай гарадской плошчы, Рынку.**





SHUTTERSTOCK.COM, BY GRISHA BRUEV

**Астранамічны гадзіннік Арлой**, Прага.

## Гарадскі час

Вежавыя механічныя гадзіннікі з'явіліся ў XIV стагоддзі ў Італіі. Першы з тых, па якіх ёсць дакладная інфармацыя, быў усталяваны на вежы палаца віконта ў Мілане ў 1335 годзе. Затым былі гадзіннікі ў Модэне (1343), Падуі (1344) і Монцы (1347). Пасля Італіі гарадскія вежавыя гадзіннікі з'явіліся ў Страсбургу (1354), Нюрнбергу (1361), у Ліёне, Парыжы і Лондане (усе ў 1370 годзе). Для сабораў выбрабляліся складаныя астранамічныя гадзіннікі з рухомымі фігурамі, а на ратушах звычайна ставілі больш простыя і функцыянальныя.
Ніводзін з механізмаў вежавых хранометраў той эпохі не захаваўся ў першасным выглядзе. Адны знікалі, іншыя перарабляліся да непазнавальнасці. У абсалютнай большасці вядомых дзейных старадаўніх вежавых гадзіннікаў стаяць ужо механізмы XVIII–XX стагоддзяў, што тлумачыцца развіццём тэхнікі і ўсё большымі патрабаваннямі да дакладнасці ходу публічных хранометраў.
Напрыклад, вядомы на ўвесь свет астранамічны гадзіннік Страсбургскага сабора, створаны ў 1842 годзе, з'яўляецца трэцім пакаленнем пасля старадаўняга гарадскога гадзінніка з пеўнем, упершыню збудаванага ў 1352–1354 гадах. А слынны гадзіннік сабора ў Солсберы, які паходзіць з 1386 года, не з'яўляецца вежавым. Ён не мае цыферблата і стрэлак, толькі адбівае гадзіны ў звон і выкарыстоўваецца для арганізацыі службаў у храме.
Славуты пражскі ратушны гадзіннік Арлой, створаны ў 1410 годзе, на працягу сваёй гісторыі пастаянна ўдасканальваўся і ўскладняўся. Ён хоць і захаваў вялікую частку старадаўніх дэталяў, але мадэрнізацыі грунтоўна змянілі першатвор, і ён сёння ўжо складаецца з шасці спалучаных механізмаў розных эпох.
Гарадзенскі вежавы гадзіннік Кафедральнага касцёла Святога Францішка Ксаверыя (мяжа XV і XVI стагоддзяў) з'яўляецца абсалютна ўнікальным помнікам навуковай думкі Сярэднявечча і пачатку Новага часу. Яго старадаўні механізм захаваў сваю арыгінальную канструкцыю. Як і раней, ён заводзіцца ўручную і на працягу пяці стагоддзяў спраўна адмярае гарадскі час па сённяшні дзень.

скончылі будаваць у 1684 годзе. Туды і перанеслі стары гадзіннік, збудаваўшы для яго высокую драўляную вежу, каб ён быў бачны і чутны для значнай часткі горада. А ў 1725 годзе гадзіннік перамясцілі ў нядаўна змураваны касцёл Святога Францішка Ксаверыя, дзе ён знаходзіцца па сёння.

Што езуіты перамяшчалі менавіта стары ратушны гадзіннік, а не нейкі свой новы, ускосна сведчыць хроніка Гарадзенскага калегіума 1673–1769 гадоў (захоўваецца ў Рымскім архіве езуітаў). Запіс 1725 года: «Разладжаны і стаўшы непрыдатным **з-за старажытнасці сваёй**, гадзіннік у гэтым годзе трохмесячнай працай быў адроджаны і змешчаны ў вежы храма. Зусім гнілая высокая драўляная вежа калегіума — старая аснова гадзінніка — была своечасова скінута, каб не пагражала сваім падзеннем даху калегіума».

У 1725 годзе былому ратушнаму гадзінніку было ўжо каля двух стагоддзяў.

Падчас аднаго з рамонтаў — 1725-га ці 1743-га гадоў — хутчэй за ўсё, адбылася частковая пераробка механізма ходу. Сярэднявечны шпіндальны ход замянілі на больш дакладны анкерны з інсталяцыяй доўгага маятніка. Гэта рабілася ў тую эпоху паўсюдна і адпавядала тагачаснаму эпахальнаму дасягненню ў хранаметрыі. Выкарыстанне маятнікаў як рэгулятараў ходу дазволіла зменшыць недакладнасць ходу з 15 хвілінаў да 15 секундаў за суткі.

## Дзякуючы беднасці

Хоць гадзіннік стаяў на вежы касцёла, ён з'яўляўся гарадской маёмасцю і даглядалі яго

мясцовыя ўлады. Яны наймалі майстроў і аплачвалі рамонты. А некалькі разоў нават спрабавалі замяніць гадзіннік на новы.

Першы раз гэта было пры Расійскай імперыі: «Гарадзенская гарадская дума ад 18 чэрвеня 1871 данесла, што азначаны гадзіннік настолькі сапсаваны, што не можа быць адрамантаваны, а таму дума мяркуе замест гэтага гадзінніка купіць новы ў Маскве за 650 руб., тыднёвы з боем, або сутачны за 600 руб. без перавозкі і ўстаноўкі яго ў вежы».

Аднак цягам трох год гарадзенцы добраахвотна сабралі толькі 70 рублёў замест патрэбных 650. Уладам не заставалася нічога іншага, як проста наняць за 150 рублёў французскага зэгармайстра і запусціць стары гадзіннік. Яшчэ 5 рублёў у месяц дума адлічвала гадзіншчыку, які павінен быў штодня заводзіць і змазваць механізм. Праца была адказнай, і ў выпадку няспраўнай заводкі майстар мусіў плаціць штраф у памеры 20 капеек за кожны дзень няправільнай хады гадзінніка.

## Гратулевічы

Пачынаючы з 1944 года за станам гадзінніка сачыла даглядчыца Фарнага касцёла Марыя Гратулевіч (1912–2011) і яе муж, касцельны сталяр Восіп. Гратулевічы кожны дзень па чарзе ўздымаліся на вежу, на вышыню 10-павярховага дома, і ўручную заводзілі стары механізм, падымаючы дзве каменныя гіры вагой больш за 60 кілаграмаў, якія віселі на 15-метровых канатах.

У 1950-я гады савецкія ўлады забаранілі прыводзіць у дзеянне механізм гадзінніка, спасылаючыся на тое, што бой гадзінніка перашкаджае гарадскому транспарту на Савецкай плошчы. Да таго ж, як распавядала спадарыня Марыя, людзі ў цывільным папракалі Гратулевічаў, што яны «з вежы пасылаюць сігналы зняволеным гарадзенскай турмы», якая ўжо амаль з часоў Расійскай імперыі месціцца ў будынках былога езуіцкага калегіума. Гадзіннік вымушана спыніў адлік гарадзенскага часу на чвэрць стагоддзя.

У 1980 годзе майстры гарадзенскага прадпрыемства «Рамбыттэхніка» адрамантавалі прывод стрэлак, вырабілі маятнік і зноў запусцілі гадзіннік. Пры правядзенні гэтых работ да механізма дадалі два электрарухавікі, якія аўтаматычна ажыццяўлялі завод ходу і бою, а таксама гідраўлічны пад'ёмнік, што прыводзіў у дзеянне механізм бою.

Але ішоў вежавы гадзіннік нядоўга. Хоць электрамадэрнізацыя і дазваляла не праводзіць заводку ўручную, але кожны раз у час аўтаматычнага ўключэння рухавікі ўсё больш расхіствалі клеці механізма і значна парушалі дакладнасць ходу. Стары гадзіннік не ўспрыняў навоўвядзення і праз паўгода ў чарговы раз спыніўся. ▶



ФОТА АЛЯКСАНДРА МІЛІНКЕВІЧА

**Новыя круглыя цыферблаты** перад пад'ёмам. 1988 год.

### Кафедральны касцёл таксама хацелі ўзарваць

Падчас падрыхтоўкі падрыву Фары Вітаўта ў 1961-м Марыя Гратулевіч арганізавала «акупацыйную абарону» сённяшняга Кафедральнага касцёла Святога Францішка Ксаверыя. А пагроза была рэальнай. За год да гэтага ксяндзу забаранілі праводзіць набажэнствы ў касцёле. Улады планавалі значнае пашырэнне Савецкай плошчы і ўзвядзенне ў яе цэнтры вялікага Дома Саветаў. І, канечне, храмы шкодзілі рэалізацыі Праграмы пабудовы камунізму (1960–1980). Самаахвярныя вернікі, у асноўным пажылыя жанчыны, днявалі і начавалі ў касцёле, не дазволіўшы знішчыць унікальны помнік гісторыі.

А вясной 1987 года Марыя Гратулевіч прапанавала аднавіць гадзіннік мне: «Гэта такая прыгажосць Гародні, а ты фізік, любіш гісторыю. Можа, дасі рады?»

Мы з маім старэйшым сынам Аляксандрам у той жа дзень узялі ў яе старадаўнія ключы і падняліся па вінтавой лесвіцы на вежу да гадзінніка. Адчувалася, што перад намі штосьці таямнічае і, магчыма, унікальнае. Механізм быў амаль нябачны, увесь у птушыным памёце. На вокнах даўно не было нават сетак, якія б перашкаджалі птушкам залятаць на паддашша і вежы храмаў. Толькі чыстка старажытных колаў і валоў заняла каля тыдня.

Першымі кансультантамі ў працы па вяртанні старажытнага хранометра былі мае гарадзенскія сябры: вядомы археолаг, тагачасны дацэнт Гарадзенскага ўніверсітэта Міхась Ткачоў і выдатны мастак-рэстаўратар Гарадзенскага музея гісторыі рэлігіі Уладзімір Кіслы, а таксама фізік, этнолаг і гісторык навукі, дацэнт Віленскага педагагічнага інстытута Лібертас Клімка.

Гадзіннік удалося запусціць праз тры месяцы, у чэрвені 1987 года. Усведамленне значнасці падзеі перахоплівала дыханне, хаця ў той час мы яшчэ нават не ведалі, што ўжо для Стэфана Баторыя гэты гадзіннік быў старадаўні.

Аднак дакладнасць ходу аказалася зусім кепскай. Зношаны механізм патрабаваў рэстаўрацыі.

## На заводзе карданаў

Аднаўленню гадзінніка паспрыяў Аляксандр Алёшын, тагачасны першы сакратар Гарадзенскага гаркама КПБ.

Асноўныя работы выконвалі майстры Вячаслаў Дарашкевіч, Рыгор Мельнік і Восіп Ясюкевіч на Гродзенскім заводзе карданных валоў. Крок за крокам, найчасцей вечарамі пасля работы, яны нарошчвалі зубы шасцерань і колаў, выраблялі інварны маятнік і апорныя падшыпнікі, аднавілі першапачатковы прывод, што яднаў механізмы ходу і бою.

Мы намагаліся максімальна поўна захаваць старадаўнія арыгінальныя дэталі. Механізму вярнулі ручную заводку, зрабілі новы круглы цыферблат з дзюралюмінію і стрэлкі з нержавеючай сталі паводле эскіза Уладзіміра Кіслага, у адпаведнасці з выявай на абразе студэнцкіх лаваў з капліцы Кангрэгацкай Маці Божай Фарнага касцёла. Урэшце электрамеханік Уладзімір Гутнік зрабіў ліхтары падсветкі цыферблатаў з аўтаматычным уключэннем у начны час.


ФОТА АЛЯКСАНДРА МІЛІНКЕВІЧА

**Сярэднявечная гадзіннікавая стрэлка.** 1987 год.

### Старажытная канструкцыя

Пяцісотгадовую гісторыю гарадзенскага гадзінніка пацвердзілі эксперты Лабараторыі навуковай рэстаўрацыі гадзіннікаў і музычных механізмаў Дзяржаўнага Эрмітажа з Санкт-Пецярбурга. Канструкцыя яго адпавядае вежавым гадзіннікам XV–XVI стагоддзяў. Гэта вялікія памеры клеці з характэрнымі галоўкамі (шышакамі) калонак у чатырох вуглах, пара прамежкавых колаў механізма ходу, прамежкавае і барабаннае колы механізма бою; колавая перадача тыпу «зорачка» з вала барабаннага кола на гарызантальную частку раздатачнага вала, падвойнае клінавае злучэнне ўпору раздатачнага вала, вагар замыкання на восі «вятранкі» (стабілізатара кручэння); аўтэнтычныя гадзінная стрэлка, кола першаснага шпіндальнага ходу і дзве старадаўнія каменныя гіры механізма.


ФОТА ЯЎГЕНА ФІЛІМОНАВА

**Механізм прыводу стрэлак.** 2017 год.


ФОТА ЯЎГЕНА ФІЛІМОНАВА

**Механізм ратушнага гадзінніка.** 2017 год.

Апоўдні 14 красавіка 1989 года вежавы гадзіннік ізноў спраўна пайшоў, напоўніўшы гукам гарадзенскія час і прастору.

### Арыгінальнае шпіндальнае кола

У сакавіку 1992 года прыехала група расійскіх рэстаўратараў старажытных вежавых гадзіннікаў на чале з выдатным майстрам Юрыем Платонавым. Гэта былі фізікі-ядзершчыкі, якіх у той час аб'яднала ідэя аднаўлення страчанага вежавага гадзінніка Вялікага палаца ў Гатчыне пад Санкт-Пецярбургам. Пабачыўшы наш хранометр, яны былі ад яго ў захапленні і запрапанавалі дапамогу ў аднаўленні гарадзенскага гадзінніка, прычым дабрачынна.

У 1996 годзе гарадзенскі вежавы гадзіннік быў зарэгістраваны ў Рэестры помнікаў гісторыка-культурнай спадчыны з наданнем першай катэгорыі каштоўнасці, а ў 2007-м пастановай Савета Міністраў быў унесены ў Спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў Рэспублікі Беларусь.

## Рэканструкцыю механізма выканалі на Гродзенскім заводзе карданных валоў

Трэці этап рэстаўрацыі гадзінніка доўжыўся з верасня 1992 года па ліпень 1997-га. Навуковае суправаджэнне работ рабіў Эрмітаж, куды якраз перайшлі на працу расійскія рэстаўратары.

Тады мы вялі прынцыповыя дыскусіі з Платонавым: ці не вярнуцца да сярэднявечнага шпіндальнага ходу дамаятнікавай эпохі, каб механізм гадзінніка цалкам адпавядаў таму, што з'явіўся на вежы гарадзенскай ратушы пяць стагоддзяў таму? Для гэтага былі ўсе магчымасці: захаваліся месцы мацавання, былі неабходныя кінематычныя схемы і мелася нават арыгінальнае шпіндальнае кола. Але адмовіліся ад гэтай вялікай спакусы. Гарадзенскі гадзіннік не музейны экспанат, ён рабочы, а пры такіх пераробках у дзясяткі разоў знізілася б дакладнасць ходу і сур'ёзна ўскладніўся б догляд механізма.

А сёння па-ранейшаму б'ецца сэрца каралеўскай Гародні, гучаць званы па-над Нёманам, нагадваючы пра хуткаплыннасць Жыцця і вечнасць Часу. ◆



**Плакат, надрукаваны ў Злучаных Штатах і прысвечаны «Кражанскай разні».** Канец XIX стагоддзя.

WIKIMEDIA COMMONS

**Сярод творчай спадчыны нашага літаратурнага класіка Францішка Багушэвіча ёсць невялікая брашура, выдадзеная ў першай палове 1890-х гадоў у дзвюх моўных версіях: беларускай і польскай. Паводле зместу і пафасу нечым нагадвае «Мужыцкую праўду» Кастуся Каліноўскага. Пра тое, што стала прычынай яе з'яўлення, піша гісторык Сяргей Астанковіч.**

Сёння за нашай усходняй мяжой заўважная тэндэнцыя на стварэнне ідэалізаванага вобразу Расійскай імперыі. У многіх фільмах і публікацыях апошняга часу насельніцтву Расіі прапануецца прыхарошаны вобраз цароў і імперыі.

Пры гэтым ці зусім замоўчваецца, ці, прынамсі, не надта акцэнтуецца тое, што тагачасная імперыя была ўсё ж, як ні круці, эканамічна адсталай дзяржавай з моцнымі феадальнымі перажыткамі, свавольствам сілавых органаў і беззаконнем. Да таго ж яна была сапраўднай «турмой народаў», дзе не існавала ні нацыянальнай, ні рэлігійнай свабоды. У апошнім неаднаразова пераконваліся

# Як бунт у жамойцкім мястэчку натхніў беларускага класіка

жыхары Літвы і Беларусі — асабліва тыя, якія вызнавалі каталіцкую веру.

### Вайна з каталіцтвам

Наступленне расійскіх імперскіх уладаў на рыма-каталіцтва ўзмацнілася пасля паўстанняў 1830–1831 і 1863–1864 гадоў. Пасля апошняга з іх урадавыя органы распрацавалі цэлую сістэму захадаў, скіраваных на змяншэнне ўплываў заходняй галіны хрысціянства. Пачалася кампанія па ліквідацыі касцёлаў і кляштараў. Абмяжоўвалася свабода перамяшчэння духавенства па парафіях, забаранялася ладзіць урачыстыя працэсіі, будаваць новыя храмы, ставіць прыдарожныя крыжы, забаранялі нават дзейнасць антыалкагольных таварыстваў (пра апошнія гл. мой артыкул «Чаму ў Беларусі пілі менш, чым у Расіі?» у № 7/2019 «Нашай гісторыі»). Таксама ўзмацніўся ціск на каталікоў, каб яны пераходзілі ў праваслаўе.

Улады ўважліва прыглядаліся да актыўнасці касцельнага кіраўніцтва. Амаль у кожнай праяве яго дзейнасці чыноўнікі вышуквалі непадпарадкаванне, апазіцыйнасць ці распаўсюджанне патрыятычных настрояў. Напрыклад, Жамойцкай дыяцэзіяй, якая ўключала ў сябе тэрыторыі Ковенскай і Курляндскай губерняў, у той час кіраваў біскуп Мечыслаў Леанард Палулон. Яму напрыканцы 1880-х удалося атрымаць дазвол на візітацыю парафій сваёй дыяцэзіі, што было забаронена яшчэ ў 1863-м. Калі біскуп аб'язджаў парафіі ў Новааляксандраўскім павеце (цяперашняя Браслаўшчына), улады былі здзіўленыя размахам мерапрыемства. Віленскі, ковенскі і гродзенскі генерал-губернатар Іван Каханаў у чэрвені 1889-га даносіў у Пецярбург, што ў вітальных урачыстасцях узялі ўдзел 50 тысяч чалавек. Іерарха віталі натоўпы вернікаў, што было ўспрынята як палітычная дэманстрацыя. Выглядала, што, нягледзячы на ўсе захады, уладам не ўдавалася зменшыць уплывы Касцёла ў краі, таму барацьба з ім заставалася актуальнай і надалей.



**Кадр з расійскага фільма «Сібірскі цырульнік»** 1998 года. Цар Аляксандр III прадстаўлены ў гэтым фільме ў моцна ідэалізаваным выглядзе, у яго ролі — Мікіта Міхалкоў.

YANDEX.RU

**Нягледзячы на ўсе старанні, уладам не ўдавалася зменшыць уплывы Касцёла**

### На чарзе — Крожы

12 (24) снежня 1891 года ковенскі губернатар Мікалай Клінгенберг паведаміў згаданаму біскупу Палулону, што, згодна з царскім указам, вырашана ліквідаваць кляштар бенедыкцінак у мястэчку Крожы (па-літоўску Кражай) Расейнскага павета Ковенскай губерні. Матэрыял ад разабраных будынкаў прызначаўся на будаўніцтва земляробчай школы. Зямля кляштара пераходзіла дзяржаве і праваслаўнай царкве ў Коўне. А каталіцкія набажэнствы планавалася перанесці ў стары, спарахнелы касцёл Святога Міхала, які знаходзіўся на мясцовых могілках.

Згаданы кляштар быў заснаваны яшчэ ў XVII стагоддзі і лічыўся мясцовымі парафіянамі «панскім», бо яго ахвотна наведвалі мясцовыя землеўладальнікі. Значная частка манашак таксама была шляхецкага паходжання. Літургія правілася па-лацінску і па-польску, Евангелле чыталася па-польску і па-жамойцку, затое казані былі выключна жамойцкія. Так было таму, што парафія размяшчалася ў этнаграфічнай Жамойці і складалася ў сваёй ▸

▸ большасці з заможных сялян, якія разумелі толькі сваю гаворку. Кляштар быў багаты, людзі за доўгі час прызвычаіліся да яго.

Прыкляштарны касцёл быў пабудаваны ў XVIII стагоддзі ў стылі позняга барока згодна з праектам архітэктара Тамаша Жаброўскага.

Жыхары Крожаў не згаджаліся на закрыццё касцёла і звярталіся з просьбамі да генерал-губернатара і цара аб змене яго статусу з прыкляштарнага на парафіяльны. Парафіяльны ж касцёл Святога Міхала меркавалася пераўтварыць у капліцу на могілках для адпявання памерлых. Аднак улады да гэтых зваротаў не прыслухаліся і працягнулі ліквідацыю святыні.

### Вернікі гатовыя змагацца

Першапачаткова чыноўнікі збіраліся зрабіць усю справу рукамі духавенства з Крожаў і найбліжэйшых вёсак. Аднак вернікі адмовіліся падпарадкавацца ксяндзам і не дазволілі ім вынесці з храма Святыя Дары. Не дапамагло і ўмяшанне паліцыі.

На пазіцыю жыхароў моцна ўплывала памежнае становішча іх мястэчка. Вядома, што пасля паўстання 1863–1864 гадоў літоўскі друк лацінкай быў забаронены. Аднак Літва межавала з Усходняй Прусіяй, адкуль кантрабандысты-кніганошы дастаўлялі патрэбную нелегальную літаратуру (гл. мой артыкул «Кніганошы: як кантрабанда ўзгадавала народ» у № 5/2019 «Нашай гісторыі»). У гэты час вялікі ўплыў на каталікоў Літвы мела друкаваная ў горадзе Тыльзіце (цяпер Савецк Калінінградскай вобласці) газета *Žemaičių ir Lietuvos apžvalga* («Агляд Жамойці і Літвы»). Ужо ў першым нумары рэдакцыя заклікала да супраціву прыгнёту, да барацьбы за літоўскасць і каталіцкую веру. А ў другім нумары, у студзені 1892 года, была змешчана падрабязная інфармацыя пра падзеі ў Крожах. Вернікаў з усёй Літвы заклікалі абараняць храм, не зважаючы на пагрозы з боку ўлады. Распаўсюджанне газеты сярод кражанцаў давала ім моцную маральную падтрымку.

У той жа час вернікі не маглі не ўсведамляць небяспеку сваіх дзеянняў. За сем гадоў да гэтых падзей расійская адміністрацыя

### Жамойць, жамойты і жамойцкая мова

Апошнім часам многія беларусы схільныя ставіць знак роўнасці паміж Жамойцю і Літвой у цяперашнім разуменні, называючы жамойтамі ўсіх сучасных літоўцаў без выключэння. Адпаведна, жамойцкай могуць называць і сучасную літаратурную літоўскую мову. Але такі погляд, які ўзнік у працэсе ідэалагічнага змагання з літоўцамі за спадчыну Вялікага Княства Літоўскага, вельмі спрошчаны і зусім не адпавядае рэчаіснасці. Бо гістарычная Жамойць — толькі частка этнічна літоўскай тэрыторыі, а жамойты як этнічная група — толькі частка, прытым не большая, літоўскага народа. Па-літоўску слова *Žemaitija* значыць «ніжняя зямля», у адрозненне ад іншага рэгіёна, Аўкштайціі (*Aukštaitija*) — «верхняй зямлі». Такая назва пайшла, хутчэй за ўсё, з-за размяшчэння ў ніжнім цячэнні Нёмана. Ёсць версія, што мясцовыя балцкія плямёны ў старажытнасці мелі супольных продкаў хутчэй не з сучаснымі літоўцамі, а з сучаснымі латышамі, і гэта цягам усёй гісторыі вызначала іх адметнасць. Тым не менш супольная цягам стагоддзяў гісторыя прадвызначыла ўключэнне жамойтаў менавіта ў літоўскі нацыянальны працэс. Больш за тое, у XIX стагоддзі тэрыторыя этнаграфічнай Жамойці стала адным з галоўных асяродкаў і цэнтраў мадэрнага літоўскага нацыянальнага руху. У часы Вялікага Княства Літоўскага існавала асобнае Жамойцкае старoства (княства), якое адрознівалася ад іншых рэгіёнаў дзяржавы спецыфікай эканамічнага і адміністрацыйнага ўладкавання. Яно тэрытарыяльна крыху выходзіла за межы ўласна этнаграфічнай Жамойці, яшчэ больш за іх выходзілі межы Жамойцкай рыма-каталіцкай дыяцэзіі (біскупства). Асабліва шырокімі яны сталі ў часы Расійскай імперыі, калі Самагіцкая (Жамойцкая) дыяцэзія стала ўключаць у сябе цалкам тэрыторыю дзвюх губерняў — Ковенскай і Курляндскай. Паколькі часткай Ковенскай губерні была і беларуская Браслаўшчына, яе каталіцкія парафіі тады таксама адміністрацыйна падпарадкоўваліся жамойцкаму біскупу. Этнаграфічная ж Жамойць (сустракаюцца таксама такія формы назвы, як Жмудзь і Самагіція) — гэта заходняя частка сучаснай Літоўскай Рэспублікі з такімі гарадамі, як Шаўляй, Мажэйкяй, Цяльшай. Жамойты — іх недзе каля паўмільёна, і ваколіцы мястэчка Крожы (Кражай) уваходзяць у межы іх рассялення — захоўваюць сваю этнічную адметнасць у параўнанні з іншымі літоўцамі і дагэтуль, у тым ліку і ў мове. Гаворка жамойтаў настолькі адрозніваецца ад літаратурнай літоўскай мовы, у аснову якой ляглі аўкштайцкія дыялекты, што некаторыя схільныя разглядаць яе нават як асобную балцкую мову. Хоць і абмежавана, але яна выкарыстоўваецца і ў публічнай прасторы, на ёй нават існуе адносна развіты раздзел Вікіпедыі.






**Касцёл Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Крожах, які абаранялі вернікі.**

загадала ліквідаваць мужчынскі кляштар і касцёл у вёсцы Кястайцi Цельшаўскага павета. Мясцовыя людзі спрабавалі абараніць касцёл, абарона працягвалася каля двух месяцаў. Але ўрэшце расійская адміністрацыя на чале з ковенскім губернатарам і з дапамогай трох сотняў казакаў сілай выдалілі людзей з храма. Некалькі абаронцаў былі параненыя, 43 трапілі на нейкі час пад арышт.

Кражанцы ведалі пра гэтыя падзеі, але ўсё ж вырашылі да канца чакаць рашэння з Пецярбурга ці Вільні.

### Разбой губернатара

Мікалай Клінгенберг, выконваючы загад віленскага, ковенскага і гродзенскага генерал-губернатара Пятра Аржэўскага, 9 (21) лістапада 1893-га накіраваўся ў Крожы разам з жандарамі і паліцыяй. Даведаўшыся пра тое, што ля касцёла сабралася каля чатырохсот чалавек, ён загадаў тром сотням казакаў чакаць у вызначаным месцы. Імаверна, высокі чыноўнік планаваў выклікаць масавае абурэнне мясцовага насельніцтва, каб потым далажыць начальству ў Вільні і Пецярбургу аб паспяховым задушэнні «бунту» пры яго асабістым удзеле.

**«Ніводзін губернатар ноччу царскіх загадаў не выконвае»**

«Бунт» быў выкліканы вельмі проста. Губернатар прыбыў у мястэчка а другой гадзіне ночы ў суправаджэнні паліцэйскіх, узброеных шаблямі, бічамі і рэвальверамі, загадаў разбудзіць ксяндзоў і пачаў аперацыю па захопе касцёла. Храм вартавалі некалькі мясцовых жыхароў. Пабачыўшы набліжэнне войска, яны сталі перад уваходам з партрэтамі цара, царыцы і крыжам. Людзі сцвярджалі, што ніхто не можа забіраць у іх святыню, пакуль не прыйдзе адказ ад імператара. Клінгенберг адказаў: «Я тут якраз па даручэнні цара прыйшоў, каб зачыніць касцёл». Жыхары мястэчка запярэчылі: «Ты не губернатар, а разбойнік, ніводзін губернатар ноччу царскіх загадаў не выконвае. Мы не хочам ніякіх ласкаў і дабрадзействаў, толькі справядлівасці. Каталіцкі касцёл належыць толькі каталікам». Пачалася штурханіна, вырыванне крыжоў і абразоў, пачуліся стрэлы ў паветра.

Прыбыццё казакаў з пікамі, карабінамі, шаблямі і нагайкамі пераламала сітуацыю на карысць уладаў. Ксёндз Аўгусцін Мажэйка, які прыбыў разам з карнікамі, вынес Святыя Дары, касцёл быў апячатаны. На месцы засталося некалькі трупаў і мноства параненых. ▶


59

**Haspadary,**

Dla Was piszym heta apawiadannie. Peŭnie jeszcze nia usie czuli ab tym, jak carskija słuhi muczuć i zdziekujutca nad tymi padŭładnymi narodami, katoryja dziaržać wieru niaprawosłaŭnuju. Prawicielstwa nie pazwalaje pisać ab hetym u gazetach, bo baitca Was. Baitca waszaho sprawiedliwaho súdu, bo wy siła: z Was najbolsz nábrana jaho wojska; wy płacicie ~~najbolsz nábrana jaho wojska; wy placicie~~ bolszuju czaść dachodaŭ, z katorych jon żywie, wy daicio usiej ziamli praŭdziwy chleb. Wyż i pawinny wiedać, skolki cierpiać waszyje braty pad carskim jarmom. Apawiadannia hetyja smutnyja i strasznyja, a niedola nasza wialikaja! Ale budzim pomnić swiatyja słowy Ewangelii: „Kożnamu budzić addana pawedług jaho złości i pawedług jaho zasłuh".

I.

Niema na ziamli karaleŭstwa, kab da jaho należała tolka narodaŭ ružnych wier, jak do rassiejskaho carstwa. Pamalenku praz szmat hadoŭ narody hetyja, to siłaj, to krutam da mutam padpali pad russkaho cara. Nasz narod, naszu aiczyznu sto hadoŭ tamu gwałtam i podkupam zabrali i padzielili mieży saboj Caryca Kaciaryna, Casar aŭstryjacki i Pruski Karol.

1895 г.


61

**Bracia Włościanie!**

Dla Was piszemy tę opowieść. Wielu nie słyszało jeszcze zapewne o tem, jak carski rząd prześladuje i męczy te podwładne mu narody, które nie wyznają wiary prawosławnej. Rząd nie pozwala pisać o tem w gazetach, bo się Was boi. Boi się on sprawiedliwego sądu Waszego, bo w Was jest siła: Wy przedewszystkiem stanowicie jego wojsko; Wy opłacacie większą część podatków, z których on żyje; Wy całemu krajowi chleb dajecie. Wy też wiedzieć powinniście, co cierpią bracia Wasi pod rządem carskim. Opowieści to straszne i smutne, i niedola nasza wielka. Pamiętajmy jednak na słowa święte:

»Każdemu oddane będzie według niegodziwości jego i według zasług jego.«

Warszawa 1894.



**Першыя старонкі беларускамоўнай і польскамоўнай версій брашуры** аўтарства Францішка Багушэвіча.

Арыштаваных кабет казакі згвалтавалі.

На наступны дзень у мястэчку адбыўся губернатарскі суд. На рынку засядаў Клінгенберг у суправаджэнні паліцыі. Да яго прыводзілі затрыманых, якіх казакі збівалі нагайкамі. Царскі чыноўнік назіраў за экзекуцыяй з усмешкай і вялікім задавальненнем. Час ад часу ён пытаўся: «Што? Я губернатар ці разбойнік?» Збітых людзей пазачынялі ў гумнах і шынках, пераўтвораных у часовыя турмы.

Пасля гэтага губернатар загадаў змясціць у «Ковенскіх губернскіх ведамасцях» інфармацыю, якая б цалкам апраўдвала дзеянні адміністрацыі. Сцвярджалася, што, згодна з найвышэйшым загадам, касцёл трэба было зачыніць, але жыхары мястэчка не падпарадкаваліся. Таму была ўжыта сіла. Пры сутыкненні з мясцовым людам нібыта былі лёгка параненыя чатыры паліцэйскія. Хоць насамрэч падчас гэтых падзей было забіта 9 чалавек, 54 атрымалі раненні, 69 чалавек (52 мужчыны і 17 жанчын) ва ўзросце ад 16 да 80 гадоў арыштаваныя.

## Абурэнне і салідарнасць

Дзеянні ўладаў у Крожах выклікалі абурэнне шырокіх колаў ліберальнай грамадскасці — не толькі мясцовай, але таксама расійскай і польскай. Абаронай падсудных заняліся найлепшыя адвакаты з абедзвюх расійскіх сталіц, а таксама з Варшавы і Вільні.

Сярод тутэйшых дзеячаў адзначыўся Францішак Багушэвіч, які на той момант працаваў у Віленскай судовай палаце. Свой літаратурны талент ён скарыстаў для напісання маленькіх ананімных брашур на беларускай і польскай мовах, якія павінны былі інфармаваць сялян пра сутнасць Кражанскай справы. Кнігі былі надрукаваныя да верасня 1894 года ў Варшаве, іх змест у нечым нагадваў «Мужыцкую праўду» Кастуся Каліноўскага. Як і іншыя творы класіка беларускай літаратуры, яны траплялі да чытача праз «зялёную мяжу», з дапамогай кніганошаў.

Вядома, гэтыя выданні толькі ў нязначнай ступені маглі паўплываць на сітуацыю. Уся сіла была ва ўладаў. 20 верасня (па старым стылі) 1894 года ў Віленскай судовай палаце пачаўся працэс. Падсудных было 69: 33 селяніны, 26 шляхцічаў і 10 мяшчан. Затрыманых абвінавачвалі ў перашкодзе выкананню найвышэйшага загаду, а таксама ва ўзброеным супраціве ковенскаму губернатару і чыноўнікам, што яго суправаджалі. Усяго было асуджана 36 чалавек, пры гэтым чацвёра атрымалі па 10 гадоў катаржных работ, а трое былі сасланыя ў Табольскую губерню.

## Стала сімвалам

Уся каталіцкая грамадскасць літоўска-беларускага краю жыла тады гэтай справай, у дні працэсу сітуацыя ў Вільні была вельмі напружаная. «Кражанская разня» — так эмацыйна сталі


60

Rzeż katolików

w Krożach



Вокладка польскамоўнай брашуры пра Крожы аўтарства Францішка Багушэвіча. **Яго тэкст фактычна ідэнтычны беларускаму.** Беларускамоўная версія назвы не мае, таму яе завуць па першых словах: «Гаспадары, для вас пішам гэта апавяданне...»

### Уступнае слова Багушэвіча да брашуры, стылістычна падобнае да «Мужыцкай праўды» Каліноўскага

Гаспадары! Для Вас пішам гэта апавяданне. Пэўна яшчэ не чулі аб тым, як царскія слугі мучаць і здзекуюцца над тымі падуладнымі народамі, каторыя дзяржаць веру неправаслаўную. Правіцельства не пазваляе пісаць аб гэтым у газетах, бо баіцца Вас. Баіцца вашага справядлівага суду, бо вы сіла: з Вас найбольш набрана яго войска; вы плаціце большую часць даходаў, з каторых ён жыве, вы даяцё ўсёй зямлі праўдзівы хлеб. Вы ж і павінны ведаць, сколькі церпяць вашыя браты пад царскім ярмом. Апавяданні гэтыя смутныя і страшныя, а нядоля наша вялікая! Але будзем помніць святыя словы Эвангеліі: «Кожнаму будзець аддана павэдлуг яго злосці і павэдлуг яго заслуг»...

паўсюдна называць гэтыя падзеі — нанесла сур'ёзны ўдар па іміджы тагачаснай Расіі, а назва мястэчка стала нечым накшталт сімвала барацьбы за свабоду веры.




**Сучасны герб Крожаў**, нададзены мястэчку ў 1993 годзе.

У тым ліку і з-за высокіх іміджавых страт улады ў выніку вымушаныя былі пайсці на пэўную лібералізацыю ў адносінах да Каталіцкай царквы ў імперыі. Тым больш што хутка Аляксандр III памёр, а новы цар, Мікалай II, амніставаў кражанцаў у гонар узыходжання на трон. Храм, праўда, ім вярнулі толькі ў 1908-м.

## «Кражанская разня» нанесла сур'ёзны ўдар па іміджы тагачаснай Расіі

А памяць пра тыя падзеі захоўваецца і сёння. 4 сакавіка 1993 года літоўскае мястэчка Кражай атрымала герб і сцяг, якія нагадваюць пра падзеі стагадовай даўніны. На іх бачна, як арханёл Міхаіл перамагае чорта са срэбнымі рагамі, што сімвалізуе маральную перамогу кражанцаў над прыгняталнікамі. ◆





# *Манерны* генерал

**Даспехі — але карункі на рукавах і балетная пастава. Чаму гэта спалучаецца на партрэце Міхала Казіміра Агінскага? Тлумачыць мастацтвазнаўца Надзея Вусава.**

Ля гэтага партрэта Міхала Казіміра Агінскага ў экспазіцыі Нацыянальнага мастацкага музея заўсёды даводзіцца ўдакладняць, што на ім намаляваны не Міхал Клеафас Агінскі (1765–1833), аўтар усім вядомага паланэза «Развітанне з Радзімай», а ягоны сваяк Міхал Казімір Агінскі (1729–1800) — генерал-лейтэнант, віленскі ваявода, вялікі гетман літоўскі і таксама кампазітар. Таксама ён быў фундатарам Агінскага канала на Палессі і заснавальнікам «сядзібы музаў» у Слоніме (крыху больш пра яго — у артыкуле Ягора Сурскага «Што налівалі ў першым беларускім бары» ў нумары 11/2019 «Нашай гісторыі»).

Даволі доўга аўтар партрэта ў зборах мінскага музея быў невядомым, але ў 1980-я гады імя мастака ўдалося вызначыць супрацоўніцы музея Таісе Карповіч. Яна ўбачыла ў музеі польскага горада Санак (у «даінтэрнэтавую» эру атрыбуцыі часта здараліся выпадкова) абсалютна ідэнтычны, але пакаленны партрэт, а на ім ▶

На партрэтах ракако ўсе такія мілыя. У выпадку з Агінскім мастачцы можна было моцна не перабольшваць: душка, высокі бландзін з міндалепадобнымі вачамі і далікатнай скурай. Агінскі вырас разам з шасцю сёстрамі і пераняў ад іх адмысловую ўвагу да свайго выгляду.

**Блакітная муаравая стужка**, да якой чапляўся знак ордэна Белага Арла.

**Жазло**, якім Міхал Казімір паказвае на кавалькаду вершнікаў на заднім плане карціны, адсылае да вайсковай кар'еры Агінскага — ён быў ужо камандзірам коннага палка і генералам. Праўда, на час напісання партрэта генералам ён быў чыста паркетным.

**Вайсковыя даспехі** — абавязковы атрыбут палкаводца ў тагачасным партрэце. Мастачка старанна выпісвае кірасу на грудзях і шалом са страусавым пяром, не прапускаючы выпадку ўзмацніць пэндзлем бляск металу. Даспехі павінны ствараць ваяўнічы вобраз героя. І пры гэтым Агінскі стаіць у манернай балетнай позе. Ракако — такое ракако.

Левая рука Агінскага прытрымлівае **эфес шпагі** — намёк на адважны характар героя.





**Парык** па тагачаснай модзе *en cadogan*, гэта значыць «хохлікам», калі валасы збіраліся на патыліцы. Касцюм і аксесуары па звычаі тых часоў пісаліся з манекенаў, каб не стамляць высокапастаўленых натуршчыкаў. Тыя прыходзілі толькі на некалькі сеансаў, даючы магчымасць жывапісцу ўзгадніць з імі кампазіцыю партрэта і напісаць з натуры твар.

**Ордэн Белага Арла** пад дэвізам «За веру, караля і законнасць» даваўся каралём Рэчы Паспалітай добранадзейным радавітым магнатам. Пры Аўгусце III ім былі ўзнагароджаныя 345 чалавек. Такая падзея лічылася грунтоўнай падставай для замовы партрэта.

Герой апрануты ў **пунсовы мундзір** камандзіра драгунскага палка Вялікага Княства Літоўскага. На мундзіры нашытая зорка ордэна Белага Арла, а поза Міхала Казіміра выгадна дэманструе яе.

Каб надаць статуснасці, Лісеўская ўвяла ў партрэт вобраз **вернага лёкая** («дзядзькі»). Ён у шапцы з вензелем роду Агінскіх. Слугі — арапы, конюхі, пакаёўкі — на партрэтах эпохі ракако віталіся, бо яны ўзбагачалі змест выявы. Лёкай прыадчыняе полаг вайсковага шатра і асцярожна выглядвае з-за яго, любуючыся трыумфам гаспадара. Яго праставатасць нібы падкрэслівае арыстакратызм маладога генерала. Але ўсмешка надае партрэту лёгкую іранічнасць у дачыненні да маладога героя, яго любавання сабой.

А рукі, зірніце на гэтыя спешчаныя рукі пад вытанчанымі **карункамі** жабо! Дамы, перад вамі не які-небудзь брутальны ваяка-мужлан. Я тонкая натура!

▸ стаіць подпіс мастачкі Ганны Лісеўскай, якая паходзіла з дынастыі польска-нямецкіх мастакоў, і дата: «*Original paint par Rosina Mattehieu nee Lisiewska 1755*».

### Вайсковец з душой музыкі

Міхал Казімір, у жылах якога цякла кроў Агінскіх і Вішнявецкіх, у тры гады страціў маці, у сем — бацьку і гадаваўся ў сям'і князя Міхала Чартарыйскага, з дачкой якога пасля ажаніўся.

Чартарыйскі выпрасіў свайму гадаванцу чын генерал-маёра і пасаду пісара літоўскага войска. Юнаму Агінскаму тады было 18 гадоў. Штабная пасада пісара прадугледжвала адміністрацыйныя абавязкі: інспекцыю замкаў (якія ўсё больш занепадалі праз недастатковасць фінансавання), праверку абмундзіравання, складанне спісаў для атрымання заробку салдатамі і г.д. Пасада была добра аплачванай, але не патрабавала асаблівых высілкаў.

**Ганна Лісеўская пісала на замову партрэты арыстакратыі і буржуазіі. Гэта было сямейным бізнэсам**

Тагачасны кароль Аўгуст III Саксонскі меў ахвоту да раскошы і мастацтва, выдаваў велізарныя грошы на папаўненне калекцыі Дрэздэнскай галерэі і ўтрыманне



**Міхал Казімір Агінскі. Партрэт аўтарства італьянца з Вены Ёзэфа Грасі.** Захоўваецца ў Нацыянальным музеі ў Варшаве. У старасці Агінскі замовіў у еўрапейскіх майстроў, якія працавалі ў Рэчы Паспалітай, яшчэ два партрэты, дзе зафіксаваў сваю ролю як дзеяча Асветніцтва і гетмана Вялікага Княства Літоўскага. На партрэце Ёзэфа Грасі (1757–1838) ён рэспектабельны і велічны 60-гадовы стары ў блакітным мундзіры генерала ВКЛ. На мундзіры блішчаць ордэн Белага Арла, два ордэны ўжо Расійскай імперыі — Андрэя Першазванага і Аляксандра Неўскага — і прускі ордэн Чорнага Арла. На першым плане партрэта намаляваны першы том энцыклапедыі Дэні Дзідро. Гэта невыпадкова: Агінскі сябраваў з Дзідро і напісаў для гэтага тома артыкул пра арфу, на якой ён умеў бліскуча граць.

прыдворнай капэлы, пабудаваў оперны тэатр у Саксонскім садзе ў Варшаве.

Гэта было ў духу часу. Агінскі таксама дэманстраваў схільнасць да мастацтваў. Ён маляваў, іграў на арфе, клавікордах, скрыпцы і кларнеце, быў апантаным тэатралам.

У 1754 годзе Аўгуст III засведчыў прыязнасць да маладога падданага найвышэйшай дзяржаўнай узнагародай — ордэнам Белага Арла. Радасная вестка застала яго ў падарожжы па Еўропе, дзе малады Агінскі ў салонах зачароўваў дам сваёй маладосцю, прыгажосцю і вытанчаным густам ды выхаваннем.

Каб атрымаць ордэн, Міхал Казімір паехаў у рэзідэнцыю саксонскага курфюрста ў Дрэздэн, бо Аўгуст III рэдка калі з'яўляўся ў Рэчы Паспалітай.

Атрымаўшы прэстыжны ордэн, Міхал Казімір Агінскі паспяшаўся ўвекавечыць сябе, прыгожага, з Белым Арлом на грудзях.

### У Прусію, каб пазіраваць

Замест таго, каб замовіць партрэт якому дрэздэнскаму мастаку, якіх хапала пры двары Аўгуста, Агінскі едзе за 200 кіламетраў, каб пачаць сеансы партрэтавання ў прускім Берліне.

Гэтыя паводзіны паказваюць, што Агінскі хацеў не проста

### Стыль ракако

празваны «матыльковым мастацтвам», у поўную сілу заявіў пра сабе ў 1740–1750-я гады пасля каранацыі прускага караля-музыкі і караля-філосафа Фрыдрыха Вялікага. Гэтае мастацтва адлюстравала «цацачны свет» спешчанага таварыства малых еўрапейскіх двароў — людзей элегантных, ветлівых, дасціпных і легкадумных. Чароўны свет ракако — гэта камерная музыка Моцарта і Гайдна, выгнутая мэбля, люстраныя пакоі, букалічныя вершы і парцалянавыя скульптуркі на камінах. Ракако звязанае з культам юнацтва і сонечнага боку быцця, з бесканфліктнымі, лёгкімі, радаснымі тэмамі. У творах ракако вельмі часта ёсць гульня і падман, нярэдка схаваныя ў сюжэце, назве, кампазіцыі.

партрэт, а партрэт ад канкрэтнага мастака. У Берліне жыла Ганна-Разіна Мацье, народжаная Барбара Лісеўская (1713–1783). Мастачка са смелым і авантурным характарам, якая тонка адчувала характар замоўцы.

У тыя гады Лісеўская яшчэ працавала ў цяні свайго настаўніка — «бацькі нямецкага ракако» француза Антуана Пэна (1683–1757), прыдворнага мастака прускага караля. Ён 35 гадоў кіраваў Берлінскай акадэміяй мастацтваў і ператварыў Берлін у значны мастацкі цэнтр Еўропы. Пры ім тут зацвердзіліся традыцыі французскага параднага партрэта, які адрозніваўся ідэалізацыяй мадэлі, пышнасцю касцюмаў і ўвагай да аксесуараў. Ганна-Разіна выдатна засвоіла гэты стыль.

Лісеўская была адной з найлепшых вучаніц Пэна і сярод іншага ў маладосці пісала партрэт юнай прынцэсы Сафіі Аўгусты Фрэдэрыкі, якая ўвайшла пасля ў гісторыю як расійская імператрыца Кацярына II. У той жа час Лісеўская была «свая», полька, хоць нарадзілася і вучылася ў Берліне.



**Партрэт Міхала Казіміра Агінскага работы аўстрыйскага жывапісца Ёзэфа Франца Пічмана** (1758–1834). Захоўваецца ў Нацыянальным музеі ў Варшаве. На партрэце пачатку 1790-х Агінскі ў нацыянальным касцюме, яшчэ з гетманскай булавой і ордэнам Белага Арла. У 1793 годзе ён адмовіцца ад звання гетмана і булавы ў знак пратэсту супраць скасавання Канстытуцыі 3 мая. А праз два гады, у 1795-м, у сувязі з ліквідацыяй Рэчы Паспалітай быў скасаваны і ордэн Белага Арла.

### Давайце два!

Час стварэння партрэта вядомы даволі дакладна — паміж студзенем і чэрвенем 1755 года. Бо пазней памрэ муж мастачкі Давід Мацье, і яна хутка выедзе ў горад Цэрбст, каб стаць прыдворным жывапісцам Фрыдрыха-Аўгуста, апошняга кіраўніка княства Ангальт-Цэрбст, роднага брата будучай расійскай імператрыцы Кацярыны II. Там праз пяць гадоў 47-гадовая (у тыя часы гэта ўзрост бабулі!) Ганна-Разіна выйдзе замуж другі раз і стане Ганнай-Разінай дэ Гас. Пры гэтым двары яна напіша каля 60 партрэтаў прыдворных дам, а таксама сябра свайго мужа — філосафа і пісьменніка Эфраіма Лесінга.

Агінскі хацеў размясціць свае партрэты ва ўласных маёнтках і замовіў мастачцы дзве версіі: пакаленны партрэт (цяпер захоўваецца ў Гістарычным музеі горада Санак, Польшча) і парадны ва ўвесь рост, вышынёй амаль два метры (у Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі). Акрамя таго, у Літоўскім мастацкім музеі ў Вільні і ў музеі імя Чурлёніса ў Каўнасе ёсць яшчэ і пагрудныя партрэты, адзін з якіх, авальны, імаверна, ёсць копіяй з партрэта Лісеўскай. Падпісаны толькі першы партрэт, пакаленны. Таму лічыцца, што мінскі варыянт — ужо другая аўтарская версія. Сапраўды, дэталі на пакаленным партрэце выпісаныя больш дакладна і дасканала.

Агінскага малявалі вядомыя еўрапейскія мастакі. Але менавіта гэты ранні партрэт Ганны-Разіны Лісеўскай, дзе ён поўны надзей на бліскучую будучыню, асацыюецца ў нас з вобразам беларускага магната эпохі Асветніцтва, якая для Беларусі была эпохай магнацкага эгаізму, які прывёў праз 17 гадоў да падзелаў Рэчы Паспалітай. Ён стаў візітоўкай партрэта Беларусі сярэдзіны XVIII стагоддзя.

**Менавіта партрэт Лісеўскай асацыюецца ў нас з вобразам беларускага магната эпохі заняпаду Рэчы Паспалітай**

### Маршрут партрэта

Мяркуюць, што беларуская версія партрэта знаходзілася ў слонімскай рэзідэнцыі Агінскага, адкуль праз зборы яго сваякоў і іх нашчадкаў у 1920-я гады паступіў у Беларускі дзяржаўны музей, затым у 1934 годзе — у Дзяржаўны гісторыка-сацыяльны музей, а ў 1939-м быў перададзены ў Дзяржаўную карцінную галерэю ў Мінску. Падчас нямецкай акупацыі партрэт быў вывезены ў Германію, але вярнуўся ў 1948 годзе ў Дзяржаўны музей БССР, адкуль праз 20 гадоў як выдатны твор мастацтва быў перададзены ў мінскі Мастацкі музей. ◆

# Наш чалавек-мядзведзь

## Літоўска-беларускія карані адной мастацкай традыцыі




Малюнкі з працы французскага мастака XVII стагоддзя Шарля Лебрэна «Трактат пра выраз твару». Аўтар уявіў, як выглядалі б людзі, каб яны паходзілі ад розных жывёл. **На гэтых малюнках — чалавек мядзведжага паходжання.**

**Аказваецца, Беларусь некалі асацыявалася не толькі з ваўкалакамі — чалавекамі-ваўкамі, але і з чалавекамі-мядзведзямі. І ці не расказы нашых паўстанцаў-эмігрантаў актуалізавалі для француза Праспера Мерымэ гэты старадаўні сюжэт, дапускае гісторык Алесь Белы.**

Сюжэт з чалавекам-мядзведзем, які ў залежнасці ад абставін прымае ці адно, ці другое аблічча, вандруе па літаратуры і кінематографе сама меней 150 гадоў.

Вельмі яскрава ён прагучаў у навеле французскага пісьменніка Праспера Мерымэ «Локіс» (*lokys* — па-літоўску «мядзведзь»). Звернем увагу, што ў час напісання твора — а гэта 1869 год — у Парыжы былі яшчэ зусім свежымі рамантычныя газетныя аповеды пра гераізм паўстанцаў 1863–1864 гадоў. Ды і саміх эмігрантаў-паўстанцаў хапала: узяць хаця б Валерыя Урублеўскага. Гэта падагравала інтарэс да «літоўскай экзотыкі», які і выкарыстаў Мерымэ.

Паводле навелы, малады граф Міхал Шэмет нарадзіўся пасля таго, як ягоная маці была выкрадзеная — а як шэптам казалі некаторыя, і згвалтаваная — мядзведзем, але потым здолела ўцячы з лесу. Выгляд і паводзіны выдаюць у графе нешта звярынае, і ўрэшце, ягонае вяселле, як і было напрарочана, канчаецца трагедыяй — ён загрызае маладую жонку.

Сюжэт аказаўся прывабным і для наступных пакаленняў. Апроч шматлікіх перакладаў і экранізацый у розных краінах самой навелы Мерымэ, ён у розных варыяцыях быў выкарыстаны ў савецкім фільме «Мядзведжае вяселле» паводле сцэнарыя тагачаснага савецкага наркама асветы Анатоля Луначарскага (1925), у казачнай п'есе Яўгенія Шварца «Звычайны цуд» (1954) і ў аднайменных савецкіх фільмах, знятых Эрастам Гарыным у 1964-м і Маркам Захаравым у 1978-м. Нарэшце, той жа сюжэт быў пакладзены ў аснову беларускага фільма ў жанры «бульба-хорар» «Масакра» Андрэя Кудзіненкі (2010).

### Маўглі Юзаф

Але першавыткі сюжэта пра чалавека-мядзведзя маюць узрост, значна старэйшы за 150 гадоў.

Вялікае Княства Літоўскае заўжды было сапраўдным мядзведжым кутом Еўропы, жыхары заходняй часткі кантынента траплялі сюды вельмі рэдка. А калі і траплялі, то везлі з сабой назад больш легендаў, чым аб'ектыўнай інфармацыі.

Глухія чуткі, што мядзведзі — цалкам звычайная дэталь тутэйшага сацыяльнага пейзажу, здаўна кружылі па Еўропе. Тым больш што шырока вядомай была мядзведжая «Смаргонская акадэмія», выхаванцы якой гастралявалі аж да Венгрыі і Германіі.

Асабліва інтрыгуе добра задакументаваны гістарычны эпізод, які пачаўся ў 1663 годзе, за часамі караля Яна Казіміра. У гэты час разбуральныя войны Рэчы Паспалітай з Маскоўскай дзяржавай і Швецыяй, якія вяліся амаль два дзесяцігоддзі, ужо пачалі адступаць, і на

**Метад дрэсіроўкі медзведзянят яўна не ўхвалілі б сённяшнія зоаабаронцы**

даляглядзе сталі бачныя абрысы мірнага жыцця. У тым годзе ў Варшаву з Вялікага Княства прывезлі здзічэлага хлопца, на выгляд прыкладна 8, максімум 10 гадоў, які нібыта выхоўваўся ў мядзведжай сям'і.

Гэтая навіна шырока разышлася па Еўропе. У прыватнасці, так яе падала французская газета «Нувэль ардынэр» (*Nouvelles Ordinaires*) 1 снежня 1663 года: «Віленскі біскуп даслаў каралеве дзіця ўзростам ад 8 да 9 гадоў, якое знайшлі сярод мядзведзяў недалёка ад Коўна. Жаўнераў, якія зімавалі ў той ваколіцы, мясцовыя сяляне ўпрасілі, каб яны зладзілі паляванне на мядзведзяў, бо тыя наносілі ім вялікую шкоду. Дзіця заўважылі, калі яно, зусім голае, уцякала разам з мядзведзіхай і медзведзянятамі ад пераследу паляўнічых. На загад каралевы дзіця змясцілі ў наш шпіталь, дзе яго пачалі вучыць французскай мове».

Французскі дыпламат Антуан дэ Грамон, сведка з'яўлення незвычайнага дзіцяці ў сталіцы Рэчы Паспалітай, дапоўніў карціну. Ён пісаў, што праз 6 месяцаў дзіця не вывучыла ані слова з чалавечай мовы і ўмела толькі рыкаць як мядзведзь. Яму было цяжка стаяць на нагах, і больш ахвотна яно хадзіла пазвярынаму. Калі да дзіцяці падвялі гадаванага ў парку мядзведзя, яно прытулілася да яго з вялікай ▶




Слава колішняй «мядзеджай акадэміі» адлюстравалася на **сучасным гербе Смаргоні.**

**«Смаргонская мядзведжая акадэмія»**

жартоўная назва промыслу па лоўлі і дрэсіроўцы мядзведзяў, заснаванага князямі Радзівіламі ў Смаргоні (раней яны называліся Смургонямі). Промысел існаваў з XVII стагоддзя да канца XVIII-га (паводле іншых звестак — аж да задушэння паўстання 1830–1831 гадоў). Метад дрэсіроўкі медзведзянят яўна не ўхвалілі б сённяшнія зоаабаронцы. Звяроў саджалі ў клетку з дном, якое падагравалася. Пераміннанне ног ад болю і называлася танцам, які суправаджаўся ўдарамі бубна. Пазней мядзведзь набываў рэфлекс перабірання нагамі і без падагрэву падлогі — ад адных толькі ўдараў музычнага інструмента. Тады яго ўжо можна было паказваць публіцы. Літоўскі пісьменнік Вітаўтас Місявічус у 1978 годзе выдаў прыгодніцкі раман «Мядзведжая акадэмія», які ў 1988 годзе выйшаў і пабеларуску ў перакладзе Майсея Грынблата. Тэкст гэтай кнігі, сюжэт якой разгортваецца ў другой палове XVIII стагоддзя, сёння даступны і анлайн.



▶ чуллівасцю. Потым яму кінулі вялікі кавалак ялавічыны, і хлопец яго прагна з'еў.

Яшчэ адно сведчанне пра чалавека-мядзведзя пакінуў у сваіх успамінах вядомы мемуарыст той эпохі Ян Хрызастом Пасэк: «А быў там мядзведзік, формай падобны да чалавека, які меў каля 13 гадоў, якога, робячы ў Літве аблавы, Марцін (Марцыян) Агінскі загадаў асочнікам падагнаць да сябе жывым, з немалой для стральцоў шкодай, бо мядзведзі яго зацята баранілі. Асабліва адна вялікая мядзведзіха, якая, відаць, была ягонай маткай. Калі асочнікі яе паклалі [са стрэльбаў], то толькі тады яго і злавілі. Быў ён такім, якім павінен быць чалавек, нават на руках і нагах былі не мядзведжыя кіпцюры, а чалавечыя пазногці. Ад чалавека было толькі тое адрозненне, што ён увесь зарос доўгімі, як у мядзведзя, валасамі, нават над губой. Толькі вочы свяціліся. Пра яго меркавалі па-рознаму. Адныя лічылі, што ён зачаты мядзведзіхай ад мужчынскага семя, а іншыя — што мядзведзіха яго аднекуль скрала немаўляткам і выкарміла грудзьмі, з чаго ён і набыў звярынае падабенства».

Далей Пасэк апісвае забаўны эпізод, калі каралева Луіза Марыя спрабавала накарміць «чалавека-




WIKIMEDIA COMMONS

Постар **беларускага фільма ў жанры «бульба-хорар»** «Масакра» Андрэя Кудзіненкі (2010).



WIKIMEDIA COMMONS

**Каралева Луіза Марыя Ганзага дэ Невер** была француженкай, і менавіта на Францыю арыентаваўся ў замежнай палітыцы яе муж Ян Казімір. Пасля адрачэння ад трону ў 1668 годзе ён з'ехаў на радзіму жонкі. Каралева Луіза спрабавала ачалавечыць літоўскага Маўглі, але не мела ў гэтым вялікага поспеху.

мядзведзя» лупінамі грушы, пасыпаўшы іх цукрам, але той, паспытаўшы, са злосці ўляпіў гэтую «жуйку» ёй паміж вачэй, што вельмі рассмяшыла караля.

Пра здарэнне з незвычайным хлопцам пісалі і многія іншыя іншаземцы, якія знаходзіліся тады ў Варшаве, па-рознаму тлумачачы прычыну гэтай з'явы. Галандскі пасол Бранд дэ Клеверскерк выказаў меркаванне, што, паколькі Польшча і Літва часта цярпяць ад татарскіх нападаў, падчас якіх жыхары паспешліва хаваюцца ў лесе, нейкае дзіця магло быць забытае бацькамі і гэтак зрабіцца здабычай мядзведзяў.

Ад гэтага галандскага дыпламата апавяданне пра «чалавека-мядзведзя» значна пазней трапіла да ірландскага лекара Бернарда О'Конара, які

**Каралева Луіза Марыя спрабавала накарміць «чалавека-мядзведзя» лупінамі грушы, пасыпаўшы іх цукрам, але той уляпіў гэтую «жуйку» ёй паміж вачэй**

ў 1690-х служыў пры двары караля Яна III Сабескага. У 1698 годзе ён выдаў англамоўную «Гісторыю Польшчы» і ў ёй даволі падрабязна пераказаў «мядзведжую гісторыю» — з намёкам на яе пэўную «тыповасць» для Рэчы Паспалітай. Больш за тое, ён нават змясціў арыгінальную гравюру, на якой мядзведзіха выкормлівае чалавечае дзіця разам са сваімі.

З гэтай кнігі вядомая і далейшая гісторыя «чалавека-мядзведзя». Яго ахрысцілі, даўшы імя Юзаф, і быццам бы трохі навучылі гаварыць, хоць голас ягоны паранейшаму больш нагадваў звярыны. На дзвюх нагах ён мог хадзіць, толькі трымаючыся за сцены, але за сталом паводзіў сябе адносна прыстойна. Пра сваё жыццё ў лесе мог успомніць не больш, чым звычайныя людзі пра свой немаўлячы час.

Пасля Юзафа прыставілі служыць пры кухні, выконваць розныя нескладаныя заданні — напрыклад, прынесці вады або дроў. Накшталт таго, між іншым заўважае аўтар крыніцы, «як гэта робяць у нас у Польшчы прыручаныя мядзведзі».

Бядак Юзаф памёр недзе перад 1678 годам, ва ўзросце самае большае 25 гадоў.

### Мядзведзь літвіну сябар

Магчыма, традыцыі прыручэння і дрэсіроўкі мядзведзяў у гістарычнай Літве старэйшыя за дзяржаўнасць ВКЛ — і ўжо дакладна старэйшыя за яе хрышчэнне ў канцы XIV стагоддзя.

## У Налібоцкай пушчы дагэтуль распавядаюць, што дрэсіраваныя мядзведзі дапамагалі будаваць старыя пушчанскія касцёлы

Вялікаму князю Жыгімонту Кейстутавічу гэтая любоў да свойскай мядзведзіхі каштавала жыцця. Выдатна ведаючы пра ягоны давер да ўлюбёніцы, змоўцы ў 1440 годзе ў Троках падманулі




**Медзведзяняты, што гуляюцца перад домам.** Карціны Генрыха Вайсенгофа, «барда Белай Русі», на мяжы XIX–XX стагоддзяў служылі папулярнымі матывамі для паштовак і рэпрадукцый.



**Налібоцкія мядзведзі-будаўнікі.** Малюнак Яніны Ваховіч да кнігі Алеся Белага «Таямніцы Налібоцкай пушчы».

ягоную пільнасць: адзін са змоўцаў, Аляксандр Чартарыйскі, моўчкі падступна паскробся ў дзверы зачыненага пакоя, як мядзведзіха кіпцюрамі, і звычайна асцярожны Жыгімонт неразважліва адчыніў сваім забойцам.

У Налібоцкай пушчы дагэтуль часам распавядаюць легенду, быццам дрэсіраваныя мядзведзі дапамагалі будаваць самыя старыя пушчанскія касцёлы, напрыклад у Дзераўной на Стаўбцоўшчыне. Быццам бы на спіну ім навязвалі кошык і яны рахмана цягалі па рыштаваннях цэглу. На высокіх вежах яе падхоплівалі муляры.

На фоне гэтых легендаў і быляў мядзведзі, што вазілі гасцей Караля Радзівіла Пане Каханку ў Нясвіжы, запрэжаныя ў сані або вазкі, выглядаюць суцэльнай банальшчынай.

Дарэчы, для ўлюбёнага мядзведзя таго ж Пане Каханку, Баруты, балетмайстар Антонія Тызенгаўза стварыў адмысловую балетную партыю. Адно што толькі Пане Каханку заўпарціўся — не захацеў, каб ягоны пястун працаваў на славу канкурэнтаў.

Вось такія карані ў доўгай літаратурнай традыцыі «чалавека-мядзведзя» — выразна літоўска-беларускія. Усіх сакрэтаў даўняга нашага «мядзведніцтва», цьмяныя звесткі пра якое дасягнулі ў свой час Праспера Мерымэ, мы ўжо, мабыць, ніколі не даведаемся. Але гісторыя мастацкага вобразу «чалавека-мядзведзя», хутчэй за ўсё, яшчэ не скончаная, і наступныя пакаленні літаратараў, кінематаграфістаў ды аніматараў яшчэ не раз да яго звернуцца. ◆

### Белыя мядзведзі на Белай Русі

Загадкавая Белая Русь для еўрапейцаў XVII стагоддзя калісьці асацыявалася з... белымі мядзведзямі! Польскі пісьменнік Шымон Старавольскі, дарма што сам нарадзіўся на нашай Пружаншчыне, даводзіў чытачам абсалютна сур’ёзна: «Русь, сумежная і падуладная Вялікаму Княству Літоўскаму, называецца папросту “Белай” таму, што жыхары маюць белы колер і ў старажытныя часы ўжывалі белую вопратку ... а часткова таму, што [зямля там знаходзіцца] доўга пад белым снегам. Але і прырода там наогул белая: ваўкі, мядзведзі і зайцы белыя...»
Як вы самі разумееце, гэта водгулле звестак пра арктычную тундру.

## Венецыя, якая патанае

# «Я забараняю сабе сюды прыязджаць»

**У Венецыі багатае мінулае, зіхоткая сучаснасць і хісткая будучыня. У горад святога Марка вас суправаджае Андрэй Дзмітранок.**

Любыя паралелі ўмоўныя. Але ў дарозе яны напрошваюцца. Венецыя стаіць на 118 астравах — у Беларусі 118 раёнаў. А таксама мы з венецыянцамі аднолькава добра ведаем: жыць на балоце — зусім не метафара.

### Рэспубліка венетаў

Усё пачынаецца ў часы падзення Рымскай імперыі, калі жыхары рэгіёна Венета з-за частых нападаў германскіх і гунскіх плямёнаў сыходзяць у балоты Адрыятычнага мора. Паселішчы венетаў існавалі там і раней, аднак уцекачы з мацерыковых Падуі, Аквілеі, Трэвіза значна павялічылі колькасць прыбярэжнага насельніцтва.

Астравы, якімі мы іх ведаем сёння, збольшага штучныя: у багну забівалі па́лі, праводзілі асушэнне. Людзі вучыліся жыць на вадзе — затое ў бяспецы. Без сельскай гаспадаркі, без жывёлагадоўлі — толькі мора і чалавечая прага жыцця. Пазней венецыянцы вынайдуць, як з пяску выраблюць даражэзнае муранскае шкло, а спачатку здабываюць марскую соль і паспяхова ёй гандлююць. Так зарабляюцца першыя капіталы.

Паступова пашыраючы асартымент, партовая Венецыя


ФОТА АНДРЭЯ ДЗМІТРАНКА

бярэ пад кантроль гандаль паміж Еўропай і Азіяй. Пастаўкі кавы, бурштыну, шоўку, рысу, а галоўнае — усходніх прыправаў, што каштавалі даражэй за золата, прыносяць багацце і ўпэўненасць.

Пасля канчатковага падзення Рымскай імперыі Венецыя перайшла пад кантроль Візантыі, але дэ-факта заставалася незалежнай. Канстанцінопаль у VI стагоддзі гэтак аддзячыў за дапамогу ў вайне супраць остготаў. А ў VIII стагоддзі венецыянцы ўжо не захочуць нават пратэктарату. Мясцовая эліта валодае дастатковымі рэсурсамі, каб утварыць сваю рэспубліку, якая праіснуе цэлае тысячагоддзе.

У Венецыі будзе дзейнічаць прагрэсіўная для таго часу сістэма прадстаўнічай дэмакратыі, дзе права голасу маюць нобіле, а ўлада дожаў (выбарных кіраўнікоў) рэгламентуецца выбарнымі радамі. Нобіле — гэта знатныя людзі, але шляхецкіх тытулаў у Венецыі не існавала, што адрознівала горад ад астатняй Еўропы.

Усё спрыяла Венецыянскай рэспубліцы. Яна — бенефіцыяр гандлёвых плыняў, яна фрахтуе флот для крыжовых паходаў і дамагаецца выгадных мытаў для сваіх караблёў у Канстанцінопалі. Урэшце сама ладзіць крыжовы паход супраць былой метраполіі (1204 год) і ўсталёўвае сваю ўладу ў Канстанцінопалі. З моцных супернікаў ёсць яшчэ Генуя, але канкурэнцыя з ёй хутчэй дапамагае развіццю гандлю і банкаўскай сферы. Венецыя заможная, ёй належаць шматлікія мацерыковыя землі і астравы, ажно да Кіпра, а яшчэ яна становіцца цэнтрам навук і адным з рухавікоў Адраджэння.

Генуя нанясе ўдар нечакана: яе ўраджэнец Хрыстафор Калумб адкрые Амерыку, што абернецца для Венецыі стратай стратэгічнай ролі ў адносінах паміж кантынентамі. Рэспубліка пратрымаецца яшчэ тры стагоддзі, але гэта будзе ўжо час заняпаду і дэкадансу.

15 мая 1797 года апошні дож, Людавік Манін, без бою здаў горад Напалеону. Эпоха рэспублікі прайшла. Але горад застаўся.

### Венецыянская лагуна

Гістарычны цэнтр сённяшняй Венецыі знаходзіцца на 118 астравах Венецыянскай лагуны. Толькі 8% яе плошчы складае суша. Але і глыбокая вада займае адно 11%. Усё астатняе — гэта саляныя балоты і мелі.
Самым наведвальным востравам з'яўляецца аднайменны з горадам, Венецыя, але ёсць і іншыя знакамітыя. Напрыклад, востраў шкла — Мурана. Альбо востраў карункаў Бурана. Ліда рэгулярна рассцілае чырвоную дарожку для Венецыянскага фестывалю. І ёсць Сан-Мікеле — востраў-могілкі, дзе пахаваныя сярод іншых расійскі кампазітар Ігар Стравінскі і нобелеўскі лаўрэат па літаратуры Іосіф Бродскі. Могілкі дзейныя, таму тут забароненая фотаздымка, каб турысты не турбавалі сваякоў памерлых.

### Як найпрасцей дабрацца да Венецыі

Сёння беларусам зручней за ўсё дабірацца ў Венецыю самалётам. Прамых рэйсаў з Мінска няма, аптымальна ляцець з Вільні ў суседні з Венецыяй горад Трэвіза. Кошт квіткоў ад 40 € у абодва бакі. Потым паўгадзіны аўтобусам — і вось яна, *Serenissima* (Найсвятлейшая)!

### Венецыя для адзіноты

Колькі ў Венецыю ні прыязджай, нічога не паспяваеш. Урэшце забываешся на планы і проста вандруеш па горадзе, якім яго пакінулі аўстрыйцы, што валодалі Венецыяй пасля французаў. Семдзесят гадоў акупацыі было дастаткова, каб занядбаць былую раскошу і законсерваваць яе. Але, можа, гэта і добра?

Галоўнае — пасяліцца непасрэдна ў Венецыі, ніякіх кампрамісаў кшталту апартаментаў на кантынентальным Мэстрэ. Там Вы ашчадзіце з дзясятак еўра, але згубіце бесклапотнасць: вам неўзабаве трэба бегчы ▶

▶ на электрычку, не спазніцца, не прапусціць. Гэтыя думкі спаганяць вам вечар і адбяруць ноч, а раніцой замест паўсоннай вылазкі ў кавярню вас чакае вакзал. Пероны, талоны, мітусня і адчуванне, што ты ў гасцях.

Жыць трэба толькі на востраве і начаваць там, хаця б дзеля таго, каб убачыць, як схлыне натоўп, і пасля не казаць: «Быў я там — шмат людзей». Але ці быў ты, калі так? Бо Венецыя — гэта зусім не пра натоўп. Наадварот, у Венецыі добра ў адзіноце ці рамантычнай парай, але ніяк не кампаніяй. Адчуць нешта сваё, а галоўнае — час, што застыў у дэкарацыях мінулых стагоддзяў і нервуе крохкасцю будучыні. Нездарма Томас Ман, Эрнэст Хемінгуэй і Паала Сарэнціна адпраўлялі герояў дажываць свой век у Венецыю.

## Заблукаць у лесе

Не здзіўляйцеся, але Венецыя — гэта лес. Лес не просты — перакулены. Горад стаіць на мільёнах забітых верхавінамі ўніз альпійскіх лістоўніцах. Венецыянцы заўважылі, што драўніна ў забалочанай мясцовасці пад уздзеяннем солі ды глею пакрываецца мінеральнай абалонкай і па працягласці потым не саступае каменю. Толькі адзін касцёл Санта-Марыя дэла Салутэ трымаюць 156 000 паляў. Колькі ўсяго пайшло дрэваў на забудову 118 астравоў, не падлічыць.

Так Венецыя атрымала падмурак з перакуленага лесу. Каменнага, падводнага, але ўсё адно лесу, дзе дзейнічаюць тыя ж законы: у лесе добра ўдзень, а ўначы там цьмяна і няўтульна. Вузенькія вуліцы, што ўдзень адкідаюць цень, з заходам сонца пачынаюць дыхаць клаўстрафобіяй. Нават галоўная плошча Сан-Марка тоне ў цемры.

І, вядома, у лесе губляешся. Навігацыя збіваецца праз шчыльнасць дамоў, што ўрэшце і добра, бо, толькі згубіўшыся, выпадкова можаш натрапіць на майстэрню па рамонце гандол ці ў госці да стваральніка масак. На картах такое не пазначаюць.

Калі ж нешта шукаць, як мы — тэатр Ла Фенічэ, можна бясконца кружляць за 50 метраў ад мэты і не знаходзіць яе. Галоўнае — не баяцца: шэсць раёнаў Венецыі (*sestiere*), рассечаных Гранд-каналам, утульна вас зберагаюць. Венецыя, па сутнасці, адзін вялікі востраў. Паблукаеш — і знойдзеш дарогу.

### Што нельга рабіць у Венецыі

- купацца ў каналах (штраф 500 €);
- карміць галубоў на плошчы Сан-Марка (штраф да 200 €);
- кідаць смецце (штраф да 200 €);
- катацца на роварах (штраф 100 €);
- спаць на лавачцы (штраф 50 €);
- купляць кантрафакт (вялікі штраф, які можа дасягаць нават 10 000 €!);
- хадзіць паміж гранітнымі калонамі святых Марка і Тэадора (гэта нічога не каштуе, але ёсць кепскім знакам).


SHUTTERSTOCK.COM, BY NULLPLUS

## Час раўнавагі

Лічыцца, што світанак — найлепшы час, каб убачыць Венецыю. Маўляў, няма натоўпу, ніхто не замінае — хадзі, фатаграфуй. Сапраўды, горад пусты, і ў гэтым ёсць фальш: бачыш архітэктуру, але не бачыш жыцця.

Усё мяняецца прыкладна а сёмай раніцы, калі раптам зніадкуль з'яўляюцца невялічкія групы: гандальераў, што грымяць фарфоравымі кубачкамі кавы; гандляроў, што на лодках прывозяць тавар; турыстаў, што праспалі світанак.

### Крадзеныя мошчы

Венецыянскія купцы вывезлі мошчы святога Марка з егіпецкай Александрыі, скарыстаўшыся з мусульманскіх забабонаў: падчас праходу мытні мошчы евангеліста прыкрылі свінымі тушамі. Базіліка Сан-Марка была пабудавана адмыслова для захоўвання мошчаў.

ФОТА АНДРЭЯ ДЗМІТРАНКА




**Гандальеры зарабляюць за год каля 150 000 €**, але гэтага недастаткова, каб мець уласнае жытло ў Венецыі.

І гэта зусім іншая Венецыя, у ёй ёсць раўнавага тутэйшага і чужога. Людзі прыносяць эмоцыі, і ты робішся саўдзельнікам. Вітаешся, п'еш каву, сутыкаешся. Я дакладна забуду ўсю архітэктурную венецыянскую драбязу, але хіба забудуся, як сварыўся з гандальерам? Вось ён, найлепшы час для горада на вадзе! Але статус-кво хутка парушыцца, і Венецыя зноў захлынецца ў натоўпе.

## Вада корміць і губіць

А цяпер забудзьце пра лес. Венецыянцы кажуць, што Венецыя — гэта рыба. Паглядзіце на мапе: адзін у адзін камбала. Яна нікуды не спяшаецца, не плыве. Заціснутая ў лагуне, пакорліва дае сабой любавацца.

На трэці дзень знаходжання ў Венецыі ўсё, што звязана з вадой, успрымаецца нормай, а сухапутнае — анамаліяй з чужога жыцця. На чацвёрты дзень купляеш вуду, на пяты — прадаеш рыбу.

Венецыя жыве морам, яна яго слухае. Калі паветра стогне адзінокай сірэнай часоў Другой сусветнай вайны — значыць, вада пойдзе ўгару. Дзве сірэны запар — гэта сур'ёзна. Тры — выносьце святых.

Вада корміць, яна ж губіць, але менавіта ў яе адлюстраванні горад раскрываецца ва ўсёй прыгажосці. Венецыя будаваласяараднымі ўваходамі ў бок каналаў, і на яе правільна глядзець з вады. Гэта дорага. Паўгадзіны прагулкі на гандоле каштуе 80 €, а праплыць на водным трамвайчыку ўздоўж Гранд-канала — 7,5 €. Хто як можа адкрывае Венецыю і яе ▸

## MOSE

Прарок Майсей мог рукамі развесці ваду. Венецыянцы могуць толькі разводзіць рукамі, тлумачачы, чаму праект бар'ераў ад затаплення ніяк не ажыццявіцца. Балазе, праект называецца MOSE, што супадае ў італьянскай мове з іменем прарока. Адметнасць гэтага даўгабуду — карупцыя (затрыманыя мэр, губернатар, бізнэсоўцы), перарасход сродкаў, перанос пачатку эксплуатацыі (апошні тэрмін прызначаны на 2022 год). Ёсць сумневы наконт MOSE і ў эколагаў.

## Венецыянскі кінафестываль

Першы ў свеце кінафестываль быў арганізаваны ў Венецыі ў 1932 годзе па ініцыятыве Беніта Мусаліні. Фестываль у французскіх Канах ствараўся як альтэрнатыва венецыянскаму.

▸ сатэлітаў: востраў Мурана, дзе выробляецца знакамітае шкло, і псіхадэлічных адценняў востраў Бурана.

## Тыповая венецыянская страва: паста з чарнілам каракаціцы. Пасля яе зубы фарбуюцца ў чорны

Асаблівае ў Венецыі стаўленне да колеру. У самым змрочным венецыянскім жывапісе чорны колер быццам свеціцца. Калі навукоўцы зрабілі спектральны аналіз, выявілася, што ў фарбах прысутнічае шкло.

### Венецыя і Скарына

Пры жыцці Францыска Скарыны Венецыя была еўрапейскім цэнтрам кнігадрукавання. Невядома, ці наведваў сам горад наш першадрукар (хоць да Падуі, дзе ён вучыўся, толькі 45 кіламетраў), але што венецыянскі кнігадрук кардынальна паўплываў на творчасць Скарыны — факт, які цяжка абвергнуць. **Падрабязней пра гэта пісала Вольга Шутава ў № 1/2020 «Нашай гісторыі».**

Ці ўзяць тыповую венецыянскую страву: пасту з чарнілам каракаціцы. Абавязкова замоўце. Пасля яе зубы фарбуюцца ў чорны — усім весела, а за суседнім столікам, паглядзеўшы на вас, просяць тое ж самае.

Гэтае месца не баіцца быць розным. Купцы будавалі Венецыю паводле прынцыпу «спрабуем усё, пакідаем лепшае». Атрымаўся новы стыль — венецыянская эклектыка. Жарт, што ў Венецыі ўсё — імпарт, кантрабанда або нарабаванае, толькі пацвярджае, што чужое тут добра прыжываецца. Калоны святых Марка і Тэадора — трафейныя статуі з Сірыі. Блізкаўсходні кракадзіл стаў цмокам, льву прыладзілі крылы і прызначылі сімвалам горада. Тут усе свае.

Ты таксама будзь сваім.

### Пад замок

Горад становіцца прывідам, закладнікам уласнай гісторыі. Цяпер у Венецыі 60 тысяч жыхароў, яшчэ не так даўно было больш за 170 тысяч. Турызм знішчае горад: дамы выкупляюць пад гатэлі, па-за сферай абслугоўвання працу амаль не знайсці, а жыццё ж большае за турызм. Музей хочацца наведваць, але ў ім цяжка жыць.

«Чао, сіньёра!» — я махаю незнаёмай жанчыне. Яна не



ФОТА АНДРЭЯ ДЗМІТРАНКА

Штогод напярэдадні вясны тут праходзіць Венецыянскі карнавал, якому больш за тысячу гадоў. **Калі Напалеон захапіў Венецыю, ён забараніў праводзіць карнавалы, і традыцыя вярнулася толькі ў 1979 годзе.** Венецыянскія карнавальныя маскі робяцца са скуры і пап'е-машэ, а распісваюцца і дэкаруюцца ўручную.

### Муранскае шкло

выробляюць па старажытнай тэхналогіі, гэта адзін з брэндаў Венецыі. Назву яно атрымала ад вострава Мурана, дзе пачало вырабляцца з XIII стагоддзя. На Мурана выраб шкла быў перанесены з самой Венецыі, бо печы і агонь часта прыводзілі да пажараў. У старажытнасці тэхналогія вырабу муранскага шкла трымалася ў строгай таямніцы, раскрыццё якой мусіла карацца турмой або смерцю. Займацца такой вытворчасцю мелі права толькі асобныя людзі, якія перадавалі майстэрства дзецям. У якасці сыравіны выкарыстоўваліся надзвычай чыстыя пяскі з лесу Фантэнбло ў Францыі. Сапраўднае шкло мусіць быць навобмацак прахалоднае, звінець, як крышталь, і не мець аніякіх дэфектаў. Асацыяцыя вытворцаў муранскага шкла ставіць на кожным сапраўдным вырабе адмысловы таварны знак *Vetro Artistico Murano.*

ФОТА АНДРЭЯ ДЗМІТРАНКА

**Зусім іншае адчуванне ад Венецыі — калі начуеш там**

адказвае, глядзіць на мяне цяжкім позіркам. Фатаграфую. Я адзін з гэтай навалачы, што высмоктвае з горада сокі. Але і не наведаць Венецыю я не магу, гатовы ехаць туды ў любы момант.

Горад уратуе толькі забарона на ўезд, гадоў на сорак. Каб за гэты час выраслі новыя пакаленні, якія не бачылі, як праз Сан-Марка плыве круізны лайнер.

Праз акно мяне заўважае жанчына ў халаце і бігудзі. Я хачу, каб яна засталася. Прыхадні не круцяць валасы на бігудзі. Можа, Венецыя тоне, бо яе людзі — паплаўкі, і з ад'ездам кожнага венецыянца яна апускаецца ўсё ніжэй?

Мы гуляем, губляемся, выходзім на маленькую плошчу-пьяцэту. Калі Венецыя гучыць морам, то мы, турысты, — гукам чамаданных колцаў. А тут ні таго, ні другога. Толькі спёка ў паветры і ціха грукае малаток. У краме аўтарскіх лялек нешта майструе жанчына. Відаць, яе гільдыя яшчэ не адплыла на вялікую зямлю. Я забараняю сабе фатаграфаваць.

Я забараняю сабе сюды прыязджаць. ◆

### Венецыянская школа

Прадстаўнікамі венецыянскай школы жывапісу былі Джавані Беліні, Тыцыян, Тынтарэта і Віторэ Карпача — той самы, у гонар якога назвалі страву з марожанай ялавічыны. Карпача яшчэ называюць апявальнікам Венецыі за ўважлівасць да дэталяў і падбор сюжэтаў з венецыянскай штодзённасці канца XV – пачатку XVI стагоддзяў.


SHUTTERSTOCK.COM, BY BORISKA220

### Карпача

Гэтую каронную венецыянскую страву распрацаваў кухар Джузэпе Чыпрыяні для графіні Мачэніга, якой доктар забараніў есці тэрмічна апрацаванае мяса. Яна названая ў гонар любімага мастака графіні, Віторэ Карпача. Рэцэпт: 200 г ялавічнай выразкі загарнуць у плёнку і злёгку падмарозіць. Нарэзаць тонкімі лустачкамі, выкласці ў адзін слой на плёнку, спырснуць аліўкавым алеем, накрыць плёнкай, злёгку адбіць. Перакласці на талеркі тонкім слоем, папярчыць, пасаліць, пасыпаць дробна нацёртым сырам, спырснуць алеем. Падаваць з рукалай і лімонам.

# Акупаваная Беларусь вачыма нямецкага генерала

**Летам 1941 года разам з іншымі падраздзяленнямі вермахта нямецка-савецкую мяжу перайшоў і 43-ці пяхотны корпус пад камандаваннем генерала Готхарда Хейнрыцы. Гэты военачальнік праваяваў на Усходнім фронце то як франтавы афіцэр, то як штабны спецыяліст ад самага пачатку да канца вайны. Падчас гэтай кампаніі ён амаль штодзень пісаў лісты дадому і вёў дзённік, запісваючы тое, што бачыў вакол сябе. У 2016 годзе ягоныя лісты і нататкі ўпершыню апублікаваныя ў Нямеччыне, а ў мінулым годзе выйшлі на рускай мове, забяспечаныя падрабязнымі каментарамі гісторыкаў. Пра тое, якой Хейнрыцы пабачыў Беларусь, піша гісторык Аляксандр Гелагаеў.**




**Пад Заслаўем.** Нямецкая пяхота праходзіць «лінію Сталіна». 1941 год.

### Генерал вермахта, які не быў членам нацысцкай партыі

Якім чалавекам быў генерал Готхард Хейнрыцы? Супярэчлівым — як па рысах характару, так і па палітычных перакананнях. Генерала не варта ідэалізаваць, бо ў ягоных лістах ды нататках можна заўважыць і антысемітызм, і стаўленне да любога ненямецкага насельніцтва як да менш культурнага. Успрымаў ён гэтае насельніцтва толькі як рэсурс для забеспячэння нямецкіх патрэб, нават як частку навакольнага пейзажу, якой для ўласнага выратавання лепш проста не замінаць вермахту ісці наперад і эксплуатаваць сябе. Таму і не дзіўна, што пры патрэбе ён дазваляў сваім салдатам ісці на самыя жорсткія меры ў «барацьбе з партызанамі». А да колькіх бязвінных ахвяраў з ліку мірнага насельніцтва гэта прывяло — добра вядома.

У той жа час не быў і звычайнай гітлераўскай пешкай без уласнай думкі. Некаторыя ягоныя погляды ішлі яўна ўразрэз з лініяй нацысцкага кіраўніцтва, і менавіта таму, відаць, ён, будучы эфектыўным военачальнікам, так і не атрымаў найвышэйшага вайсковага звання ў Трэцім рэйху — генерал-фельдмаршала. Генерал быў перакананым вернікам-лютэранінам і рэгулярна наведваў царкву. Такая рэлігійнасць і ў тагачаснай Германіі не надта віталася. Але самае галоўнае — Хейнрыцы адмовіўся ўступаць у нацысцкую партыю.

Часта з'едлівыя і вельмі натуралістычныя лісты ды нататкі генерала Хейнрыцы фіксуюць даволі выразную карціну жыцця нямецкіх вайскоўцаў і цывільнага насельніцтва на

акупаванай вермахтам тэрыторыі. З іх мы бачым, наколькі тыя дні былі напоўненыя гвалтам, бязлітаснасцю і штодзённымі трагедыямі.

Трэба сказаць, што для Хейнрыцы гэта было не першае наведванне Беларусі: у гады Першай сусветнай вайны ён таксама служыў на Усходнім фронце. Але Другая сусветная для яго не ішла ні ў якое параўнанне з Першай. Новую вайну ён неаднаразова параўноўвае з Трыццацігадовай, якая ў XVII стагоддзі спустошыла ўсю Цэнтральную Еўропу.

Праўда, агульнае знаёмства з беларускімі ўмовамі чыста з вайсковага пункту гледжання не спалучалася ў Хейнрыцы з асаблівай абазнанасцю ў нацыянальнай спецыфіцы рэгіёна. У гэтым плане ён не вылучаўся сярод сваіх калег. Дастаткова сказаць, што генерал увогуле амаль што не выкарыстоўвае слова «Беларусь». Галоўным маркерам адрознення розных тэрыторый для Хейнрыцы выступае польска-савецкая мяжа 1939 года. На захад ад яе, паводле ягоных уяўленняў, месцілася хай сабе і спецыфічная, але Польшча, на ўсход жа пачыналася «сапраўдная Расія».

### 1941-ы. Ваенныя дзеянні, савецкія салдаты і партызаны

Першапачатковае знаходжанне Готхарда Хейнрыцы на тэрыторыі Беларусі было хуткацечным. Нямецкі бліц-крыг імкліва развіваўся, фронт хутка прасоўваўся наперад, і ўжо праз два месяцы ўся Беларусь была цалкам акупаваная. Але генерал фіксуе свае ўражанні ад таго, што адбываецца, вельмі актыўна і падрабязна:

**23 чэрвеня 1941 года, Медна:** «Учора нам супрацьстаяла руская дывізія, якую мы заспелі цалкам знянацку, а затым разбілі яе. Масы салдат бадзяюцца паўсюль па бязмежных лясах, сядзяць на незлічоных хутарах, часта страляюць нам у спіну... Таму нашыя хлопцы праводзяць зачысткі жорстка, без літасці... Паўсюль нашы хлопцы забіраюць у сялян коней для нашых падвод, што выклікае ў вёсках плач і крыкі. Вось так “вызваляюць” насельніцтва. Але нам патрэбныя коні, а сяляне, магчыма, атрымаюць потым нейкія грошы. Мы нарэшце дасягнулі ракі Лясная ў Белавежскай пушчы».

**5 ліпеня 1941 года, Лыскаў:** «Расійскія салдаты не выглядаюць перакананымі бальшавікамі. Палонныя ў асноўным скардзяцца на дрэннае харчаванне і на тое, што начальства з імі дрэнна абыходзілася. Зразумела, што ў рэчаіснасці народнага адзінства не існуе. Паколькі камісары не даюць салдатам дэзерціраваць і прымушаюць ісці ў бой пад дулам пісталета, салдаты ў адказ б’юць камісараў да смерці».




**Генерал Готхард Хейнрыцы.**

**6 ліпеня 1941 года, Косава:** «Рускія, што былі проста перад намі, зараз знішчаныя. Пачварна крывавая бітва. У некаторых выпадках мы не давалі ім аніякай літасці. Рускія па-звярынаму абыходзіліся з нашымі палоннымі. У адказ нашыя хлопцы страляюць і забіваюць усё, што носіць карычневую ўніформу. Бясконцыя лясы дагэтуль поўныя салдат з разбітых дывізій і ўцекачоў, некаторыя з іх няўзброеныя, некаторыя ўзброеныя, і яны неймаверна небяспечныя. Нават калі мы накіроўваем дывізіі прачэсваць гэтыя лясы, дзясяткам тысяч удаецца пазбягаць палону, хаваючыся ў непралазных лясах.

**13 ліпеня 1941 года, Слуцк:** «Кожны дзень усё гарачэй і цяжэй. Есці не хочацца, толькі піць. Па магчымасці мы рухаемся з войскамі толькі вечарам і ноччу. Удзень вытрымаць проста немагчыма. Сёння нагэтулькі нясцерпная спёка, што нават пісаць лісты ледзь вытрымліваеш. Сонца амаль не паказваецца, але стварае ў паветры такую цяжкасць, што няма магчымасці і жадання хоць што-небудзь рабіць...

Цяпер пачынаецца гэтая праклятая вайна супраць бандаў, і нам прыйдзецца зачышчаць лясы...»

**30 ліпеня 1941 года, Бабруйск:** «Вораг насупраць нас — на здзіўленне актыўны і моцны. Ужо на світанку ён, хоць і не поўнай сілай, атакаваў 134-ю дывізію. 75 перабежчыкаў перайшлі на наш бок праз некалькі гадзін. Немагчыма зразумець: заўсёды адно і тое ж. У цэлым рускі ваюе з фанатычнай ▶

упартасцю. Але кожны паасобку падкрэслівае сваю стомленасць ад вайны, сваё жаданне перабегчы, сваю нянавісць да камісараў, якія прымушаюць ісці ў бой пад дулам пісталета. Гэтыя дзве пазіцыі цяжка аб'яднаць».

**1 жніўня, Бабруйск:** «Мы штодзённа назіраем, як каля 100 чалавек перабягаюць на наш бок. Можа, аднойчы, калі простыя салдаты больш не захочуць змагацца, уся лавачка разам абрынецца. Пакуль яны распавядаюць, што не хочуць ваяваць, але іх прымушаюць камісары. Гэта ўсё неяк бянтэжыць. Жудасная энергія бязлітасна мабілізуе ўсе сілы і без шкадавання пасылае салдат у бой...»

**9 жніўня, Парычы:** «Вораг, які нам супрацьстаіць, з якім было столькі мітусні, нарэшце цалкам разбіты, у яго засталося зусім мала сілаў. Нам нават удалося захапіць дзве расійскія штабныя машыны з іхнім дывізійным пісарам. Дзяўчына-машыністка ў блакітнай спадніцы і белай кашульцы збегла ў апошні момант. Пісар распавёў нам, што некалькі дзён таму камандзіра іхняй дывізіі разжалавалі за памылкі камандавання і паслалі камандаваць адным з палкоў ягонай былой дывізіі... Заўтра нас чакаюць новыя бітвы. Рускі, аднак, вельмі пабіты. Проста цуд, што ён раз за разам знаходзіць сілы для супраціву, нягледзячы на панесеныя страты... Да нас перабягалі ўжо цэлымі ротамі».

## 1941-ы. Мясцовае насельніцтва: як жыве і чым дыхае

**5 ліпеня 1941 года, Лыскава:** «Мы атабарыліся ў аптэцы, якая належыць старому габрэю. Ён рады, што бальшавікоў пагналі. Відавочна, што яны вельмі дрэнна ставіліся да людзей, у якіх была ўласнасць. Мы праязджалі праз некалькі маёнткаў. Усіх уладальнікаў бальшавікі знішчылі, гаспадаркі заняпалі, разбураныя, закінутыя і ўвогуле ў жахлівым стане. Іх выкарыстоўвалі ў якасці баракаў для рабочых ці часовага жылля».

**6 ліпеня 1941 года, Косава:** «Сталін аддаў адступаючым войскам загад знішчаць усё, што мы маглі б выкарыстаць. Таму ізноў усё спальваецца, як у часы Напалеона і ў нейкай ступені як у 1915 годзе. Згодна з аповедам майго начальніка генерал-палкоўніка Вайхса, у Менску, горадзе, дзе жывуць 200 000 чалавек, усё спалена, засталіся толькі два пампезныя савецкія будынкі. [Насамрэч, гэта быў вынік бязлітасных нямецкіх бамбаванняў. Глядзіце «Наша гісторыя» 7/2019. Паказальна, што нават генерал не ў курсе гэтага.]. У Косаве, дзе мы раскватараваліся, засталася толькі траціна дамоў. Чырвоныя камісары спалілі цэнтр горада. Насельніцтва, напэўна, наелася гэтага ўжо па горла — гэта для іх чацвёрты раз пачынаючы з 1915 года!»

**11 ліпеня, Капыль:** «Цяпер мы ў сапраўднай Расіі. Капыль — назоў сённяшняй вёскі. Усё ў стане жахлівага заняпаду. Знаёмімся з набыткамі бальшавіцкай культуры. Мэбля вельмі прымітыўная. Мы звычайна жывём у пустых памяшканнях... Цэрквы выкарыстоўваюцца ў якасці залаў для палітычных сходаў. У кожнай вёсцы ёсць вялікія партыйныя будынкі, у якіх Сталін і Ленін ушаноўваюцца як улюбёнцы народа, дзяцей, жанчын, працоўных, салдат і гэтак далей. У гарадах на кірмашовым пляцы ў цэнтры звычайна стаіць цэментны помнік Сталіну, які на ім вельмі нагадвае старога Гіндэнбурга. Крамаў няма. Сяляне павінны працаваць на грамадства: яны атрымліваюць траціну ўраджаю прадуктамі (натурай) і 80 рублёў у год. Кілаграм мяса каштуе 36 рублёў!



**Нямецкі жаўнер з дзіцем.**
Здымак салдата вермахта, які ваяваў у паўночна-ўсходняй Беларусі.




**Нямецкага жаўнера стрыгуць насупраць Дома ўрада ў Мінску.** Жнівень 1941 года, на будынку яшчэ не паспелі прыкрыць герб БССР — гэта зробяць пазней. Але над ім ужо вісіць сцяг СС. Аўтар фота — асабісты фатограф Адольфа Гітлера Вальтэр Фрэнц, які суправаджаў падчас паездкі ў Беларусь рэйхсфюрара СС Генрыха Гімлера. Гэты фатограф, які быў адной з ключавых фігур візуальнай прапаганды Трэцяга рэйху, дажыве ажно да 2004 года, а пра ягоную смерць напішуць вядучыя СМІ свету.

Таксама ў якасці платы за працу кожнаму таварышу даваліся нейкія рэчы, якія ён атрымліваў на дзяржаўным складзе, які ёсць у любым горадзе: мыла, цыгарэты, шкарпэткі, адзін касцюм на год! Гэткі савецкі рай. Ніхто не асмельваецца гаварыць адкрыта. Усе баяцца размаўляць. Пятнаццацігадовых дзяцей забіралі з хаты і адпраўлялі працаваць у шахтах недзе на Доне. Гэтыя дзеці ніколі больш не чулі пра свае сем'і, і наадварот.

**На вышыні 600 метраў — прыгажосць. Від узрушвае: бясконцыя лясы, як смаўжы, выгінаюцца рэкі, унізе цацачныя калоны, якія маршыруюць.**

Некаторых з іх, якія сталі цяпер салдатамі, мы захапілі ў палон. Цяпер мясцовае насельніцтва спадзяецца вызваліцца з прыгнёту. Але дрэнна тое, што мы не можам паразумецца з імі. Адсюль шматлікія памылкі».

**13 ліпеня, Слуцк:** «Учора лётаў у Менск. На вышыні 600 метраў — прыгажосць. Від узрушвае: бясконцыя лясы, як смаўжы, выгінаюцца рэкі, унізе цацачныя калоны маршыруюць. У Менску, які напалову разбураны, ацалела толькі некалькі шматпавярховых савецкіх палацаў, будынак гаўляйтара, будынак універсітэта, дом Чырвонай арміі. Фанабэрыстыя непрыгожыя палацы, усе завешаныя карцінамі, якія ўсхваляюць Сталіна, Леніна, Калініна і іншых бонзаў...

Усе цэрквы тут, у сапраўднай Расіі, знішчаныя. Са званіцаў знятыя крыжы. Мясцовая слуцкая грэка-каталіцкая царква знішчаная. З яе цаглінаў на гэтым жа месцы будуецца дом гаўляйтара. Рыма-каталіцкая царква была пераўтвораная ў завод па разліве мінеральнай вады. Пратэстанцкую царкву далучылі да фабрыкі. Наколькі мы пакуль бачылі, усе храмы ў вёсках пераробленыя ў пажарныя дэпо ці склады. Ці сыдзе гнеў Госпада на гэтых знішчальнікаў?»

**1 жніўня 1941 года, Бабруйск:** «Усё тут вельмі прымітыўнае. Бабруйск, горад з насельніцтвам у 91 000 чалавек, з якіх вялікая частка эвакуіравалася, — брудная дзірка, якая ў асноўным складаецца з драўляных будынкаў. Цэнтральная вуліца нагадвае *Nasser Garten* у Кёнігсбергу. Хаты голыя. У людзей нічога няма, таму што ў іх усё адабралі за апошнія 20 гадоў. Нашыя перакладчыкі кажуць нам, што людзі шчаслівыя, што немцы прыйшлі. Няма ніякіх сумневаў, што для ўсяго свету будзе дабром, калі бальшавізм, ягоныя метады і ўплыў будуць сцёртыя з твару зямлі. Гэта жах. Але гэтая пачвара шалёна сябе абараняе».

**Пячары, 23 жніўня 1941 года:** «Гарады цалкам спаленыя. ▸

▶ Мы стаім лагерам — нельга назваць гэта “жывём” — у вельмі бязрадасных вёсках. Сёння я кватарую ў класе, таму што самыя чыстыя будынкі звычайна — гэта школы. Усе хаты ў стане поўнага занядбання. Са слоў жыхароў, яны спецыяльна імкнуліся зрабіць усё знешне непрыгожым і бедным, каб іх не пераследавалі за тое, што яны кулакі».



Звярніце ўвагу, што раней жанчыны не выходзілі на людзі **без хусткі.**

### 1943–1944-ы. Насельніцтва антынямецкае, партызаны на ўздыме

Наступныя два гады генерал Хейнрыцы ваяваў па-за тэрыторыяй сучаснай Беларусі, а вярнуўся ў яе толькі восенню 1943-га, калі ход ваенных дзеянняў на фронце прымусіў немцаў ужо не імкліва наступаць, а з баямі адступаць, пакідаючы раней захопленыя тэрыторыі. І пабачыў генерал ужо зусім іншую Беларусь, дзе настроі насельніцтва ўжо ў значнай ступені антынямецкія і дзе няўзброеным вокам заўважны выбуховы рост савецкай партызанскай актыўнасці.

**За нашымі спінамі ўжо не проста партызаны, а паўстае амаль уся краіна**

**18 кастрычніка 1943-га:**
«На жаль, цяпер па вечарах нельга так проста паразмаўляць з Расіі з Райхам, таму што з 20.00 усе лініі сувязі выводзяцца са строю пры дапамозе выбухаў ці сабатажу, а аднавіць іх атрымліваецца толькі раніцай. За нашымі спінамі ўжо не проста партызаны, а паўстае амаль уся краіна. Некаторы спакой пануе толькі ў раёне фронту, таму што там шмат салдат. Ніхто з мясцовага насельніцтва больш не верыць у нашу перамогу. З-за гэтага яны ўсе хочуць стварыць сабе алібі, патрэбнае пры вяртанні чырвоных, і займаюцца варожай для Нямеччыны дзейнасцю».

**20 студзеня 1944-га:**
«Пры начной прагулцы ў раёне нашай сарціравальнай станцыі я бачыў вакол сябе, практычна як узімку 1941/42 гадоў, мігаценне святла асвятляльных ракет. На ўсходзе яно ішло ад фронту, на захадзе ад частак, якія ахоўваюць мясцовасць ад партызан. Раён вакол Магілёва асабліва забруджаны. Нядаўна ў Менску адбылося абсалютна неверагоднае здарэнне: адзін прыбылы ў нямецкай форме з Рыцарскім крыжам і мноствам пасведчанняў афіцэр хацеў забіць буйнога чына СС у ягоным кабінеце*. У апошні момант злачынцу здрадзілі нервы. Акрамя ручных гранат і выбухоўкі, у ягонай кішэні быў рэвальвер з кулямі, зробленымі па тыпе разрыўных, якія ўтрымлівалі моцную атруту».

Хейнрыцы ваяваў на Усходнім фронце практычна да апошняга дня вайны, хоць у канцы ўжо і не верыў не толькі ў перамогу, але нават у прымальны для Нямеччыны мір. Да мая 1948 года ён быў у брытанскім палоне, даваў паказанні на Нюрнбергскім трыбунале, але сам пад суд не патрапіў. У 1950-я пісаў працы па гісторыі вермахта для Узброеных сіл ЗША. Да самай смерці ў 1971 годзе былы генерал даваў інтэрв'ю гісторыкам і публіцыстам, у якіх старанна імкнуўся дыстанцыявацца ад Гітлера і нацызму. ◆

* Маецца на ўвазе спроба забойства групенфюрэра СС Курта фон Готберга завербаваным савецкай разведкай нямецкім ваеннапалонным Фрыдрыхам Аўгустынам.




Мясцовую яўрэйскую сям'ю жыхары палескай вёскі Ліпляны памятаюць і праз 80 гадоў

ФОТА ВОЛЬГІ ІВАНОВАЙ

# «Гэта ж кожнаму страшна, відаць, смерць...»

**У 1930-я гады ў Ліплянскай прыгараднай гаспадарцы на Палессі, якой кіраваў Янкель Готліб, вырошчвалі кавуны. У вайну яўрэйская сям'я Готлібаў загінула, а іхняя магіла стала месцам калектыўнай памяці. Піша кандыдатка гістарычных навук Вольга Іванова.**

У № 9/2019 «Нашай гісторыі» ў артыкуле «Гадамі хавалася ў лясах, каб зноў не саслалі» расказвалася гісторыя вялікай заможнай сям'і млынароў Ранчынскіх з вёскі Ліпляны пад Лельчыцамі, якую ў 1930-я гады панішчылі і расцярушылі па свеце калектывізацыя і сталінскія рэпрэсіі. Тут жа гаворка пойдзе пра лёс іншай мясцовай сям'і — яўрэяў Готлібаў, для якіх катастрафічным стаў пачатак ужо наступнага дзесяцігоддзя.

### Прадпрымальнік і кіраўнік

Ліпляны месцяцца ўсяго за 4 кіламетры ад Лельчыц, цяперашняга райцэнтра на паўднёвым захадзе Гомельскай вобласці. Лельчыцы былі мястэчкам, а таму ў іх, як і ў любым іншым беларускім паселішчы такога тыпу, жыло шмат яўрэяў. Былі тут і кагал, і малітоўны дом. У суседніх жа Ліплянах яшчэ ў 1920-я гады прысутнасць яўрэяў была хутчэй сімвалічнай: тут жылі толькі тры яўрэйскія сям'і.

У канцы 1920-х – пачатку 1930-х, часы суцэльнай калектывізацыі, у Ліплянах з'явілася яшчэ адна яўрэйская сям'я — Янкеля Готліба. Акрамя самога гаспадара, яна складалася з ягонай жонкі Шыфры, якую мясцовыя жыхары называлі Зінаідай, і трох дзяцей: дваіх сыноў і адной дачкі.

Готлібы пастаянна жылі ў Лельчыцах, але Янкель быў кіраўніком т. зв. «прыгараднай гаспадаркі», якая знаходзілася ў Ліплянах. Тут вырошчвалі капусту, памідоры, моркву, буракі, агуркі, цыбулю, клубніцы і нават экзатычныя для таго часу кавуны. ▶

Гаспадарку і яе кіраўніка дагэтуль памятаюць цяперашнія вяскоўцы. Постаць Янкеля Готліба ў памяці ліплянцаў спалучае і тыпізаваныя рысы яўрэя-прадпрымальніка, і арыгінальнае ўспрыняцце яго як кіраўніка-пана. Згадваюць, што вырашчаная ў гаспадарцы прадукцыя адпраўлялася нават у Ленінград. Янкель разбіраўся не толькі ў сельскай гаспадарцы, але і ў іншых галінах эканомікі, таму, як кажуць вяскоўцы, «у наш час быў бы вялікім бізнэсменам». Успаміны пра яго і ягоную сям'ю надзвычай цёплыя і душэўныя: вяскоўцы сябравалі з Готлібамі і высока цанілі гаспадарчыя здольнасці Янкеля.

Перад самай вайной ужо дарослы старэйшы сын Янкеля і Шыфры, імя якога ніхто з вяскоўцаў ужо не памятае, быў прызваны ў войска і стаў лётчыкам. З бацькамі засталіся двое малодшых дзяцей: шаснаццацігадовая дачка Хана, якую і цяпер згадваюць як даўгакосую неймаверную прыгажуню, і дванаццацігадовы сын Майсей, якога па-вясковаму называлі Муся.

## Дзве расправы

Улетку 1941 года пачалася вайна, і неўзабаве ў Лельчыцы і Ліпляны прыйшлі немцы. З самага пачатку ў іх планах было поўнае фізічнае вынішчэнне яўрэйскага насельніцтва.

Першыя масавыя расстрэлы яўрэяў у Лельчыцах адбыліся 4 верасня 1941-га. У той дзень нямецкія салдаты сагналі ў двор былога НКВД і раённага Дома культуры каля 700 яўрэяў, у тым ліку і тыя сем'і, што ўцяклі сюды з суседняга Тураўскага раёна. Пасля іх пагналі ва ўрочышча Загор'е. Там яўрэяў прымусілі выкапаць глыбокія ямы, а пасля ставілі тварамі да іх і расстрэльвалі. Для закопвання магілаў спачатку пакінулі 15 чалавек, але пасля расстралялі і іх. Усяго, паводле нямецкіх справаздач, тады загінула больш за 720 чалавек.

### Ліплянцы пра расправу над яўрэямі

**Клаўдзія Лось:** Гэта ж паедуць недзе і ў Тураў, і ў Петрыкаў. Ды папрывозяць на гару, пад Лельчычы, ды там білі. І тут было чутно, як бедненькія вішчалі, як іх расстрэльвалі. Я то не бачыла, але чутно было. Крык. Гэта ж кожнаму страшна, відаць, смерць.

**Іван Лось:** Жыдоў памятаю каторых. Вот быў такі Гірма і Гідка. Хаваліся доўга яны. А потым аднаго разу прыйшлі там к аднаму... Есці ж хочуць. Ён даў ім паесці. А жонка пайшла ды заявіла каменданту паліцыі. Такі быў у нас, Самойла Хілько. Гадасць такая! І яны забралі і расстралялі іх.



ФОТА ВОЛЬГІ ІВАНОВАЙ

**Янкель і Шыфра (Зінаіда) Готлібы.** Фотаздымак з помніка на пахаванні.

## Адчайныя крыкі ахвяраў разносіліся далёка навокал

Пра ўсё гэта добра ведалі ліплянцы. Паводле сведчання адной з іх, Клаўдзіі Лось, яна сама, хоць і не бачыла расстрэлаў на ўласныя вочы, чула адчайныя крыкі ахвяраў — яны разносіліся далёка навокал. Магчыма, гэта ўсяго толькі дзіцячая інтэрпрэтацыя тых падзей, бо Загор'е знаходзілася далёка ад Ліплян. Але, несумненна, жыхары вёскі ведалі пра тое, што адбывалася, пераказвалі адзін аднаму і глыбока перажывалі гэтую трагедыю. Іван Лось

прыгадваў, што пасля вайны з той гары бралі пясок для падсыпання вуліц і ў тым пяску нібыта знаходзілі залатыя рэчы, што былі ў кішэнях забітых яўрэяў.

Увосень таго ж 1941 года ў Лельчыцах арганізавалі гета, куды сабралі рэшту ацалелых яўрэяў з усяго Лельчыцкага раёна. Вясной 1942-га, калі тут набралася каля 200 чалавек, расстралялі і іх.

**У адной з апусцелых яўрэйскіх хат дзяўчаты панабіралі прыгожых гузікаў, але бацькі насварыліся на іх і загадалі адразу ж занесці ўсё назад**

Калі ўлічыць ахвяр першага расстрэлу, то ў Лельчыцах у тыя месяцы загінула каля тысячы яўрэяў. Для жыхароў прылеглых Ліплян гэта быў час этычнага выбару і перажывання маральнай траўмы, якая захавалася нават ва ўспамінах пасляваеннага пакалення. Ніне Лось маці расказвала, што пасля знішчэння яўрэяў яны з сяброўкай пайшлі ў Лельчыцы паглядзець на пакінутыя яўрэйскія хаты. У адной з іх дзяўчаты панабіралі прыгожых гузікаў, але бацькі, пабачыўшы, насварыліся на іх і загадалі адразу ж занесці ўсё назад.

### Як загінулі Готлібы

Сям'і Янкеля Готліба спачатку пашчасціла ацалець. Падчас першай аблавы Готлібы збеглі з Лельчыц у Ліпляны і тут хаваліся каля месяца — па розных звестках, ці да канца верасня, ці да пачатку кастрычніка 1941-га. Спрыяць ім было небяспечна, бо за дапамогу яўрэям расстрэльвалі. Але некаторыя ліплянцы ўсё ж рызыкавалі і дапамагалі няшчасным, як, напрыклад, маці пяцярых дзяцей Хрысціна Лось. Не толькі Готлібам, але і некаторым іншым яўрэям, што здолелі ўцячы з Лельчыц.

Але выратавацца сям'я Готлібаў усё ж не здолела. Іх гібель у памяці ліплянцаў звязваецца з дзеяннямі паліцэйскіх. Па адной версіі, апошнія былі мясцовымі, па другой — паходзілі з вёскі Дуброва, а па трэцяй — былі прышлымі ўкраінцамі, што жылі ў гэтай мясцовасці яшчэ да вайны.

Часам гавораць, што паліцэйскія толькі схапілі сям'ю Готлібаў і перадалі немцам. Апошняе, аднак, малаверагодна: карны атрад войскаў СС, які знішчаў лельчыцкіх яўрэяў у пачатку верасня, да канца месяца ўжо змяніў месца дыслакацыі. У той жа час у Лельчыцах пачало ствараца гета, куды Готлібы, несумненна, спачатку патрапілі б, каб іх сапраўды перадалі немцам.

Насамрэч, як выглядае, падзеі развіваліся вельмі імкліва. Готлібы ратаваліся ўцёкамі ў бок Лельчыцаў, але пераследнікі нагналі іх ужо каля самага мястэчка. І на тым самым месцы, дзе злавілі, іх і расстралялі. Відаць, была нейкая прычына для такіх спешных дзеянняў: ці то каты былі раззлаваныя пагоняй, ці то спадзяваліся на матэрыяльную выгаду. Пра гэта мы, відаць, ужо не даведаемся, як не высветлім таксама, кім дакладна былі тыя забойцы.

Пра абставіны ж расстрэлу захаваліся ўспаміны. Некаторыя бачылі ўсё з недалёкага лесу і пазней расказвалі іншым. Кажуць, што старэйшых Готлібаў прымусілі капаць сабе магілу. Спачатку расстралялі бацькоў, а потым дзяцей. Па адной з версій, у дзяўчынкі ад страху здарыўся сардэчны прыступ і яна ўпала ў магілу сама.

### Ліплянцы пра гібель Готлібаў

**Лідзія Дрэвіла:** Маці бачыла, як іх вялі. Як расстрэльвалі. Усё бачыла. З вёскі нашай паліцаі расстрэльвалі іх. Готлібы самі сабе ямку капалі. Маці гаворыць: «Мы баяліся — так у хляве праз шчолку глядзелі. Расстралялі бацькоў, а дзяўчынка і хлопчык упалі туды ў ямку, проста як жывыя».

### Зорка Давіда на месца чырвонай

Старэйшы сын Янкеля і Шыфры ў час гэтай трагедыі быў на фронце. Ён служыў у авіяцыі, прайшоў праз усю вайну і застаўся жывы. У 1950-я ён паставіў помнік на месцы расстрэлу сваёй сям'і, зрабіўшы надпіс: *«Погибли. Сентябрь 1941 г. Готлиб Я. Х., Готлиб Х. Я., Готлиб Ш. А., Готлиб М. Я. Всегда скорблю и помню. Ваш сын и брат»*. Некалькі разоў ён прыязджаў у Ліпляны і пасля таго.

А пахаваннем гэтым, якое знаходзіцца ва ўрочышчы Ельe ў лесе паміж Ліплянамі і Лельчыцамі, з таго часу пачалі апекавацца вучні і настаўнікі Ліплянскай школы. Першапачаткова ўверсе на помніку была пяціканцовая чырвоная зорка. Але не так даўно гэты знак знік, а пад памятным надпісам з'явілася шасціканцовая жоўтая зорка Давіда. ▸

Месца пахавання Готлібаў, як і сама гісторыя гэтай сям'і, сталі часткай калектыўнай памяці ліплянцаў. Лідзія Мешчанка прыгадвала: «Мая мама пры жыцці мне, можа, 20 разоў гэта расказвала. І ўсе суседкі. Сядзяць на вуліцы і заўсёды вось гэта расказвалі. І я так запомніла. Памятаю ўсё гэта слова ў слова».

Трагедыю мясцовага яўрэйскага насельніцтва ліплянцы ўспрынялі вельмі блізка да сэрца. Верагодна, што менавіта яна змяніла стаўленне вяскоўцаў да нямецкай улады: ад асцярожнага чакання напачатку да разгортвання пэўнага супрацыву і падтрымкі партызанскага руху пасля. Гэтыя ж падзеі падзялілі вяскоўцаў на тых, хто хаваў, дапамагаў і спачуваў яўрэям, і тых, хто так ці інакш спрычыніўся да іх гібелі.



ФОТА ВОЛЬГІ ІВАНОВАЙ

**Памятны знак на месцы масавага яўрэйскага пахавання ў былым урочышчы Загор'е.** Цяпер новы мікрараён горада Лельчыцы. Пастаўлены ў пачатку 2000-х.

Адметна, што пахаванне Готлібаў для ліплянцаў стала месцам памяці яшчэ ў савецкія часы, у той час як месцы масавых расстрэлаў у Лельчыцах доўгі час былі цалкам занядбаныя. ◆

Больш пра гэта чытайце ў кнізе Вольгі Івановай **«Ліпляны. Біяграфія і штодзённасць беларускай вёскі»**, якая нядаўна выйшла ў выдавецтве «Галіяфы».




# Ероховец, Яроховец, Ерахавец

## Як беларуская гаворка ўплывала на пахавальны правапіс

**У XIX і XX стагоддзях беларускім хрысціянам ставілі помнікі пераважна на мовах пануючых нацый — рускай і польскай. Аднак калі добра прыгледзецца да подпісаў, можна заўважыць і выразны ўплыў мовы штодзённых зносін — беларускай. Сваімі назіраннямі з двух вясковых могілак дзеліцца Юрый Тамковіч.**

### Уручча

Я ўсё сваё жыццё пражыў у мінскім Уруччы. З мясцовых гістарычных цікавостак тут — невялікія могілкі, на якіх хавалі яшчэ ў дарэвалюцыйныя часы.

Самыя раннія помнікі, якія мне ўдалося расчытаць, адносяцца да канца XIX – пачатку XX стагоддзяў. Гэта ў асноўным прастакутныя адшліфаваныя камяні з акуратна выбітым надпісам. Напрыклад: *Фома Семеновъ Ширинскій. Жилъ 70 л. Ум. 12 Апр. 1898 г. Память отъ сыновей.* Такіх камянёў захавалася каля дваццаці.

Заўважна, што ў 1920–1940-я гады помнікі робяцца прасцейшымі: яны горш апрацаваныя, надпісы на іх самаробныя, крывыя. Пры гэтым да сярэдзіны 1920-х можна сустрэць дарэвалюцыйную арфаграфію і выбітыя крыжы.

Мова ўсіх гэтых помнікаў руская, бо ў асноўным тут ляжаць праваслаўныя. Але ў надпісах адчуваецца ўплыў беларускай: Екотер**ы**на, Гр**ы**горьевна, Никит**а**вна, Викт**а**рович, ж**ы**ла. Няма паслядоўнасці ў перадачы прозвішчаў. Напрыклад, распаўсюджанае мясцовае прозвішча Шырынскі пішацца то Ширынский, то Ширинский, то Ширинскій.

Бачым цікавыя рэчы і з прозвішчам Ерахавец. На дарэвалюцыйных помніках яно пішацца Ероховецъ, Яроховецъ, а ў часы савецкай улады ўжо ў асноўным Ерахавец. Можна зрабіць выснову, што помнікі рабілі мясцовыя майстры, якія, як і сяляне, не вельмі добра валодалі рускім правапісам.

Асноўныя прозвішчы на могілках — Шаліма, Шырынскі, Сандовіч, Клімовіч, Ерахавец,

Раманоўскі. Яны сустракаюцца з канца XIX стагоддзя да нашага часу, бо нашчадкі гэтых людзей і сёння жывуць ва Уруччы.

**Казімірава**

Другія вясковыя могілкі, якія мне пашчасціла добра вывучыць — у Казіміраве Асіповіцкага раёна. Гэта былы засценак, дзе жылі пераважна каталікі. Адным з такіх каталікоў быў мой прадзед Антось Віткоўскі.

На ўскрайку вёскі знаходзяцца касцёл Юзафа Рамесніка 1906 года пабудовы і старыя могілкі, дзе захавалася каля 60-ці каталіцкіх надмагілляў дарэвалюцыйнага часу.

Надпісы тут прыкладна такія: *D.O.M. Tu Spoczywa Zwloki S.P. Antonina Szabuniowa. Zyła lat 69 umarla w. R. 1879 Nowembra 21d. Ta Pamiątka Spozadzona Staraniam Synamy Po drogiej Mamie. Prosi O Anielskie Pozdrowenie.* (Найлепшаму і Найвышэйшаму Богу. Тут спачывае цела шаноўнай пані Антаніны Шабунёвай. Жыла 69 год, памерла ў годзе 1879-м лістапада 21-га дня. Гэтая памятка ўсталяваная намаганнямі сыноў дарагой маме. Просіць пра малітву.)

**Deo optimo maximo, альбо D.O.M.**

формула сярэднявечнага звароту да Бога. Перакладаецца з лаціны як «Найлепшы і Найвышэйшы Божа». Цікава, што першапачаткова пад гэтым выразам меўся на ўвазе зусім не хрысціянскі Бог, а бог з рымскага пантэону Юпітэр.
У хрысціянскім свеце зварот быў асабліва папулярны ў перыяд Рэнесансу на культавых пабудовах і саркафагах. Ініцыялы *D.O.M.* можна таксама знайсці на знакамітым французскім лікёры *Bénédictine* (падрабязней пра яго — у артыкуле Алеся Белага «Беларускі крупнік: самы стары з еўрапейскіх лікёраў» у №11/2019 «Нашай гісторыі»).

Мова тут польская, але вельмі скажоная. У ёй шэраг памылак у напісанні самых розных слоў: ***Z**porządzony*, *Spoz**ą**dzona* (правільна: *Sporządzona*); *Pami**o**tka* (правільна: *pamiątka*); *od Syn**uw***, *W kt**u**rym*, *o**t** c**u**rki* (правільна: *od Synów*, *W którym*, *od córki*); *Synamy*, *Synami* (правільна: *przez Synów*); *o**t** Me**n**ża* (правільна: *od Mężа*); *Pozdrow**e**nie*, *Pozdrow**e**nia* (правільна: *Pozdrowienia*); *Oleszkiew**y**cz* (правільна: *Oleszkiewicz*); *Pawl**y**na* (правільна: *Pawlina*). Да таго ж не паўсюль бачныя дыякрытычныя знакі ў польскіх літарах *ł, ś, ó, ę, ą*: ці то іх не было ад пачатку, ці то зніклі з часам. Вельмі цікава і тое, што майстры, якія рабілі надмагіллі, часам прапускалі літары і тады прыпісвалі іх зверху. З пісьменнасцю па-польску ў нашых краях справы былі яшчэ горшыя, чым па-руску.

Можна таксама звярнуць увагу, што пасля ўсталявання савецкай улады мова помнікаў на казіміраўскіх каталіцкіх могілках пачынае замяняцца на рускую. З'яўляюцца пахаванні з праваслаўнымі імёнамі, хоць часцяком прозвішчы тыя ж самыя, што і на польскамоўных надмагіллях XIX стагоддзя. Сышлі Рафалы, Гіпаліты, Гілярыі, Эміліі, Тэафіліі, Яны, Разалі, Тэклі, а на іх месца прыйшлі Іваны і Уладзіміры. І гэта невыпадкова. Польская традыцыя ў Беларусі шмат у чым трымалася праз уплывы Каталіцкай царквы, якая тут здаўна лічылася «польскай». А багаборчая савецкая ўлада ва ўсходняй частцы Беларусі, дзе яна трывала замацавалася з 1920 года, гэтыя ўплывы на доўгія гады калі не знішчыла цалкам, то звяла да мінімуму. ◆




ФОТА ЮРЫЯ ТАМКОВІЧА

Польскамоўная эпітафія на адным з надмагілляў **на могілках у Казіміраве**.



ФОТА ЮРЫЯ ТАМКОВІЧА

Адзін з надмагільных помнікаў **на могілках ва Уруччы**.

# Як артыстка Купалаўскага атрымала псеўданім ад Якуба Коласа

**Бываюць сустрэчы, якія карэнным чынам змяняюць лёс. Такой сустрэчай для артысткі Купалаўскага тэатра, народнай артысткі БССР Вольгі Грудзінскай (па мужу Александроўскай) стала знаёмства з Якубам Коласам. Піша кандыдат сацыялагічных навук Васіліна Міцкевіч, праўнучка класіка.**

## Сціплы, сарамяжлівы

Першай настаўніцай Вольгі Грудзінскай была Марыя Дзмітрыеўна Каменская, будучая жонка Якуба Коласа, якая выкладала ў Віленскай чыгуначнай школе: «Мы любілі нашу першую настаўніцу. Яна была такая мілая, такая лагодная, такая пяшчотная. І вельмі любіла дзяцей. Яна ніколі на нас не крычала, не падымала голасу, а з такой лагоднай усмешкай, спакойна заўсёды звярталася да дзяцей».

У 1909-м Вольга вытрымлівае ўступныя экзамены ў жаночую гімназію. А праз чатыры гады ёй выпадае шанц пазнаёміцца з мужам былой настаўніцы — Якубам Коласам.

Марыя Дзмітрыеўна Каменская і Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч ажаніліся ў 1913 годзе. Пазнаёміліся яны на настаўніцкіх курсах, дзе Якуб Колас дзяліўся сваімі ведамі і досведам з маладымі настаўнікамі. Ён адразу прыкмеціў маладую і прыгожую дзяўчыну, з якой пазнаёміўся, сустракаўся, праводзіў дадому. Паэт быў закаханы, аднак



адкрыць свае пачуцці саромеўся. Маладая настаўніца гэта бачыла, ужо думала аб сваім далейшым жыцці і стварэнні сям'і, а таму сама зрабіла першы крок — прапанавала паэту ажаніцца. Гэта было сустрэта ім з радасцю. У шлюбнае падарожжа маладыя паехалі да сваякоў Марыі Дзмітрыеўны ў Вільню.

Сям'я Каменскіх сябравала з інтэлігентнай сям'ёй Грудзінскіх (бацька Вольгі працаваў настаўнікам) і запрасіла іх у госці — сустрэцца з маладымі: «Я, зразумела, вельмі чакала гэтай сустрэчы, — успамінала Вольга. — Мне здавалася, што паэт — незвычайны чалавек, што ён незвычайна сябе будзе паводзіць. І як я была здзіўлена, калі выйшаў зусім скромны, просты чалавек, чарнявы, з бародкай. Вельмі скромна апрануты — на ім былі чорныя штаны і такая белая кашуля, так званая касаваротка, падпяразаная нейкім раменьчыкам. І трымаў сябе надзвычай скромна».
Якуб Колас аказаўся «сціплым, крыху сарамяжлівым, нават маўклівым чалавекам з пільным, уважлівым поглядам цёмных вачэй».

## Галіна і Галінка

У 1914 годзе сям'я Грудзінскіх эвакуіравалася ў Тулу, дзе Вольга вучыцца ў мясцовай гімназіі, якую у 1917-м заканчвае на выдатна. Вольга паступае ў тэатральную студыю, вучобу ў якой сумяшчае з працай у статыстычным упраўленні. Але хутка з Украіны (дзе ў той час жыла сям'я Грудзінскіх) прыходзіць вестка аб смерці бацькі. Вольга пакідае Тулу і пераязджае да маці ў Ахтырку Харкаўскай губерні. Там уладкоўваецца ў акцёрскую трупу пры народным доме. З гэтага часу яна — прафесійная актрыса.

У 1921 годзе Вольга Уладзіміраўна паступае ў ваенную трупу палітаддзела 45-й дывізіі, але праз год трупа была расфармаваная. Грудзінская пераязджае ў сяло Ладзікава, што на Віцебшчыне, дзе працуе настаўніцай у школе. Тэатра, вядома, там не было, і здавалася, што з творчай дзейнасцю трэба развітацца назаўсёды.

У 1923 годзе Вольга Уладзіміраўна па школьных справах прыязджае ў Мінск і там сустракаецца з першай настаўніцай. Сустрэча з Марыяй Дзмітрыеўнай была

вельмі радаснай. А яе муж, дазнаўшыся пра перажыванні дзяўчыны, звязаныя з тэатрам, параіў ёй паступіць у трупу БДТ-І. З гэтага часу і пачалося бліжэйшае знаёмства Вольгі Уладзіміраўны з сям'ёй паэта. А праз некалькі дзён Вольга парадавала Міцкевічаў навінамі: яна паспяхова вытрымала іспыты ў самога Еўсцігнея Міровіча і была залічана ў трупу Першага беларускага дзяржаўнага тэатра.

У адну з першых сустрэч Вольга Уладзіміраўна звярнулася да Якуба Коласа з просьбай дапамагчы выбраць які-небудзь мілагучны псеўданім, бо многія з яе новых калег мелі гучныя прыгожыя сцэнічныя імёны. «А чаму б Вам не назвацца Галінкай? — прапанаваў Якуб Колас. — Вы такая тоненькая, маладзенькая... Гэта вельмі да Вас падыдзе». Але вырашылі больш афіцыйна — Галіна. «Гэтак з лёгкай рукі Канстанціна Міхайлавіча я і засталася ў тэатры з прозвішчам такім — Галіна», — успамінала актрыса.



**Сарамяжлівым, сарамлівым** пабачыла Вольга Галіна Коласа ўпершыню.

Цікава, што такое ж прозвішча-псеўданім — Антось Галіна — меў брат Якуба Коласа Міхась Міцкевіч.

**«А чаму б Вам не назвацца Галінкай? — прапанаваў Якуб Колас. — Вы такая тоненькая, маладзенькая...» Але вырашылі больш афіцыйна — Галіна.**

## Лісты з далёкага Ташкента

Дэбютам Вольгі Галіны на сцэне БДТ-І стала роля Ганны ў спектаклі «Машэка» Еўсцігнея Міровіча. Маладой актрысе не хапала досведу і адукацыі, але Міровіч верыў у яе, дапамагаў, падбадзёрваў, і Вольга імкнулася апраўдаць яго давер.

Падчас Другой сусветнай вайны БДТ-І быў эвакуіраваны ў Томск. Вольга Галіна ўспамінала: «Няма нічога дзіўнага ў тым, што, калі наш тэатр у час вайны апынуўся ў Томску, мы ўсе пачалі шукаць сваіх: родных, блізкіх, сяброў, проста — мінчан, беларусаў. І радаваліся, калі пошукі не былі марныя. Так і я, апынуўшыся далёка ад Беларусі, раптам з радасцю даведалася, што Якуб Колас з сям'ёй выехаў з Мінска і жыве ў Ташкенце. Хутка наладзілася перапіска. Перапісвалася я з Марыяй Дзмітрыеўнай. Бедавала, што не ведаю, дзе маці і брат. І прыходзілі сардэчныя, цёплыя, як поціск сяброўскай рукі, лісты з далёкага Ташкента ад маёй першай настаўніцы...»

У Томск Якуб Колас даслаў Вользе падарунак — зборнік вершаў «Голас зямлі», выдадзены ў Ташкенце да 60-годдзя паэта ў лістападзе 1942 года, з дароўным надпісам **«Дорогой Галине на память от Якуба Коласа. 25.IX. 1943 г.»** і кнігу «Адпомсцім» з дароўным надпісам **«Дорогой Оле Грудинской на память от Якуба Коласа. 25.IX. 1943 г.»**. Гэтыя кнігі актрыса пранесла праз усё жыццё і перадала ў музей Якуба Коласа разам з успамінамі пра класіка. ◆

Званне народнай артысткі Беларусі Вольга Галіна атрымала ў 1946 годзе. Актрыса запомнілася такімі ролямі, як графіня Стэмбоўская («Кастусь Каліноўскі» рэжысёра Еўсцігнея Міровіча), маркіза Дарымена («Мешчанін у шляхецтве» Мальера), Купавіна («Ваўкі і авечкі» Аляксандра Астроўскага), Соф'я («Апошнія» Максіма Горкага), Марыя Мікалаеўна («Рускія людзі» Канстанціна Сіманава), Алена Мікалаеўна («Маладая гвардыя» Аляксандра Фадзеева), Ранеўская і Аркадзіна («Вішнёвы сад» і «Чайка» Антона Чэхава), Лідзія Іванаўна і графіня Чарская («Ганна Карэніна» і «Уваскрасенне» Льва Талстога). Усё жыццё артысткі звязана з тэатрам Янкі Купалы (БДТ-І быў перайменаваны ў Тэатр імя Янкі Купалы ў 1946 годзе), дзе яна працавала да 1962 года. Апошняя роля Вольгі Галіны на сцэне Купалаўскага — Карэніна ў спектаклі «Жывы труп» паводле Льва Талстога. Акрамя гэтага, актрыса займалася педагагічнай дзейнасцю: пасля вайны выкладала ў студыі тэатра, а ў пачатку 1960-х — у Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце.

# Бабіны запісы

**Знайшоў у старой вясковай скрыні Алесь Пашкевіч.**

Некалькі такіх разрозненых аркушыкаў самі па сабе, відаць, не прыцягнулі б увагі, каб не спецыфічная мова, якой тут апісваюцца рэлігійныя сюжэты. Алфавіт — паслядоўна вытрыманая польская лацінка, але ў самой мове нічога польскага няма. Асноўная лексіка ў тэксце — руская, але ў пераважна беларускім фанетычным выкананні. Нават гук [г] усюды паслядоўна перадаецца літарай «h», а не «g», таксама па ўсім тэксце прысутнічае дзеканне і цеканне. А ў многіх словах ці нават цэлых фразах выразна прабіваюцца асаблівасці мясцовага дыялекту — гаворкі вёскі Рубель на Століншчыне.

Почырк на аркушах — маёй бабы Олі. На жаль, яе ўжо немагчыма распытаць, калі і адкуль гэта было перапісана ці запісвалася пад дыктоўку. Аднак, хутчэй за ўсё, рабілася гэта неўзабаве пасля вайны. Раней — наўрад ці, бо вёску немцы пры адступленні ў 1944-м дашчэнту спалілі, і ніякіх іншых папер з даваеннага часу ў сям'і не захавалася.

Дакумент надзвычай цікавы для ілюстрацыі тагачаснай культурна-моўнай сітуацыі ў рэгіёне. Баба, як і іншыя яе аднагодкі (яна 1927-га года нараджэння), паспела да вайны павучыцца ў школе, дзе вучылі толькі па-польску. Таму і ўмела яна, відаць, тады чытаць і пісаць толькі «польскімі літарамі» — ці, прынамсі, гэты алфавіт быў для яе найзручнейшы. Але, акрамя школы, больш польскай мовы нідзе не было. У хаце і на вуліцы гаварылі — і ў гэтай мясцовасці гавораць да сёння! — толькі па-свойму, маліліся па-царкоўнаславянску. А рэлігійная літаратура для мас была на літаратурнай рускай мове. У бабіных запісах усе гэтыя мовы перамяшаліся, і атрымаўся такі вось


świeta kak by jeho Hospoda mojeho pojmano było żydamy i prywiedzi-
no było żydam w ruki na porykanie Uczenikom jeho prewozlubienn-
-ym Judoju Iskarjodzim cenoju 30 srebrnikow i prywiedzieno było
od żydow k ponitom Piłacie hemonu rozpjnacje. W trejci dzień
na kreście rozpinli na troch dzierewach na kedre, kiparysie i na
... pomieżdu dwoma rozbojnikami na hore Hołhofie w ruki i
nohi hwozdziami prychwozdzili, odzin pryszoł i kopjem rebro probiw
i ściekła krow i woda na iściełenie prawosławnych Chreścijan. Sonce
pomierkło Łuna krowju obliłas niebo i ziemla potrasłałas cerkownaja


i od Hospoda i od miłości npostoła i od niemiłos...
nikakoj. Nikakoj sudzija nie możet być. Nie mo...
mieście, ustaniet na nohi i budziet pocichońku ...
i dobrym siercem i budziet howoryć jako ociec ...
Taja żena ili muż budziet nieprawy, a wsiehd...
wsiem dzietu. I jeszcze kotory czełowiek pojdziet ...
siej son światoju molitwoju z soboju niesieć w...
leżności toł czełowiek sochranion budziet i po...
od wojny od bury nonosiniej Łukawoho i niecz...

«В трэйці дзень на крэсьце розпялі на трох дзерэвах на кэдрэ, кіпарысе і на оліве помежду двома розбойнікамі на горэ Голгофе в рукі і ногі гвоздзямі прыхвозьдзілі, одзін прышол і коп'ем рэбро пробів, і сьцекла кров і вода на ісьцеленіе православных Хрэсьціян».

«Не можэ уседзець на месьце, устанет на ногі і будзет поціхоньку говорыць кроткім і добрым серцэм і будзет говорыць яко оцец з чадамі своімі».

**Баба Оля з сынам Васілём, маім бацькам.** Пачатак 1960-х. Здымак зроблены ў Давыд-Гарадку ў мясцовага фатографа.

спецыфічны і нават дзівосны з пункту гледжання сучаснага беларуса кактэйль.

На маёй памяці баба, пішучы лісты і робячы ўсялякія запісы для памяці, карысталася ўжо выключна кірыліцай. Пісала на той жа фармальна рускай мове, шчодра перасыпанай словамі і выразамі з мясцовай гаворкі. Але і лацінку не забывалася, выкарыстоўваючы яе для ліставання з сяброўкамі дзяцінства і юнацтва, што пасля вайны апынуліся ў Амерыцы. У гады вайны ўсе яны былі ўгнаныя на працу ў Германію, адкуль баба вярнулася на радзіму, а сяброўкі — не. Кірыліцы сяброўкі, відаць, не ведалі ці ведалі кепска, засвойваць яе ў Амерыцы патрэбы не было. Таму і пісалі ўсе так, як навучыліся і прызвычаіліся змалку. ◆

**Архіварыус. Зборнік навуковых паведамленняў і артыкулаў. Выпуск 17.** – Мінск: НГАБ, 2019. – 336 с.




Ці ведаеце вы, якія падчысткі і праўкі мае самы старажытны дакумент Нацыянальнага архіўнага фонду Рэспублікі Беларусь, які датуецца 1391 годам? У новым 17-м выпуску штогодніка «Архіварыус», падрыхтаванага Нацыянальным гістарычным архівам Беларусі, Сяргей Палехаў раскрывае таямніцу, хто і што дапісаў у лісце Фёдара Карыятавіча. Гісторыя амаль дэтэктыўная! Складальнікі пільна сачылі за палітычнымі падзеямі ў свеце і аператыўна ўносілі карэктывы ў свае папярэднія рашэнні.

Максім Макараў апісвае падарожжа купецкага абозу з Прусіі ў Магілёў у 1718 годзе з поўнай яго «навігацыяй». Дзе начавалі купцы і з якой хуткасцю рухаліся вазы з таварам? Што везлі ад немцаў увішныя магілёўскія гандляры?

Мікола Волкаў на падставе архіўных крыніц піша пра гісторыю гакаўніц — арыгінальнага віду зброі XV–XVII стагоддзяў, нечага сярэдняга паміж гарматай і стрэльбай. Без гакаўніц не абыходзілася аніводная сур'ёзная бітва тых часоў.

Ілья Бутаў распавядае пра «ўфолагаў» часоў Першай сусветнай вайны — аэрапланафобію і чуткі пра незвычайных людзей, якія прызямляліся ў розных частках Міншчыны і малявалі таямнічыя планы.

А яшчэ выпуск змяшчае не менш цікавыя артыкулы Зінаіды Антановіч, Глеба Бераставога, Яўгена Глінскага, Валянціна Калечыца, Маргарыты Кароль, Андрэя Латушкіна, Юрыя Лаўрыка, Дзяніса Лісейчыкава, Дзмітрыя Матвейчыка, Андрэя Мацука, Сяргея Рындзіна, Яўгена Хралянка, Вольгі Чарвінскай, Фёдара Чарняўскага і Алега Яўстрацьева.

Гэты і іншыя выпускі зборніка можна набыць у мінскай кнігарні **«Акадэмкніга»** (пр. Незалежнасці, 72), а таксама ў **Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі** (горад Мінск, вул. Крапоткіна, 55, каб. 24).

# СУПЕР-БЕЛАРУСЬ,

## АБО НЕЙМАВЕРНЫЯ ПРЫГОДЫ МАЛАДОЙ СЯМ'І ПРАГРАМІСТАЎ

### ЧАСТКА 6

### ШТО ЗДАРЫЛАСЯ З ВІТАЎТАМ



Кароткі змест папярэдніх частак

Маладая сям'я праграмістаў набывае хутар. У далейшым высвятляецца, што якраз на гэтым месцы існуе прасторава-часавы партал, што вядзе ў СуперБеларусь – іншае вымярэнне, дзе жывуць героі мінуўшчыны. Праз партал у наш сусвет прыходзяць Алаіза Пашкевіч і Усяслаў Чарадзей. Яны распавядаюць галаве сям'і Максіму пра СуперБеларусь і просяць дапамагчы ім адшукаць князя Вітаўта, які знік у нашым сусвеце на пачатку ХХ стагоддзя. Пошукі прыводзяць Максіма ў вёску Напуі, дзе Вітаўт без сувязі з СуперБеларуссю амаль страціў сваю звышнатуральную моц, ператварыўся ў немоглага старога, якога павольна атручвае сусед па доме – п'яніца і злодзей. На дапамогу Максіму з СуперБеларусі прыходзіць Кастусь Каліноўскі. Ён пазнае ў Вітаўтавым суседзе Вітольда Парфяновіча – свайго былога паплечніка, які ў выніку яго і здаў расейскім уладам. Парфяновіч неўзабаве пераўтвараецца ў магутную і злую істоту, і Каліноўскі перамагае яго толькі з дапамогай Алаізы Пашкевіч і Эміліі Плятэр – яны прыйшлі з СуперБеларусі праз партал, адкрыты ўсё яшчэ немоглым Вітаўтам літаральна на пару хвілінаў. Выратаваўшы Вітаўта, усе разам вяртаюцца на Максімаў хутар...













АЛЕ СТО ГАДОЎ ТАМУ ПЕКЛА ЗНАЙШЛО СПОСАБ ВЫРВАЦЦА. ІХ ПАРТАЛ АДЧЫНІЎСЯ Ў МЕНСКУ...
НАРЭШЦЕ!!! ВЫЙСЦЕ ЗНАЙШЛОСЯ! НАПЕРАД! МІНСК НАШ!!!


Я ПРА ГЭТА ДАВЕДАЎСЯ І ПАД ВЫГЛЯДАМ АФІЦЭРА АРМІІ БНР НАКІРАВАЎСЯ Ў МІНСК...
...
...ЗАМЕСТ ТАГО, КАБ САБРАЦЬ УСІХ НАС І ДЗЕЙНІЧАЦЬ РАЗАМ!.. ТАБЕ ЎЖО СЁМАЯ СОТНЯ ГОД, КНЯЖА, А ФАНАБЭРЫІ... ЯК У ПАДЛЕТКА!


ЗАЧЫНІЦЬ ПАРТАЛ З ПЕКЛА Ў МЯНЕ АТРЫМАЛАСЯ...
ВІ-ТА-А-АЎТ!!! КАБ ЦЯБЕ ХАЛЕРА!! БЯЖЫМ НАЗАД!!
ПРЭЧ АДСЮЛЬ!
ВЯРТАЙЦЕСЯ Ў СВАЁ ПЕКЛА! ГЭТЫ СВЕТ НЕ ДЛЯ ВАС!


АЛЕ АДЗІН НЯЧЫСЦІК ЗДОЛЕЎ ПРАРВАЦЦА...
НУ, ЗДАРОЎ ІЗНОЎ, ВІТОЛЬД ПАРФЯНОВІЧ, ВЕРАВЫЗНАННЯ КАТАЛІЦКАГА, ХА-ХА, ДВАРАНІН...


ЁН НАВЁЎ НА МЯНЕ ЧЭКІСТАЎ...
ТАВАРЫШЫ, АРЫШТУЙЦЕ ГРАМАДЗЯНІНА КНЯЖЭВІЧА! ЁН ВОРАГ САВЕЦКАЙ УЛАДЫ, БЭЭНЭРАВЕЦ, НЕМЦАМ СЛУЖЫЎ!
БУРЖУАЗНА-НАЦЫЯНАЛІСТЫЧНЫ ЭЛЕМЕНТ?! РАЗБЯРОМСЯ!


РАЗАБРАЛІСЯ ЯНЫ, ТРЭБА АДДАЦЬ НАЛЕЖНАЕ, ХУТКА...


ТАМ, ДЗЕ ЗАРАЗ ПАРК ЧАЛЮСКІНЦАЎ, ТАДЫ БЫЛА РАССТРЭЛЬНАЯ ЯМА. У ЁЙ Я І АЧОМАЎСЯ...
НЕ ЗАРЫЛІ АДРАЗУ, ДЗЯКУЙ БОГУ... ПАРТАЛ Я ЗАЧЫНІЎ, ВОСЬ ТОЛЬКІ ПАРФЯНОВІЧ... ТРЭБА ВЯРТАЦЦА...


ВЯРНУЎШЫСЯ ДА ХАТЫ НАШАГА ПРАВАДНІКА - ЯКРАЗ СЮДЫ, ДЗЕ МЫ ЗАРАЗ, - Я ПАБАЧЫЎ, ШТО І ХАТА, І ЯСЕНЬ ЗГАРЭЛІ...
ТАК, ПАДАЕЦЦА, ШТО ГЭТА ЎСЁ НЕ ВЫПАДКОВА...


ПАДПАЛІЎ НЕХТА, БАЧЫЛІ ТУТ АДНАГО, АЛЕ НЕ ЗЛАВІЛІ СВОЕЧАСОВА... ЖОНКА ЗАГІНУЛА, Я - САМ БАЧЫШ... ВОСЬ МЫ І ЖЫВЁМ ТУТ ПАКУЛЬ, НА ПАПЯЛІШЧЫ...
ЭХ, ЛЮЦЫЯНЕ, НЕ ЧАЛАВЕК ГЭТА ХАТУ ТВАЮ СПАЛІЎ... І ЁН УСЁ ЯШЧЭ НЕДЗЕ ТУТ...

ДАРОГІ Ў СУПЕРБЕЛАРУСЬ НЕ БЫЛО, Я ВЫРАШЫЎ ЗАСТАЦЦА ТУТ. ПАСЯЛІЎСЯ ПОБАЧ, ПАСАДЗІЎ НОВЫ ЯСЕНЬ...

...РАСЦІ, УМАЦОЎВАЙСЯ, ДРЭВА!..

ЯК МОЦЫ НАБЯРЭШ, ВЯРНУСЯ НАЗАД...

З ЛЮЦЫЯНАМ МЫ СТАЛІ СУСЕДЗЯМІ, Я ЯГО ВЫЛЕЧЫЎ, З СЫНАМ ДАПАМАГАЎ. МЫ І Ў СОРАК ПЕРШЫМ УТРОХ ПАЙШЛІ НА ФРОНТ...

З НЕМЦАМІ Я ЎЖО ВАЯВАЎ... АЛЕ Ж ТЫЯ РЫЦАРАМІ БЫЛІ... ГЭТЫЯ, КАЖУЦЬ, ІНШЫЯ...

ВЯРНУЎСЯ Я ЎЖО АДЗІН...

НУ, ВОСЬ Я АМАЛЬ ШТО ДОМА... А ГЭТА ХТО ЯШЧЭ?...

ЛЯ ХАТЫ Я ЎБАЧЫЎ МІЛІЦЫЮ І...ПАРФЯНОВІЧА. ЁН НЕ ЗМЯНІЎСЯ ЎВОГУЛЕ...

ТАВАРЫШЫ, ЁСЦЬ ПАЖАДАННЕ ГРАМАДСКАСЦІ, КАБ ГЭТЫ ХУТАР БЫЎ ЗНЕСЕНЫ!

НІКОМУ ЁН НЕ ПАТРЭБНЫ, А ЖЫЎ ТУТ ВОРАГ НАРОДА, НЯМЕЦКІ ПАМАГАТЫ...

ТАК, СЛУШНА... ТРЭБА БУДЫНКІ ЗНЕСЦІ, А ДВОР ЗААРАЦЬ УВОГУЛЕ... ДРЭВА СПІЛАВАЦЬ...

НЯМЕЦКІ ПАМАГАТЫ, ЗНАЧЫЦЬ?! ДЫ Я ЦЯБЕ...

ААААА!!!

Я ТАДЫ ЯШЧЭ МАЦНЕЙШЫ БЫЎ. АД ТАГО ЎДАРУ ЁН НІБЫТА «ПАМЁР». І ЛЮДЗІ ЯМУ ПАВЕРЫЛІ...

...

...ЗНЯВОЛІЦЬ ТЭРМІНАМ НА ДВАЦЦАЦЬ ГОД!

БЕЗ СУВЯЗІ З СУПЕРБЕЛАРУССЮ Я, НАТУРАЛЬНА, ПАЧАЎ СТАРЭЦЬ І СТРАЧВАЦЬ МОЦ...

КАЛІ ХУТКА НЕ ВЯРНУСЯ – ДАКЛАДНА АДЫДУ ДА ЦЕНЯЎ!

ДВАЦЦАЦЬ ГОД ПРАЙШЛО ХУТКА...

УМАЦАВАЎСЯ ЯСЕНЬ! МОЖНА ПАСПРАБАВАЦЬ...


ЯК ВЫ ДУМАЕЦЕ, КАГО Я ПАБАЧЫЎ ПЕРШЫМ? ТАК, МЕНАВІТА ЯГО!
ТЫ?!!
ЗДАРОЎ, КНЯЖА! НЕ ЧАКАЎ? ТРЭБА Ж, ЗУСІМ СТАРЭНЬКІ СТАЎ! ДЗЕ ТВАЯ СУПЕРМОЦ, ГА?! ХТО ТЫ БЕЗ ЯЕ?
А ЯК ЖА ТЫ... !!!...
...!!!
ЯК? ВЕЛЬМІ ПРОСТА! Я АЖЫЎ, ПРЫКІНУЎСЯ ЎЛАСНЫМ СВАЯКОМ, А ЁЛУПЫ МЯСЦОВЫЯ МНЕ І ПАВЕРЫЛІ! ЦЯПЕР ВОСЬ ЖЫВУ ТУТ! ХАРЧОВАЯ БАЗА ТУТ ДОБРАЯ - СПРЭС ЗАЙЗДРОСНІКІ, П'ЯНЮГІ, ЗЛАДЗЕІ ДЫ ЗАЛЁТНІКІ!... ЯНЫ ДАЮЦЬ МНЕ МОЦ! ЦЯПЕР Я ТУТ ГАСПАДАР!


АХ ТЫ, ПЯКЕЛЬНАЯ НАВАЛАЧ! Я ЦЯБЕ ЗНІШЧУ!! АХ!!..
ЛЯГЧЭЙ, ДЗЯДУЛЯ, ЛЯГЧЭЙ! ПРЫМІ ВОСЬ ЛЕКІ, ХА-ХА, СУПАКОЙСЯ...


ЁН ЗНЯВОЛІЎ МЯНЕ І НАПАМПОЎВАЎ ЛЕКАМІ. КАТАВАЎ, МЯРКУЮЧЫ, ШТО Я АДЧЫНЮ ПАРТАЛ ДЛЯ ЯГО СВЕТУ, КАЛІ ЯСЕНЬ ВЫРАСЦЕ...
ТАК, ДЗЯДУЛЯ, ЧАС ПРЫМАЦЬ ЛЕКІ! НУ А КАЛІ СУР'ЁЗНА, СТАРЫ ВАР'ЯТ, АЛЬБО ТЫ МНЕ ДАПАМАГАЕШ, АЛЬБО АДЫХОДЗІШ ДА ЦЕНЯЎ! НАЗАЎЖДЫ!
...


А ПОТЫМ ПРЫЙШЛІ МЫ! ЧАС ЗБІРАЦЦА, СЯБРЫ! АЛАІЗА, ДАЛУЧАЙСЯ...
ПАСПЕЕШ ЯШЧЭ КНЯЗЮ ВОЧЫ ВЫДРАПАЦЬ ЗА НЕДЫСЦЫПЛІНАВАНАСЦЬ! ШКАДА, МАКСІМА З САБОЙ НЕЛЬГА ЎЗЯЦЬ, НАМ ТАКІЯ РАЗУМНЫЯ ДЗЕЦЮКІ ПАТРЭБНЫЯ!..
ТАК, АСТАТНЯЕ ВЫ САМІ ВЕДАЕЦЕ! ЧАС!
Я Б НАВАТ ДА ПАНЕ КАХАНКУ СЁННЯ ЗАВІТАЎ!
МАКСІМ? ТАК, ПРАВАДНІК ЗАСТАЕЦЦА ТУТ! ЁН ЖА НАШ НОВЫ ПРАВАДНІК, НІХТО НЕ СУПРАЦЬ?
НУ ШТО, БРАЦЕ-КНЯЖА, ДАХАТЫ?


РАПТАМ...
ТАТА, Я...
ТАТА, ХТО ГЭТА???...

**Падпісны індэкс «Асцярожна: дзеці!»— 75080 (ведамасны 750802)**

Выйшлі з друку два абсалютна новыя для Беларусі часопісы. Адзін называецца «Дуду», а другі — «Асцярожна: дзеці!». Купіце сваім малы два: яны самі разбяруцца, каторы ім цікавейшы. Часопісы прадаюцца ва ўсіх шапіках, кнігарнях, а таксама гіпермаркетах.

«Асцярожна: дзеці!». Тут галоўныя героі — Цім, Мара, сабака Газ, кот Тормаз і Занадта Разумны Смартфон — разблытваюць розныя дэтэктыўныя гісторыі. І заадно разам з чытачамі спазнаюць свет. У часопісе — і карысная інфармацыя, і захапляльныя прыгоды, і заданні, якія трэба выканаць, і конкурсы, у якіх можна перамагчы, і QR-коды, па якіх можна будзе выйсці на старонкі ў інтэрнэце з цікавай інфармацыяй. Тэма першага нумара — самалёты.

У наступных нумарах Цім, Мара, Газ і Тормаз будуць шукаць скарбы, апынуцца ў надзвычайных сітуацыях і пры гэтым будуць карыстацца самымі сучаснымі тэхналогіямі. Купляйце і чытайце! А найлепш — выпісвайце! Гэта самы выгадны варыянт.




# Найлепшы падарунак дзецям «Дуду» і «Асцярожна: дзеці!»

**Падпісны індэкс «Дуду» — 75081 (ведамасны 750812)**




Часопіс «Дуду» разлічаны на дзяцей да сямі гадоў, але чытаць яго могуць дзеці ад 1 да 101 года. Казкі, вершы і нават музыка ды песні (іх можна прайграць па QR-кодах), інтэрактыўныя гульні, коміксы, конкурсы, дзівосы, сюрпрызы — усё гэта будзе ў кожным нумары часопіса. А таксама заданні на развіццё логікі, увагі і памяці, дробнай маторыкі, для папаўнення слоўнікавага запасу і падрыхтоўкі да школы. Яшчэ мы будзем дапамагаць дзецям вучыцца чытаць, пісаць і лічыць. Нумары часопіса будуць тэматычнымі. Тэма гэтага нумара — каты і іх жыццё.

У наступных нумарах раскажам пра метро і іншы транспарт, пра булачкі і цукеркі, зоркі і касмічныя караблі, сонца і хмары, любімыя святы, небяспечных драпежнікаў і пеўчых птушак і пра многае іншае… Героі часопіса — хлопчык Зор, дзяўчынка Лёля і падушка Дуду — стануць надзейнымі сябрамі чытачоў. Купляйце і чытайце! А найлепш — выпісвайце! Гэта самы выгадны варыянт.